

● Каваль Юрый Гудзіновіч.

● І расцвіла глыбоцкая ружа.

Свята прыйшло і скончылася. А ружа засталася. Прыгожая, крыху таямнічая і — жалезная. Так, жалезная, але пра гэта думалася ў апошнюю чаргу. Разам з ружай засталася надзея, што за І Усебеларускім святам кавальства ў Глыбокім, што на Віцебшчыне, прыйдзе другое і трэцяе... Што тыя людзі, якія глядзелі на жалезную ружу, і тыя, хто не прыйшоў на яе паглядзець і не вельмі хацеў, каб гэта рабілі іншыя, з цягам часу ўсё-ткі зразумеюць, якая гэта старажытная і цудоўная прафесія —







# КАЛІ Б ГЕФЕСТ БАЧЫЎ...

● Выстава вырабаў. Люстэрка, аформленае кавалямі.
● Падрастае надзейная змена.
● Добраму каню — добрую падкову.

каваль. І што першы ў Беларусі глыбоцкі кааператыў «Дэкор» — далёка не апошні.

Глыбоцкія пачынальнікі кавальскай справы год назад марылі ўбачыць на даху сваёй кузні не звыклага для ўсіх пеўня, а самога што ні на ёсць — кульгавага Гефеста, і кааператыў павінен быў называцца — «Гефест». Але ў той час у складзе кааператыва былі дрэваапрацоўшчыкі, таму і з'явілася цяперашняя назва «Дэкор». За кароткі час кавалі даказалі, што не згас назаўсёды кавальскі агонь у Беларусі. Горад клаўся спаць, а з кузні разносіўся па ўсім наваколлі звон. Горад прачынаўся — і людзі зноў чулі, што каваль не спіць, працуе.

Для глыбачан свята пачалося намнога раней, чым было прызначана. Сорак гарадскіх будынкаў «падкавалі» члены кааператыва — упрыгожылі жалезнымі карункамі і шыльдамі — ну амаль што, як у старадаўнія часы. Магчыма, таму ў свята кавальства так хутка знайшліся спонсары — Глыбоцкі малочна-кансервавы завод, абласны савет прафсаюзаў кааператараў, гарадскі маладзёжна-тэхнічны цэнтр,— якія ўбачылі ў «Дэкоры» не проста звычайны кааператыў, што за першы квартал мінулага года зрабіў паслуг насельніцтву на 13 тысяч рублёў, а таленавітых і патрэбных творцаў.

На свяце свае ўмельства і спрыт дэманстравалі самыя маленькія (ледзь-ледзь да горна дастаюць!) хлапчукі. Ці не школа маладых кавалёў? Значыць, у «Дэкора» ўжо ёсць самае галоўнае — паслядоўнікі.

На наступны год у Глыбокім плануецца правесці Усесаюзнае свята кавальства. А перад гэтым адкрыецца музей кавальскага майстэрства. І я ўпэўнены, што правядуць і адкрыюць. І адкуюць яшчэ нямала радасці кааператары-кавалі. Таму што ўсё, што планавалася на гэта свята,— выстаўкі твораў гісторыі кавальства на Беларусі, работ раённага клуба народных майстроў «Крыніца», выступленні фальклорных калектываў, паказальная коўка,— усё гэта было, і людзі, што прыйшлі і прыехалі ў Глыбокае, убачылі сапраўднае беларускае кавальства, якому жыць і жыць.

...Цікава, ці мог Гефест адкаваць ружу? А калі мог, ці была яна такая прыгожая і таямнічая, быццам жывая, як глыбоцкая?..

Алесь КОКТЫШ.

Адразу падкрэслім: так, новы кіраўнік МЗС рэспублікі памятае пра свае публічныя абяцанні, строга прытрымліваецца той канцэпцыі абнаўлення работы міністэрства, якая пры назначэнні П. К. Краўчанкі на пасаду была адобрана народнымі дэпутатамі.

На сорак пятай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН дэлегацыя Беларусі была зусім не той паслухмянай «малодшай сястрой», якая яшчэ ўчора і кроку не магла зрабіць без папярэдняга дазволу дэлегацыі — «старэйшай сястры». Вынік? Свет толькі ў канцы 1990 года ўведаў усю праўду пра трагічныя вынікі для беларускага народа выбуху ў Чарнобылі: палітычныя лідэры, бізнесмены, розныя грамадскія арганізацыі былі дрэнна праінфармаваны аб маштабах атамнай бяды. Цяпер можна спадзявацца на рэзкае павелічэнне такой неабходнай нам замежнай дапамогі.

Прапаноў паступае, на шчасце, усё больш...

Цікава, што ў складзе нашай дэлегацыі на 45 сесіі Генеральнай Асамблеі не было ніводнага партапаратчыка. А ездзілі ў Нью-Йорк, акрамя, зразумела, кіраўніка дэлегацыі, міністра П. К. Краўчанкі і пастаяннага прадстаўніка БССР пры ААН Г. М. Бураўкіна Яўген Сцяпанавіч Селівончык (намеснік генеральнага дырэктара па знешнеэканамічных сувязях Беларускага аб'яднання па вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў, народны дэпутат БССР), Адам Іосіфавіч Мальдзіс (доктар філалагічных навук, член Саюза пісьменнікаў СССР, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў), Валянцін Макеевіч Нікулін (начальнік аддзела міжнародных эканамічных арганізацый МЗС БССР), Ніка Аляксандраўна Грэсь (старшы навуковы супрацоўнік НДІ радыяцыйнай медыцыны Міністэрства аховы здароўя БССР)...

Карацей кажучы, дэлегацыя была і аўтарытэтная і — працаздольная, энергічная. Самыя вядомыя газеты свету ўпершыню за дзесяцігоддзі выносілі ў загалоўкі ідэі прадстаўнікоў Беларусі.

Працытуем, напрыклад, «Известия»: «Міністр замежных спраў БССР Пётр Краўчанка... ад імя сваёй рэспублікі прапанаваў **стварыць бяз'ядзерны пояс, які ахапіў бы ў перспектыве Беларусь, Украіну і рэспублікі Прыбалтыкі і да якога «пры жаданні маглі б далучыцца краіны Цэнтральнай Еўропы».**

Па словах міністра, «мы выразна ўсведамляем, што дасягненне бяз'ядзернага статуса для Беларускай ССР закранае стратэгічныя інтарэсы многіх бакоў і патрабуе адказнага і ўзважанага падыходу».

...Была ў выступленні міністра і яшчэ адна ініцыятыва — **аб аб'яўленні дваццаць шостага красавіка, гэта значыць, таго дня, калі здарылася чарнобыльская трагедыя, міжнародным днём па прадухіленні ядзерных і іншых прамысловых катастроф.**

Краўчанка сустракаўся ў ААН з генеральным дырэктарам Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі Бліксам. Ён прапанаваў **пашырыць квоту беларускіх спецыялістаў у складзе МАГАТЭ.** Ён гаварыў пра стажыроўку беларускіх спецыялістаў у заходнееўрапейскіх лабараторыях.

Міністр спадзяецца **стварыць у Беларусі міжнародны цэнтр спецыяльна для даследавання яшчэ невядомых радыяцыйна-экалагічных і радыебіялагічных праблем.**

У апублікаваных у самым канцы кастрычніка 1990 года «Асноўных напрамках стабілізацыі народнай гаспадаркі і пераходу да рыначнай эканомікі» сказана ясна, што ва ўмовах пераходу да рынку галоўнай фігурай у знешнеэканамічнай дзейнасці становіцца прадпрыемства. Гаворка ідзе пра раздзяржаўліванне і дэцэнтралізацыю знешнеэканамічнай дзейнасці з перадачай камерцыйных аперацый на ўзровень прадпрыемстваў пры забеспячэнні іх дзелавой самастойнасці і сканцэнтраванні функцый дзяржорганаў на рэгуляванні і стымуляванні гэтых аперацый.

Ведамасныя знешнеэканамічныя аб'яднанні ператвараюцца ў пасрэдніцкія фірмы, у тым ліку акцыянерныя.

**З 1 студзеня 1991 года валютная выручка залічваецца непасрэдна на рахункі прадпрыемстваў.** Але частка яе падлягае абавязковаму продажу ў саюзны і рэспубліканскі бюджэты па нарматывах, якія заахвочваюць індустрыялізацыю экспарту.

Яшчэ да сакавіка 1991 года павінны быць створаны сістэмы страхавання знешнеэканамічных рызык прадпрыемстваў. Зараз уводзіцца ў дзеянне саюзная сістэма знешнеэканамічнай інфармацыі. Праводзіцца дзяржаўная сертыфікацыя «школ бізнесу» і кансультатыўных фірм.

**Кіраванне знешнеэканамічным комплексам пачынае пераводзіцца на прававыя і эканамічныя рычагі** (мытныя пошліны, падаткі, курс валюты, банкаўскі працэнт). Колькасць цэнтралізавана ліцэнзійных экспартных тавараў зводзіцца да мінімуму. З'явіцца разгорнутая сістэма кантролю за захаваннем знешнеэканамічнага заканадаўства і правіл канкурэнцыі.

Зразумела, што неабходна мэтавае прыцягненне ў краіну замежнага капіталу. Таму пашыраюцца магчымыя формы яго інвестыцый, устанаўліваюцца іх прыярытэтныя напрамкі. Замежныя інвестыцыі паступова будуць ператварацца ў галоўны канал прыцягнення замежных сродкаў.

Відаць, зусім хутка дзейнасць МЗС набудзе нечаканыя «нетрадыцыйныя рысы» і трапіць пад самую пільную ўвагу (як сёння, напрыклад, міністэрства гандлю і міністэрства фінансаў) усіх нас, «людзей з чэргаў». І тады ўжо ніхто з нашых «дамашніх» міністраў не пазайздросціць свайму калегу П. К. Краўчанку.

Што на рынку даражэй за любыя канвертаваныя грошы? Слова! Слова закона, дагавора, кантракта, прапановы... Сёння любы бізнес будзе паралізаваны, калі прадстаўнік фірмы ці прэзідэнт кампаніі пазбавіцца сродкаў сувязі або гэта сувязь пачне барахліць.

Дарэчы, з Беларусі сёння дазваніцца да любой кропкі планеты намнога лягчэй, чым зрабіць гэта нават са сталіц іншых рэспублік Саюза.

— Пакуль гэта сапраўды так,— сказаў мне пры сустрэчы міністр сувязі і інфарматыкі БССР Іван Міхайлавіч Грыцук.— Але калі б мы не праяўлялі актыўнасці, яшчэ ўчора не падумалі пра заўтрашні дзень,— ужо праз некалькі месяцаў тэлефонную размову, напрыклад з Парыжам ці Нью-Йоркам людзям давялося б чакаць не некалькі мінут, як зараз, а, магчыма, некалькі дзён. Таму што **за апошні год попыт на паслугі міжнароднай сувязі вырас у 4 разы.**

# МІНІСТР ЗА МЯЖОЙ І ДОМА

Такім чынам, наконт сітуацыі ў БССР шмат гаварылі і спрачаліся вядучыя палітыкі ў Нью-Йорку, пра беларускія ініцыятывы шырока паведамляла замежная прэса, але ў самой нашай рэспубліцы гэтыя фактычна сенсацыйныя падзеі прыкметнага рэзанансу не мелі. Таму што нават вынікі аварыі на ЧАЭС адышлі неяк у цень пры асляпляльным талонным выбуху і з'яўленні «ядзерных» цэн на самае неабходнае. Татальны дэфіцыт ужо не пакідае ні часу, ні сіл на тое, каб «радавы» наш грамадзянін сур'ёзна непакоіўся:

— Як там Беларусь на міжнароднай арэне?

Бясспрэчна, мы перасталі ўжо да жаху баяцца агрэсіі НАТО і даўно не завальваем паштовую скрынку Белага дома пісьмамі пратэсту, а, наадварот, тысячы грамадзян накіроўваюцца ў пасольствы заходніх краін з мараю паехаць хоць куды-небудзь і хоць на самых дрэнных умовах. Толькі б не стаяць у чэргах, не прыніжацца перад родным савецкім чыноўнікам, прадаўцом і грузчыкам. Ужо ніхто не патрабуе ад нашых знешнепалітычных дзеячаў толькі аднаго:

— Змагайцеся за мір! Галоўнае — каб не было вайны.

За мір, вядома, змагацца і сёння трэба. Але пры гэтым жыць, як у вайну, па картках... Карацей кажучы, МЗС рэспублікі ў пачатку дзевяностых можа і абавязана нароўні з праблемамі разбурэння, ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай бяды моцна заняцца і развіццём знешнеэканамічнай дзейнасці гаспадарак, прадпрыемстваў, раёнаў, гарадоў, абласцей рэспублікі.

Нам усім самім зараз важна не зблытаць, што важней: толькі і рабіць, што дзякаваць новым супрацоўнікам МЗС за іх сціпласць, энергію і сумленнасць, ці — прыняўшы іх ідэі перамен, адразу ж засяродзіць увагу на палітычных, эканамічных выніках работы абноўленага міністэрства.

— Зразумела, што пасля прыняцця Вярхоўным Саветам БССР дэкларацыі «Аб суверэнітэце і эканамічнай самастойнасці», пры распачатым пераводзе народнай гаспадаркі рэспублікі на работу ва ўмовах рыначных адносін дакладная (і не толькі тэлефонная) сувязь з усім светам важная як ніколі раней. У нас дастаткова сродкаў сувязі дакументальнага абмену, такіх, як тэлекс і тэлефакс?

— Сёння ў Беларусі толькі дзве станцыі тэлекса, у якія ўключана больш як 100 тэрміналаў. Плануем рэзкі рост колькасці тэлефаксаў, развіваем камутацыйныя магутнасці. Праз 2—3 гады павінны запрацаваць дзве новыя міжнародныя станцыі. Ужо ёсць пратакол намераў (з адной з фірм ЗША) аб будаўніцтве самай сучаснай станцыі з выкарыстаннем спадарожнікавых каналаў.

— А яе магутнасць?

— Яна цалкам забяспечыць неадкладны аўтаматычны выхад на ўнутраныя тэлефонныя сеткі развітых замежных краін. Карацей кажучы, такая станцыя — гэта якраз тое, што рэспубліцы патрэбна.

— Усё, пра што вы зараз расказалі, прыемна чуць. Але ў нашых магазінах не тое што тэлефаксаў і тэлексаў — простых тэлефонных апаратаў няма...

— Правільна. Таму з адной з фірм ЗША праведзены перагаворы, падпісаны адпаведныя пратаколы і вядзецца тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне на стварэнне сумеснай вытворчасці тэлефонных апаратаў, сельскіх электронных станцый, радыётэлефонаў і многага іншага. Падкрэслю: **гэтыя тавары будуць канкурэнтаздольнымі на міжнародным рынку.**

Амерыканскі бок пастаўляе тэхналагічнае абсталяванне і (на І этапе) камплектавальныя вырабы, а Мінсувязь БССР дае плошчы, інжынерныя сеткі і кадры. Намі ўсё будзе рабіцца з улікам паступовага

пераходу на ўласную элементную базу камплектацыі.

— Дзе пабудуеце завод?

— У Мінску.

— Іван Міхайлавіч, вы гаворыце пра высокую канкурэнтаздольнасць прадукцыі будучага прадпрыемства. Відаць, частка яе апынецца за мяжой. Калі гэта так, дык — якая канкрэтна частка?

— За год будзе выпускацца адзін мільён суперсучасных тэлефонаў. З іх 250 тысяч паступяць на ўнутраны рынак, 750 тысяч — на знешні.

— На адной з прэс-канферэнцый у Міністэрстве замежных спраў БССР паведамлялася пра цікавую прапанову дзелавых людзей са Швецыі...

— Так, была прапанова. Але нецікавая. Нам гатовы былі прадаць старыя (аднак у добрым стане) станцыі. Цана была вельмі высокая, а станцыі — тэхнікай учарашняга дня. Мы адмовіліся ад здзелкі. Вырашылі распарадзіцца валютай больш разумна. Тым больш, што яе ў нас няшмат.

— Адкуль званяць часцей: з Беларусі за мяжу ці — наадварот?

— Часцей званяць ад нас. Прычына простая: савецкія тарыфы вельмі танныя. Напрыклад, адна мінута сувязі з Нью-Йоркам каштуе 6 рублёў, з Парыжам і Лонданам — 3 рублі. Цяпер параўнайце: за адну мінуту размовы, калі званок з Нью-Йорка, трэба заплаціць прыкладна 4 долары. Самі разумееце, розніца сур'ёзная.

— І вы, я баюся, хочаце гэтак жа сур'ёзна — у разы — павысіць тарыфы?

— Не, у першую чаргу мы хочам узмацніць эфектыўнасць нашай работы і пачаць зарабляць валюту. Для чаго? **«Мы не будзем «праядаць» яе, а — падымаць нашу гаспадарку да ўзроўню самых развітых краін.** І тут, як няцяжка зразумець, наш клопат і пра сваё будучае, і пра дабрабыт рэспублікі, бо заходнія купцы ахвотна едуць толькі туды, дзе надзейная сувязь з усім светам, а беларускім прадпрыемствам развіваць знешнеэканамічную дзейнасць без росту і паляпшэння якасці нашых паслуг вельмі і вельмі цяжка.

■

Сёння пад новай рубрыкай часопіса «Сустрэчы з лідэрамі» мы коратка пагаварылі пра некаторыя перамены ў дзейнасці двух міністэрстваў БССР. Натуральна, сустрэчы карэспандэнтаў «Беларусі» з міністрамі і старшынямі дзяржаўных камітэтаў рэспублікі будуць працягвацца. Але мы проста пазбаўлены фізічнай магчымасці за адзін 1991 год пабываць ва ўсіх міністэрствах і дзяржкамітэтах з тым, каб на старонках часопіса даць чытачу хоць бы кароткія справаздачы аб сустрэчах, дыялогах, гутарках з лідэрамі галін, гаспадарчых структур. Таму — просьба: напішыце, куды і з якімі пытаннямі (на вашу думку) прадстаўнікі рэдакцыі павінны накіравацца ў самы бліжэйшы час?

**Валерый ЛАПІН.**





# МІЖНАРОДНЫ ПАКТ АБ ЭКАНАМІЧНЫХ, САЦЫЯЛЬНЫХ І КУЛЬТУРНЫХ ПРАВАХ

ПРЫНЯТЫ І АДКРЫТЫ ДЛЯ ПАДПІСАННЯ, РАТЫФІКАЦЫІ І ДАЛУЧЭННЯ РЭЗАЛЮЦЫЯЙ 2200 А (XXI) ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ АД 16 СНЕЖНЯ 1966 ГОДА

УСТУПЛЕННЕ Ў СІЛУ: 3 студзеня 1976 года ў адпаведнасці з артыкулам 27.

**ПРЭАМБУЛА**

**Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце,**

**беручы пад увагу,** што ў адпаведнасці з прынцыпамі, абвешчанымі Статутам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, прызнанне годнасці, уласцівай усім членам чалавечай сям'і, і роўных і неад'емных правоў іх з'яўляецца асновай свабоды, справядлівасці і ўсеагульнага міру,

**прызнаючы,** што гэтыя правы вынікаюць з уласцівай чалавечай асобе годнасці,

**прызнаючы,** што адпаведна Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ідэал свабоднай чалавечай асобы, вольнай ад страху і патрэбы, можа быць ажыццёўлены, толькі калі будуць створаны такія ўмовы, пры якіх кожны можа карыстацца сваімі эканамічнымі, сацыяльнымі і культурнымі правамі, гэтак жа, як і сваімі грамадзянскімі і палітычнымі правамі,

**беручы пад увагу,** што па Статуту Арганізацыі Аб'яднаных Нацый дзяржавы абавязаны заахвочваць усеагульную павагу і захаванне правоў і свабод чалавека,

**беручы пад увагу,** што кожны асобны чалавек, маючы абавязкі ў адносінах да іншых людзей і таго калектыву, да якога ён належыць, павінен дамагацца заахвочвання і захавання правоў, якія прызнаюцца ў гэтым Пакце,

**пагадняюцца ў ніжэйпададзеных артыкулах:**

ЧАСТКА І

## Артыкул 1

1. Усе народы маюць права на самавызначэнне. На падставе гэтага права яны свабодна ўсталёўваюць свой палітычны статус і свабодна забяспечваюць сваё эканамічнае, сацыяльнае і культурнае развіццё.

2. Усе народы для дасягнення сваіх мэт могуць свабодна выкарыстоўваць свае натуральныя багацці і рэсурсы без урону для якіх-небудзь абавязацельстваў, якія вынікаюць з міжнароднага эканамічнага супрацоўніцтва, заснаванага на прынцыпе ўзаемнай выгады, і з міжнароднага права. Ніводзін народ ні ў якім выпадку не можа быць пазбаўлены сродкаў існавання, якія яму належаць.

3. Усе дзяржавы, што ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, у тым ліку і тыя, што нясуць адказнасць за кіраванне несамакіравальнымі і падапечнымі тэрыторыямі, павінны ў адпаведнасці з палажэннямі Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый заахвочваць ажыццяўленне права на самавызначэнне і паважаць гэтае права.

ЧАСТКА ІІ

## Артыкул 2

1. Кожная дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, абавязуецца ў індывідуальным парадку і ў парадку міжнароднай дапамогі і супрацоўніцтва, у прыватнасці ў эканамічнай і тэхнічнай галінах, прыняць у максімальных межах наяўных рэсурсаў меры да таго, каб забяспечыць паступова поўнае ажыццяўленне прызнаных у гэтым Пакце правоў усімі належнымі спосабамі, уключаючы, у прыватнасці, прыняцце заканадаўчых мер.

2. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязуюцца гарантаваць, што правы, абвешчаныя ў гэтым Пакце, будуць ажыццяўляцца без якой бы там ні было дыскрымінацыі, як у адносінах расы, колеру, скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных ці іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага становішча, нараджэння ці іншай акалічнасці.

3. Краіны, якія развіваюцца, могуць з належным улікам правоў чалавека і сваёй народнай гаспадаркі вызначаць, у якой меры яны будуць гарантаваць прызнаныя ў гэтым Пакце эканамічныя правы асобам, якія не з'яўляюцца іх грамадзянамі.

## Артыкул 3

Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязуюцца забяспечыць роўнае для мужчын і жанчын права карыстацца ўсімі эканамічнымі, сацыяльнымі і культурнымі правамі, прадугледжанымі ў гэтым Пакце.

## Артыкул 4

Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць, што ў да-

чыненні да карыстання тымі правамі, якія тая ці іншая дзяржава забяспечвае ў адпаведнасці з гэтым Пактам, гэтая дзяржава можа ўсталёўваць толькі такія абмежаванні гэтых правоў, якія вызначаюцца законам, і толькі настолькі, наколькі гэта сумяшчальна з прыродай названых правоў, і выключна з мэтай садзейнічаць агульнаму дабрабыту ў дэмакратычным грамадстве.

### Артыкул 5

1. Нішто ў гэтым Пакце не можа тлумачыцца як азначэнне, што нейкая дзяржава, нейкая група ці нейкая асоба мае права займацца якой бы там ні было дзейнасцю ці ўчыняць якія б там ні было дзеянні, накіраваныя на знішчэнне любых правоў і свабод, прызнаных у гэтым Пакце, або на абмежаванне іх у большай меры, чым прадугледжваецца ў гэтым Пакце.

2. Ніякае абмежаванне ці змяншэнне якіх бы там ні было асноўных правоў чалавека, прызнаных ці існуючых у якой-небудзь краіне згодна з законам, канвенцыямі, правіл і звычаяў не дапускаецца на той падставе, што ў гэтым Пакце не прызнаюцца такія правы або што ў ім яны прызнаюцца ў меншым аб'ёме.

## ЧАСТКА III

### Артыкул 6

1. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць права на працу, якое ўключае права кожнага чалавека на атрыманне магчымасці зарабіць сабе на жыццё працай, якую ён свабодна выбірае ці на якую ён свабодна пагаджаецца, і зробяць належныя крокі да забеспячэння гэтага права.

2. Меры, якія павінны быць прыняты дзяржавамі, што ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, у мэтах поўнага ажыццяўлення гэтага права, уключаюць праграмы прафесійна-тэхнічнай адукацыі і падрыхтоўкі, шляхі і метады дасягнення няўхільнага эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця і поўнай вытворчай занятасці ва ўмовах, якія гарантуюць асноўныя палітычныя і эканамічныя свабоды чалавека.

### Артыкул 7

Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць права кожнага на справядлівыя і спрыяльныя ўмовы працы, уключаючы, у прыватнасці:

a) узнагароджанне, якое забяспечвае, як мінімум, усім працоўным:

i) справядлівую зарплату і роўнае ўзнагароджанне за працу роўнай каштоўнасці без якога б там ні было адрознення, прычым, у прыватнасці, жанчынам павінны гарантавацца ўмовы працы не горшыя за тыя, якімі карыстаюцца мужчыны, з роўнай платай за роўную працу,

ii) здавальняючае існаванне для іх і іх сем'яў у адпаведнасці з пастановамі гэтага Пакта;

b) умовы працы, якія адпавядаюць умовам бяспекі і гігіены;

c) аднолькавую для ўсіх магчымасць прасоўвання па службе на адпаведныя больш высокія прыступкі выключна на падставе працоўнага стажу і кваліфікацыі;

d) адпачынак, вольны час і разумнае абмежаванне рабочага часу і аплачаны перыядычны адпачынак, таксама як і ўзнагароджанне за святочныя дні.

### Артыкул 8

1. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязуюцца забяспечыць:

a) права кожнага чалавека ствараць для ажыццяўлення і абароны сваіх эканамічных і сацыяльных інтарэсаў прафесійныя саюзы і ўступаць у такія па свайму выбару пры адзінай умове трымання правіл адпаведнай арганізацыі. Карыстанне названым правам не падлягае ніякім абмежаванням, апроч тых, якія прадугледжваюцца законам і якія неабходныя ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай бяспекі ці грамадскага парадку ці для аховы правоў і свабод іншых;

b) права прафесійных саюзаў утвараць нацыянальныя федэрацыі або канфедэрацыі і права гэтых апошніх засноўваць міжнародныя прафесійныя арганізацыі ці далучацца да такіх;

c) права прафесійных саюзаў функцыяніраваць бесперашкодна, без якіх-небудзь абмежаванняў, апроч тых, якія прадугледжваюцца законам і якія неабходныя ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай бяспекі ці дзяржаўнага парадку альбо для абмежавання правоў і свабод іншых;

d) права на забастоўкі пры ўмове яго ажыццяўлення ў адпаведнасці з законамі кожнай краіны.

2. Гэты артыкул не пярэчыць увядзенню законных абмежаванняў карыстання гэтымі правамі для асоб, якія ўваходзяць у склад узброеных сіл, паліцыі або адміністрацыі дзяржавы.

3. Нішто ў гэтым артыкуле не дае права дзяржавам, якія ўдзельнічаюць у Канвенцыі Міжнароднай арганізацыі працы 1948 года адносна свабоды асацыяцый і абароны права на арганізацыю, прымаць заканадаўчыя акты на шкоду гарантыям, прадугледжаным у названай Канвенцыі, ці прымяняць закон такім чынам, каб прычыняўся ўрон гэтым гарантыям.

### Артыкул 9

Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым пакце, прызнаюць права кожнага чалавека на сацыяльнае забеспячэнне, уключаючы сацыяльнае страхаванне.

### Артыкул 10

Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць, што:

1. Сям'і, якая з'яўляецца натуральнай і асноўнай ячэйкай грамадства, павінны давацца па магчымасці самая шырокая ахова і дапамога, асабліва пры яе ўтварэнні і пакуль на яе адказнасці ляжыць клопат пра несамастойных дзяцей і іх выхаванне. Шлюб павінен брацца па вольнай згодзе тых, хто бярэ шлюб.

2. Асаблівая ахова павінна давацца маці на працягу разумнага перыяду да і пасля родаў. На працягу гэтага перыяду для маці, якія працуюць, павінны давацца аплачаны адпачынак ці адпачынак з дастатковымі дапамогамі па сацыяльнаму забеспячэнню.

3. Асобыя меры аховы і дапамогі павінны прымацца ў адносінах усіх дзяцей і падлеткаў без якой бы там ні было дыскрымінацыі сямейнага паходжання ці па іншай адзнацы. Дзеці і падлеткі павінны быць абаронены ад эканамічнай і сацыяльнай эксплуатацыі. Прымяненне іх працы ў галіне, шкоднай для іх маральнасці і здароўя ці шкоднай для жыцця, ці здольнай пашкодзіць іх нармальнаму развіццю, павінна быць караным адпаведна закону. Апроч таго, дзяржавы павінны вызначыць узроставыя межы, ніжэй за якія карыстанне платнай дзіцячай працай забаронена і караецца законам.

### Артыкул 11

1. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць права кожнага на дастатковы жыццёвы ўзровень для яго самога і яго сям'і, які ўключае дастатковае харчаванне, адзенне і жыллё, і на няўхільнае павышэнне ўмоў жыцця. Дзяржавы-ўдзельніцы прымуць належныя меры да забеспячэння ажыццяўлення гэтага права, прызнаючы важнае значэнне ў гэтых адносінах міжнароднага супрацоўніцтва, заснаванага на свабоднай згодзе.

2. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаючы асноўнае права кожнага чалавека на свабоду ад голаду, павінны прымаць неабходныя меры індывідуальна і ў парадку міжнароднага супрацоўніцтва, якія ўключаюць правядзенне канкрэтных праграм, для таго каб:

a) палепшыць метады вытворчасці, захавання і размеркавання прадуктаў харчавання шляхам шырокага выкарыстання тэхнічных і навуковых ведаў, распаўсюджання ведаў аб прынцыпах харчавання і ўдасканалення або рэформы аграрных сістэм такім чынам, каб дасягнуць найбольш эфектыўнага засваення і выкарыстання прыродных рэсурсаў; і

b) забяспечыць справядлівае размеркаванне сусветных запасаў харчавання ў адпаведнасці з патрэбнасцямі і з улікам патрэб краін, як тых, што імпартуюць, так і тых, што экспартуюць харчовыя прадукты.

### Артыкул 12

1. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць права кожнага чалавека на найвышэйшы дасягальны ўзровень фізічнага і псіхічнага здароўя.

2. Меры, якія павінны быць прыняты дзяржавамі, што ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, для поўнага ажыццяўлення гэтага права, уключаюць мерапрыемствы, неабходныя для:

a) забеспячэння скарачэння мёртванараджальнасці і дзіцячай смяротнасці і здаровага развіцця дзіцяці;

b) паляпшэння ўсіх аспектаў гігіены навакольнага асяроддзя і гігіены працы ў прамысловасці;

c) папярэджання і лячэння эпідэмічных, эндэмічных, прафесійных і іншых хвароб і барацьбы з імі;

d) стварэння ўмоў, якія забяспечвалі б усім медыцынскую дапамогу і медыцынскі догляд у выпадку хваробы.

### Артыкул 13

1. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць права кожнага чалавека на адукацыю. Яны пагаджаюцца, што адукацыя павінна быць накіравана на поўнае развіццё чалавечай асобы і ўсведамленне яе годнасці і павінна мацаваць павагу да правоў чалавека і аноўных свабод. Яны, далей, пагаджаюцца ў тым, што адукацыя павінна даць магчымасць усім быць карыснымі ўдзельнікамі свабоднага грамадства, садзейнічаць узаемаразуменню, цярпімасці і дружбе паміж усімі нацыямі і ўсімі расавымі, этнічнымі і рэлігійнымі групамі і садзейнічаць рабоце Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па падтрыманні міру.

2. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць, што для поўнага ажыццяўлення гэтага права:

a) пачатковая адукацыя павінна быць абавязковай і бясплатнай для ўсіх;

b) сярэдняя адукацыя ў яе розных формах, уключаючы прафесійна-тэхнічную сярэднюю адукацыю, павінна быць адкрыта і зроблена даступнай для ўсіх шляхам прынятця ўсіх неабходных мер і, у прыватнасці, паступовага ўвядзення бясплатнай адукацыі;

c) вышэйшая адукацыя павінна быць зроблена аднолькава даступнай для ўсіх на падставе здольнасцей кожнага шляхам прынятця ўсіх неабходных мер і, у прыватнасці, паступовага ўвядзення бясплатнай адукацыі;

d) элементарная адукацыя павінна заахвочвацца ці інтэнсіфікавацца, па магчымасці, для тых, хто не праходзіў ці не скончыў поўнага курса сваёй пачатковай адукацыі;

e) павінна актыўна праводзіцца развіццё сеткі школ усіх ступеняў, павінна быць установлена здавальняючая сістэма стыпендый і павінны няўхільна паляпшацца матэрыяльныя ўмовы выкладчыцкага персаналу.

3. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязуюцца паважаць свабоду бацькоў і ў адпаведных выпадках законных апекуноў выбіраць для сваіх дзяцей не толькі заснаваныя дзяржаўнымі ўладамі школы, але і іншыя школы, якія адпавядаюць таму мінімуму патрабаванняў для адукацыі, які можа быць установлены ці зацверджаны дзяржавай, і забяспечваць рэлігійнае і маральнае выхаванне сваіх дзяцей у адпаведнасці са сваімі ўласнымі перакананнямі.

4. Ніякая частка гэтага артыкула

не павінна тлумачыцца ў сэнсе прымяншэння свабоды асобных грамадзян і ўстаноў ствараць навучальныя ўстановы і кіраваць імі пры заўсёднай умове захавання прынцыпаў, выкладзеных у пункце 1 гэтага артыкула і патрабавання, каб адукацыя, якая даецца ў такіх установах, адказвала таму мінімуму патрабаванняў, які можа быць вызначаны дзяржавай.

### Артыкул 14

Кожная дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, якая да часу свайго ўступлення ў лік удзельнікаў не змагла ўсталяваць на тэрыторыі сваёй метраполіі або на іншых тэрыторыях, якія знаходзяцца пад яе юрысдыкцыяй, абавязковай бясплатнай пачатковай адукацыі, абавязуецца на працягу двух гадоў выпрацаваць і прыняць падрабязны план мерапрыемстваў для паступовага правядзення ў жыццё — на працягу разумнай колькасці гадоў, якая павінна быць указана ў гэтым плане,— прынцыпу абавязковай бясплатнай усеагульнай адукацыі.

### Артыкул 15

1. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць права кожнага чалавека на:

a) удзел у культурным жыцці;
b) карыстанне вынікамі навуковага прагрэсу і іх практычнага прымянення;
c) карыстанне абаронай маральных і матэрыяльных інтарэсаў, якія паўстаюць у сувязі з любымі навуковымі, літаратурнымі або мастацкімі працамі, аўтарам якіх ён з'яўляецца.

2. Меры, якія павінны прымацца дзяржавамі, што ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, для поўнага ажыццяўлення гэтага права, уключаючы тыя, якія неабходныя для аховы, развіцця і распаўсюджання дасягненняў навукі і культуры.

3. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязуюцца паважаць свабоду, безумоўна неабходную для навуковых даследаванняў і творчай дзейнасці.

4. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць карысць, што вынікае з падтрымкі і развіцця міжнародных кантактаў і супрацоўніцтва ў навуковай і культурнай галінах.

## ЧАСТКА IV

### Артыкул 16

1. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязуюцца падаваць у адпаведнасці з гэтай часткай Пакта даклады аб мерах, якія імі прымаюцца, і аб прагрэсе на шляху да дасягнення захавання правоў, прызнаных у гэтым пакце.

2. a) Усе даклады падаюцца Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які накіроўвае іх экземпляры на разгляд у Эканамічны і Сацыяльны Савет у адпаведнасці з палажэннямі гэтага Пакта.

b) Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый таксама накіроўвае спецыялізаваным установам экземпляры дакладаў або любыя адпаведныя часткі дакладаў дзяржаў — удзельніц гэтага Пакта, якія таксама з'яўляюцца членамі гэтых спецыялізаваных устаноў, паколькі такія даклады ці часткі гэтых дакладаў маюць дачыненне да любых пытанняў, якія ўваходзяць у рамкі абавязкаў вышэйпаказаных устаноў у адпаведнасці з іх канстытуцыйнымі актамі.

### Артыкул 17

1. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, падаюць свае даклады па этапах у адпаведнасці з праграмай, якая павінна быць устаноўлена Эканамічным і Сацыяльным Саветам на працягу аднаго года пасля ўступлення ў сілу гэтага Пакта па кансультацыі з дзяржавамі-ўдзельніцамі і зацікаўленымі спецыялізаванымі ўстановамі.

2. У дакладах могуць называцца фактары і перашкоды, якія ўплываюць на ступень выканання абавязкаў па гэтаму Пакту.

3. Калі адпаведныя звесткі былі раней паведамлены Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ці якой-небудзь спецыялізаванай установе якой-небудзь дзяржавай — удзельніцай гэтага Пакта, то няма неабходнасці ўзнаўляць гэтыя звесткі і будзе дастатковай дакладная спасылка на звесткі, пададзеныя такім чынам.

### Артыкул 18

У мэтах выканання сваіх абавязкаў па Статуту Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у галіне правоў чалавека і асноўных свабод Эканамічны і Сацыяльны Савет можа ўступаць у пагадненні са спецыялізаванымі ўстановамі аб даванні імі яму дакладаў аб прагрэсе на шляху да дасягнення трымання пастаноў гэтага Пакта, якія тычацца сферы іх дзейнасці. Гэтыя даклады могуць уключаць падрабязнасці рашэнняў і рэкамендацый аб такім ажыццяўленні, якія прымаюцца іх кампетэнтнымі органамі.

### Артыкул 19

Эканамічны і Сацыяльны Савет можа перадаваць у Камісію па правах чалавека для разгляду і давання агульных рэкамендацый ці, у адпаведных выпадках, для даведкі даклады, якія тычацца правоў чалавека і прад'яўляюцца дзяржавамі ў адпаведнасці з артыкуламі 16 і 17, і даклады, якія тычацца правоў чалавека і прад'яўляюцца спецыялізаванымі ўстановамі ў адпаведнасці з артыкулам 18.

### Артыкул 20

Зацікаўленыя дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, і спецыялізаваныя ўстановы могуць падаваць Эканамічнаму і Сацыяльнаму Савету заўвагі па любой агульнай рэкамендацыі адпаведна артыкулу 19 альбо па спасылцы на такую агульную рэкамендацыю ў любым дакладзе Камісіі па правах чалавека ці ў любым дакуменце, на які там робіцца спасылка.

### Артыкул 21

Эканамічны і Сацыяльны Савет можа прадстаўляць час ад часу Генеральнай Асамблеі даклады з рэкамендацыямі агульнага характару і з кароткім выкладаннем звестак, якія атрыманы ад дзяржаў, што ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, і ад спецыялізаваных устаноў, аб прынятых мерах і дасягнутых выніках у галіне забеспячэння ўсеагульнага трымання правоў, што прызнаны ў гэтым Пакце.

### Артыкул 22

Эканамічны і Сацыяльны Савет можа звяртаць увагу іншых органаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, іх дапаможных органаў і спецыялізаваных устаноў, якія займаюцца аказаннем тэхнічнай дапамогі, на любыя пытанні, што паўстаюць у сувязі з дакладамі, якія ўпамінаюцца ў гэтай частцы гэтага Пакта, якія могуць быць карыснымі для гэтых органаў пры вынясенні кожным з іх у межах сваёй кампетэнцыі рашэнняў адносна мэтазгоднасці міжнародных мер, якія маглі б садзейнічаць эфектыўнаму паступоваму правядзенню ў жыццё гэтага Пакта.

### Артыкул 23

Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, пагаджаюцца, што да ліку міжнародных мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць ажыццяўленню правоў, што прызнаюцца ў гэтым Пакце, залічваецца прымяненне такіх сродкаў, як заключэнне канвенцый, прыняцце рэкамендацый, аказанне тэхнічнай дапамогі і правядзенне рэгіянальных нарад і тэхнічных нарад у мэтах кансультацый, а таксама даследаванні, арганізаваныя сумесна з зацікаўленымі ўрадамі.

### Артыкул 24

Нішто ў гэтым Пакце не павінна тлумачыцца як прымяншэнне значэння пастаноў Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і статутаў спецыялізаваных устаноў, якія вызначаюць адпаведныя абавязкі розных органаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і спецыялізаваных устаноў у адносінах да пытанняў, якіх тычыцца гэты Пакт.

### Артыкул 25

Нішто ў гэтым Пакце не павінна тлумачыцца як прымяншэнне неад'емнага права ўсіх народаў поўнасцю і свабодна валодаць і карыстацца сваімі натуральнымі багаццямі і рэсурсамі.

## ЧАСТКА V

### Артыкул 26

1. Гэты Пакт адкрыты для падпісання любой дзяржавай — членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый або членам любой з яе спецыялізаваных устаноў, любой дзяржавай — удзельніцай Статута Міжнароднага Суда і любой іншай дзяржавай, запрошанай Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый да ўдзелу ў гэтым Пакце.

2. Гэты Пакт падлягае ратыфікацыі. Ратыфікацыйныя граматы дэпаніруюцца ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

3. Гэты Пакт адкрыты для далучэння любой дзяржавы, названай у пункце 1 гэтага артыкула.

4. Далучэнне ажыццяўляецца дэпаніраваннем дакумента аб далучэнні ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

5. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый паведамляе ўсім дзяржавам, якія падпісалі гэты Пакт, а таксама тым дзяржавам, што да яго далучыліся, аб дэпаніраванні кожнай ратыфікацыйнай граматы ці дакумента аб далучэнні.

### Артыкул 27

1. Гэты Пакт уступае ў сілу пасля таго, як пройдуць тры месяцы з дня дэпаніравання ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый трыццаць пятай ратыфікацыйнай граматы або дакумента аб далучэнні.

2. Для кожнай дзяржавы, якая ратыфікуе гэты Пакт або далучыцца да яго пасля дэпаніравання трыццаць пятай ратыфікацыйнай граматы ці дакумента аб далучэнні, гэты Пакт уступае ў сілу пасля таго, як пройдуць тры месяцы з дня дэпаніравання яго ўласнай ратыфікацыйнай граматы альбо дакумента аб далучэнні.

### Артыкул 28

Пастановы гэтага Пакта распаўсюджваюцца на ўсе часткі федэратыўных дзяржаў без якіх бы там ні было абмежаванняў або выключэнняў.

### Артыкул 29

1. Любая дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, можа прапанаваць папраўкі і падаваць іх Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Генеральны сакратар пасылае затым любыя прапанаваныя папраўкі дзяржавам, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, з просьбай паведаміць яму, ці выказваюцца яны за скліканне канферэнцыі дзяржаў-удзельніц з мэтай разгляду гэтых прапаноў і правядзення па іх галасавання. Калі па крайняй меры адна трэць дзяржаў-удзельніц выкажацца за такую канферэнцыю, Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый склікае гэтую канферэнцыю пад эгідай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Любая папраўка, прынятая большасцю дзяржаў-удзельніц, якія прысутнічаюць і ўдзельнічаюць у галасаванні на гэтай канферэнцыі, падаецца Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый на зацвярджэнне.

2. Папраўкі ўступаюць у сілу пасля зацвярджэння іх Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і прыняцця іх большасцю ў дзве трэці дзяржаў, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, у адпаведнасці з іх канстытуцыйнымі працэдурамі.

3. Калі папраўкі ўступаюць у сілу, яны робяцца абавязковымі для тых дзяржаў-удзельніц, якія іх прынялі, а для іншых дзяржаў-удзельніц застаюцца абавязковымі пастановы гэтага Пакта і ўсе папярэднія папраўкі, якія імі прыняты.

## Артыкул 30

Незалежна ад паведамленняў, якія робяцца адпаведна пункту 5 артыкула 26, Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый паведамляе ўсім дзяржавам, пра якія ідзе гаворка ў пункце 1 таго ж артыкула, пра ніжэйпададзенае:

a) падпісанні, ратыфікацыі і далучэнні адпаведна артыкулу 26;

b) дату ўступлення ў сілу гэтага Пакта адпаведна артыкулу 27 і дату ўступлення ў сілу любых папраўак адпаведна артыкулу 29.

## Артыкул 31

1. Гэты Пакт, англійскі, іспанскі, кітайскі, рускі і французскі тэксты якога аднолькава аўтэнтычныя, падлягае здачы на захаванне ў архіў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

2. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адпраўляе завераныя копіі гэтага Пакта ўсім дзяржавам, названым у артыкуле 26.

**ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ. Распрацоўка Пактаў аб правах чалавека з'яўляецца другой стадыяй у падрыхтоўцы «Міжнароднай хартыі правоў», якая, па задуме Камісіі па правах чалавека, павінна была складацца з трох частак: Дэкларацыі правоў чалавека, Пакта аб правах чалавека і Мерапрыемстваў па правядзенню ў жыццё прынятых палажэнняў.**

**Меркавалася, што маючы быць Пакт не толькі пацвердзіць і канкрэтызуе асноўныя правы і свабоды чалавека, абвешчаныя ў Дэкларацыі, але і замацуе абавязацельствы дзяржаў па іх рэалізацыі.**

**Аднак распрацоўка Пакта зацягнулася амаль на дваццаць гадоў. Пры гэтым істотна памянялася першапачатковая задума аб падрыхтоўцы адзінага дакумента па правах чалавека. Асноўнай прычынай гэтага зацягвання было процідзеянне Пакту з боку заходніх краін, асабліва ЗША і Англіі, якія з самага пачатку надзвычай негатыўна ставіліся да ідэі распрацоўкі юрыдычна абавязковага для тае ці іншае дзяржавы дакумента.**

**Не атрымаўшы падтрымкі сваёй пазіцыі, прадстаўнікі гэтых краін ужо на першых пасяджэннях Камісіі па правах чалавека ў 1949 годзе пачалі дамагацца выключэння сацыяльна-эканамічных правоў са зместу Пакта, спасылаючыся на тое, што міжнароднае прызнанне атрымалі толькі грамадзянскія і палітычныя правы, замацаваныя ў канстытуцыйным заканадаўстве большасці краін.**

**Такі пункт гледжання выклікаў рэзкае пярэчанне з боку прадстаўнікоў СССР, іншых сацыялістычных краін, якія паказалі яго несумяшчальнасць з Усеагульнай дэкларацыяй, якая разглядае правы і свабоды чалавека ў комплексе. Савецкая пазіцыя была ўхвалена большасцю дзяржаў і атрымала адлюстраванне ў рэзалюцыі Генеральнай Асамблеі ААН ад 4 снежня 1950 года, дзе было падкрэслена, што «карыстанне грамадзянскімі і палітычнымі свабодамі і валоданне эканамічнымі, сацыяльнымі і культурнымі правамі звязана паміж сабою і ўзаемна абумоўлена, і чалавек, пазбаўлены эканамічных, сацыяльных і культурных правоў, не з'яўляецца больш той асобай, якую Усеагульная дэкларацыя разглядае ў якасці ідэалу свабоднага чалавека».**

**Аднак і пасля прыняцця названай рэзалюцыі прадстаўнікі ЗША і Англіі зрабілі новую спробу затармазіць работу Камісіі і выступілі з ініцыятывай распрацоўкі двух Пактаў: аднаго — па грамадзянскіх і палітычных правах, другога — па сацыяльных, эканамічных і культурных правах. Прычым вылучалася патрабаванне ў першую чаргу падрыхтаваць Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах.**

**У якасці аргументаў прыводзіліся папярэднія доказы аб істотных адрозненнях паміж грамадзянскімі, палітычнымі і сацыяльна-эканамічнымі правамі. А іменна: грамадзянскія і палітычныя правы з прычыны іх абсалютнага характару павінны быць неадкладна рэалізаваны дзяржавамі і забяспечваюцца судовай абаронай у выпадку парушэння; сацыяльна-эканамічныя правы маюць праграмны характар, могуць ажыццяўляцца паступова, у залежнасці ад наяўнасці эканамічных рэсурсаў, і таму не падлягаюць судовай абароне ў выпадку парушэння.**

**Нашы дыпламаты пераканаўча паказалі штучнасць такога размежавання, падкрэслівалі, што ад эфектыўнага выкарыстання палітычных правоў і свабод залежыць ажыццяўленне чалавекам сваіх эканамічных і сацыяльных правоў. Што тычыць забяспечанасці судовай абаронай толькі грамадзянскіх і палітычных правоў, то яна аднолькава распаўсюджваецца і на сацыяльна-эканамічныя правы, калі яны замацаваны ў нацыянальным заканадаўстве.**

**Канфрантацыя ў Камісіі дасягнула такой вастрыні, што пытанне аб Пактах было зноў вынесена на абмеркаванне Генеральнай Асамблеі ААН. Насуперак сваіму папярэдняму рашэнню Генеральная Асамблея 5 лютага 1952 года нязначнай большасцю галасоў (29 супраць 25, пры чатырох, што ўстрымаліся) падтрымала пазіцыю заходніх краін аб падрыхтоўцы двух Пактаў. Аднак у новай рэзалюцыі вылучалася патрабаванне адначасовай падрыхтоўкі і зацвярджэння абодвух Пактаў і зазначалася неабходнасць уключэння ў іх як мага больш падобных палажэнняў «у інтарэсах прызнання і захавання правоў чалавека».**

**Шэраг дэлегацый, асабліва ад краін Азіі і Афрыкі, тлумачылі перамену сваёй пазіцыі імкненнем вывесці Камісію з тупіка, завяршыць падрыхтоўку дакумента і мець магчымасць у адносна блізкай будучыні ратыфікаваць хоць бы Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах.**

**Аднак у любым выпадку рэзалюцыю Генеральнай Асамблеі аб распрацоўцы двух Пактаў, на маю думку, варта прызнаць памылковай, бо яна пярэчыць рэальнаму адзінству правоў чалавека і стварае перашкоды для рэалізацыі гэтых правоў у поўным аб'ёме, можа прывесці да пэўных вольнасцей у выбары пры ратыфікацыі Пактаў той ці іншай дзяржавай.**

**У 1954 годзе Камісія па правах чалавека падрыхтавала праекты абодвух Пактаў і падала іх Трэцяму камітэту Генеральнай Асамблеі. Але абмеркаванне дакументаў зноў расцягнулася амаль на 10 гадоў...**

**Недавер заходніх краін да прапаноў сацыялістычных краін, абвінавачванне іх (і не заўсёды без падстаў) у прытрымліванні вузкакласавых інтарэсаў ускладнялі работу Трэцяга камітэта. Надзвычай абструкцыянісцкую пазіцыю ў адносінах да Пактаў занялі дыпламаты ЗША, якія ўжо на першых пасяджэннях Камітэта заявілі, што лічаць Праекты нездавальняючымі, не маюць намеру падпісваць і ратыфікаваць іх і будуць устрымлівацца пры галасаванні па большасці артыкулаў.**

**Напружаная барацьба разгарнулася ў Камітэце вакол першага артыкула Пактаў, што тычыцца права народаў на самавызначэнне, уключаючы права распараджэння сваімі ўласнымі рэсурсамі. Пададзены савецкай дэлегацыяй і падтрыманы краінамі Азіі і Афрыкі, гэты артыкул выклікаў поўнае непрызнанне з боку заходніх краін, асабліва, каланіяльных дзяржаў. Яны спасылаліся на расплывістасць тэрмінаў «народ», «нацыя», «самавызначэнне» і сцвярджалі, што ў разуменні Савецкага Саюза права нацый на самавызначэнне гэта не што іншае, як права на ўсталяванне дыктатуры пралетарыяту. Апроч таго, разглядаючы права народа як калектыўнае права, яны пратэставалі супраць уключэння яго ў Пакт, які ўтрымлівае толькі індывідуальныя правы.**

**Не пагаджаючыся з названымі довадамі, прадстаўнік беларускай дэлегацыі, у прыватнасці, адзначаў, што «раздзяленне на правы народа і правы чалавека носіць умоўны характар і калі права на самавызначэнне не будзе дадзена народу, то ім не зможа карыстацца і асобны чалавек».**

**Супрацьўленне заходніх краін уключэнню гэтага артыкула ў Пакты было настолькі моцным, што яго абмеркаванню давялося прысвяціць 30 (!) пасяджэнняў Трэцяга камітэта, а галасаванне вялося па кожнаму асобнаму артыкулу, а часам і па асобнай фразе. Урэшце артыкул аб праве нацый на самавызначэнне быў прыняты абсалютнай большасцю галасоў дзяржаў — членаў ААН (супраць галасавалі пераважна заходнія краіны) і захаваны ў абодвух Пактах.**

**Вострыя рознагалоссі выявіліся пры абмеркаванні праекта Пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, у распрацоўцы якога актыўны ўдзел прынялі савецкія прадстаўнікі. Яны дамагаліся дэтальнай трактоўкі названых правоў, асабліва такіх, як права на працу, на сацыяльнае забеспячэнне, на дастатковы жыццёвы ўзровень, на стварэнне прафсаюзаў, падкрэсліваючы асаблівую значнасць гэтых правоў для працоўных і абсалютызуючы ролю дзяржавы ў іх рэалізацыі. У якасці ўзору трактоўкі сацыяльна-эканамічных правоў выстаўлялася савецкая сацыялістычная Канстытуцыя.**

**Натуральна, адкрыта прапагандысцкі характар гэтых заяў, ярка выяўлены ідэалагічны падыход да праблемы выклікалі ўстойлівыя пярэчанні заходніх краін. Яны зазначалі важнасць сацыяльна-эканамічных правоў для ўсіх катэгорый насельніцтва, а не толькі для працоўных, указвалі на непрымальнасць для дзяржаў з іншай палітычнай сістэмай манаполіі дзяржавы ў рэгуляванні працоўных адносін і сацыяльнага забеспячэння.**

**У выніку большасць прадстаўнікоў дзяржаў у Трэцім камітэце выказалася за больш абстрактныя, чым прапанавалі мы, фармуліроўкі сацыяльна-эканамічных правоў, што і знайшло сваё адлюстраванне ў Пакце.**

**Абмеркаванне Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах адбывалася ў больш спакойнай атмасферы, за выключэннем артыкула 19-га, у якім ідзе гаворка пра права на свабоднае і беспрашкоднае выказванне сваёй думкі.**

**Прызнаючы важнасць гэтага права, савецкія прадстаўнікі разам з тым лічылі неабходным уключыць у гэты артыкул пэўныя абмежавальныя меры, накіраваныя на забарону прапаганды вайны і расавай дыскрымінацыі. Не пагаджаючыся з савецкай пазіцыяй, прадстаўнікі Злучаных Штатаў Амерыкі сцвярджалі, што падобныя абмежаванні прывядуць да ўсталявання кантролю над свабодай слова, а потым і да ліквідацыі гэтага права.**

**У выніку большасць дзяржаў выказалася за ўключэнне ў Пакт спецыяльнага артыкула 20, які адлюстроўваў савецкую прапанову.**

**У 1966 годзе абмеркаванне праектаў Пактаў у Трэцім камітэце было завершана, і 16 снежня 1966 года Міжнародны Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах і Міжнародны Пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах былі прыняты на 21-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Аднак у сілу яны ўступілі толькі ў 1976 годзе — пасля таго, як былі ратыфікаваны трыццаццю пяццю дзяржавамі.**

**Беларусь ратыфікавала Пакты 5 кастрычніка 1973 года.**

**Людміла ПАЎЛАВА,**
**дацэнт кафедры тэорыі**
**і гісторыі дзяржавы і права**
**юрыдычнага факультэта**
**БДУ імя У. І. Леніна.**



Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

АПАВЯДАННЕ

# Крышталёвая

Сёння быў нейкі няўдалы дзень. Мо таму, што панядзелак. Клава праспала, ледзь не спазнілася на работу — забылася паставіць будзільнік. Малога Росціка нават не паспела завесці ў садзік, хоць той і блізка, ля дому. Бывае ж такое, хоць і рэдка... Увесь тыдзень адна, муж недзе калясіць па Еўропе — паехаў у ГДР на сваім «МАЗе», павёз нейкія грузы, ён у яе «дальнабойшчык», ездзіць часам яшчэ і далей — у ФРГ, Галандыю, а то і бліжэй — у Польшчу, Венгрыю, Югаславію. Стамляецца за дарогу, па тыдню — два дома не бывае, але затое зарабляе, затое што-небудзь ды прывязе. У іх трохпакаёвай кааператыўнай кватэры што ні вазьмі — то імпартнае: ад мэблі да дываноў, ад магнітафона да пральнай машыны. А колькі гэтага крышталю! Во нядаўна прывёз з Чэхаславакіі крышталёвую люстру. Любата! Як запаліш, дык усё роўна як недзе ў казачным царстве: усё пераліваецца, іскрыцца, блішчыць і падміргвае, рассыпаецца тысячамі іскраў-пераліваў. Колькі тут гэтых вісюлек-падвесак! Мо сотня ці болей. І звіняць, як сярэбраныя званочкі! Але затое і каштуе! На нашыя грошы то недзе каля дзесяці тысяч. А яму там мо за паўцаны дасталася. І так усё, што ні вазьмі. Затое іх кватэра — любата паглядзець. Ёсць што і людзям паказаць: усё блішчыць лакам, усё свеціцца-іскрыцца, сервант ломіцца ад крышталю, ад дарагога нямецкага посуду... А напіткаў усялякіх на выбар, якіх хочаш: і югаслаўскіх, і французскіх, і партугальскіх, і венгерскіх. Прыемна часам пасядзець гадзіну-другую за сталом з добрым чалавекам. Вось і ўчора прыходзілі да яе дзве сяброўкі — адна школьная, другая з работы. Адна была замужам, але развялася, а другая — незамужняя і кажа, што не збіраецца замуж і выходзіць, бо гэта адна марока. Кажа, каб за такога мужчыну, як твой Кірык, то пайшла б: ён і мужчына што трэба, і зарабляе шмат, і дома рэдка бывае. Што кабеце тады трэба? Жыві, качайся, як сыр у масле. Вось так яна разважае, яе сяброўка Ліза-Лізавета.

Прыблізна тое ж гаварыла і яе другая сяброўка, Светка, што была ўжо разведзена і мела дзяўчынку, якая цяпер гадавалася ў яе бацькоў: меў з дурнем жыць, то лепш хварэць, лепш аднаму пакутаваць. Яе муж бязбожна піў, і яна з ім развялася недзе праз год ці два пасля вяселля. Так што можна сказаць: з трох жанчын адна ў нас больш-менш шчаслівая,— так заключыла яе школьная сяброўка Ліза-Лізавета і паказала пальцам на Клаву. «А чаму яна «больш-менш шчаслівая»? — абурылася Светка.— Чаму «больш-менш», а не поўнасцю?» — спыталася ў Лізы. «А таму,— адказала тая,— што жыве па дамастрою. Дагледзае кватэру, дзіця, мужа, пылінкі збірае з мэблі, з дываноў... Во я на яе месцы жыла б — дым курэў бы!» — сказала ў адказ Ліза і ўсміхнулася шматзначна. «Не кажы, шаноўная-паважаная, каб мела за што трымацца, то і трымалася б, даражыла б. Іншая рэч — калі няма за што».

Усе трое зарагаталі, бо кожная падумала нешта сваё. «За добрым мужам і жонка як ружа,— сказала Светка.— Давай вып'ем яшчэ па адной гэтага рому, што п'юць там на Захадзе нейкія бізнесмены ці мільянеры. Ім можна, а нам — не?»

Вечар прайшоў хутка і весела, яна не заўважыла, як малы Росцік заснуў на дыване ў сваім пакоі. Яна распранула яго, паклала ў пасцельку, а сама яшчэ трохі пасядзела з сяброўкамі, а на развітанне падаравала ім па крышталёвай вазе — хай памятаюць пра сустрэчу! — чым вельмі іх здзівіла і ўразіла, потым правяла іх да ліфта, вярнулася і стала наводзіць парадак, памыла посуд. Калі сабралася спаць, была ўжо першая гадзіна ночы. Да таго ж яшчэ доўга не магла заснуць, перабірала ўсю гутарку, бачыла твары сваіх сяброваk, чула іх галасы, асобныя фразы, словы. Радавалася сама сабе, што яны ёй зайздросцяць: што ў яе такі муж, сям'я, кватэра, дастатак... Але і думала: вы не ведаеце майго шчасця, кабеткі, дык вам здаецца, што я як у раі жыву. Але не... Кірык робіцца як сам не свой — усё яму мала! Усё на кніжку кладзе, усё крышталь скупляе, ужо золата пачаў вазіць сюды-туды. Кажу, пападзешся, чалавеча, горш будзе. Чаго табе не хапае? «Не твая клапота,— кажа,— ты касір, то і лічы вечна чужыя грошы, а я буду свае лічыць». І апошнім часам яны ўжо часцяком схопліваюцца за гэтыя грошы — каб нідзе лішні грош не патраціла: усё на кніжку, або ў крышталь, або ў метал. Во як пераманіўся чалавек!

Дык ці можа яна быць шчаслівая пасля ўсяго? Так, калі збоку, то здаецца, што яна жыве прыпяваючы. А як у душу зазірнуць, дык там, у пустыні, як пасля навальніцы — усё не на месцы. А як падумаць, то чаго вельмі бедаваць? Усё ёсць. З усяго нешта зрабіць лёгка. А вось з нічога ўсяго не зробіш. Дык жыві і радуйся, кабета, і не хмуры бровы, не цвялі душу.

Яна памчалася на працу, наказаўшы малому Росціку паснедаць, а потым гуляць у сваім пакоі. Там у яго былі розныя дзіцячыя гульні, канструктары, кубікі для будоўлі і нават сапраўдны кубік-Рубік, які ён, калі добра браўся, мог расклясці па колерах: хлопец быў кемлівы.

Сяды-тады яму даводзілася заставацца аднаму ў кватэры, але толькі на гадзіну-другую, а сёння ён на цэлы дзень застаецца гаспадаром. Такой раскошы ён яшчэ не ведае, і што яго чакае — таксама не падазравае. Як толькі пайшла маці, ён неяк адразу супакоіўся. Страху, што нехта прыйдзе, забярэ яго, не было. Ён замкнёны ў кватэры, ніхто сюды не ўлезе, гэта ён ведаў добра. Да таго ж на двары відната, свеціць сонца. За акном на балконе чырыкаюць вераб'і, часам прылятае голуб, нечага пасядзіць, нібы чаго чакае, і паляціць зноў.

Яна была як жывая, пасылала яму тысячы зайчыкаў і бліскучых іскраў, варта было толькі паварнуць галаву. А як запаліш святло, то і яшчэ болей будзе ўсякіх бліскавак і іскраў. Ён залез на канапу, дастаў да ўключальніка і націснуў адразу на дзве клавішы — засвяціліся ўсе пяць ражкоў, люстра стала як жывая. А яшчэ ён ведаў, што люстра не толькі свеціцца, яна яшчэ і дае звон: мама колькі разоў брала якую палку і лёгка біла па вісюльках-падвесках — і яны звінелі, як званочкі, як усё роўна нехта кратаў далікатныя струны.

Росцік пайшоў у прамуду, пакорпаўся там і знайшоў таткава вудзільна. Яно якраз даставала да люстры. Ён штурхнуў вудзільнам адну вісюльку, другую — яны тоненька зазвінелі. Гэта яго рассмяшыла: вось гэта будзе забава! Трэба прынесці з кухні табурэтку, лепш будзе дастаць, каб стукнуць па вісюльцы. Ён ажно задыхаўся, пакуль прыцягнуў табурэт, стаў на яго ўзбірацца, некалькі разоў падаў на дыван разам з табурэтам, выцяўся, але не заплакаў. Урэшце адолеў вышыню, стаў на табурэце, але ўспомніў, што не ўзяў вудзільна. Пачаў усё спачатку, цяпер пайшло хутчэй, ён зноў стаў на табурэт і вудзільнам, як пікаю, стаў пароць у вісюлькі, стаў перазвонькваць імі, слухаць і смяяцца. Урэшце ступіў шырокі крок, грымнуўся з табурэта, але не надта забалела, ды і плакаць не было перад кім, не было каму паскардзіцца. Пра вудзільна ён тут жа забыўся, пабег у свой пакой, стаў капацца ў вялікай кардоннай скрыньцы, у якой ляжалі яго цацкі — усякія звяры, машыны, гарматы, аўтаматы і пісталеты. Але ён узяў сабе мячык, самы меншы, затое цвёрды. Былі яшчэ два — адзін сярэдні, а другі вялікі, як пухір. Ён узяў цвёрды, каб «страляць» па люстры. Папусціў першы раз — не пацэліў. Зазлаваў на сябе, ледзь не заплакаў — ну і стралец! Папусціў мячыкам другі раз — і такі звон пайшоў па хаце! Люстра ўся як загаварыла на сваёй шкляной мове, нават заспявала цэлым хорам. Яшчэ раз! Цудоўна — сто званочкаў адазвалася ў паветры. За трэцім разам ён збіў адну вісюльку, яна ўпала на падлогу, на дыван. Цікава! Яна гранёная, доўгая, як лядзяш, толькі не халодная, іскрыцца-пераліваецца, калі глядзіш праз яе на святло...

Росцік, забыўшыся пра ўсё, разышоўся не на жарт. Стаў часцей кідаць мячыкам — зноў збіў некалькі вісюлек. Потым пайшоў па тыя два мячыкі, браў іх па парадку і цэліў у люстру, і, як ігрушы з дрэва, збіваў вісюльку за вісюлькай. Нават не заўважыў, як ішоў час...

Росцік пахадзіў трохі па кватэры, як бы правяраючы, ці ўсё на месцы. Ён добра ведаў, што браць у рукі якія там вазы ці фігуркі, што стаялі на вокнах, на палічках, у серванце,— нямožна, за гэта мама крычыць, а татка моцна б'ецца. У яго вельмі балючая рука, так кажа мама. І калі ён стукне гэтаю рукою яму па попе, то цэлы дзень баліць і нельга сесці на цвёрдае. Таму Росцік нічога не зачапіў, толькі пастаяў трохі ля бронзавых коней, якія стаялі цэлаю чарадою і як быццам збіраліся кінуцца наўцёкі — нібы іх нехта палохаў. Коні яму вельмі падабаліся, яму так і хацелася пагладзіць каторага, узяцца за хвост, але ён гэтага не зрабіў, нібы баяўся, што конь можа ўбрыкнуць.

Уздыхнуўшы як стары, ён накіраваўся на кухню. На століку для яго стаяла талерка з вермішэллю і катлетаю, шклянка кефіру і шклянка чаю на сподачку: як усё роўна татку, які збіраецца ў рэйс. Толькі татку тады была не адна катлета, а тры, і замест шклянкі чаю стаяў вялікі белы размаляваны кветкамі кубак, мама казала — літровы.

Малы, як дарослы, пачаў з кефіру — цадзіў праз зубы, цадзіў доўга, думаў, што ўжо ўсё, а як пагдзеў, дык не выпіў яшчэ і паловы. Адставіў шклянку, узяўся за вермішэль і катлету. Ёй спачатку вермішэль, але неяк яна засядала ў роце, ён стаў запіваць яе кефірам. Во так смачна! Не заўважыў, як скончыўся кефір, вермішэль таксама. Пакаштаваў катлету, але смаку не пачуў, адсуну — хай будзе на потым. Што цяпер? Пакаштаваў чай — ён быў салодкі, яшчэ цёплы і смачны, духмяны. На талерцы ляжала булачка, ён узяў яе ў пальцы, адкусіў на поўны рот, стаў запіваць, разжоўваць. Наліў сабе чаю на грудзіну, на кашульку ў клетку, расцёр далонькаю — нічога страшнага, высахне! У садзіку і не так бывае сабе нальеш на бараду — і нічога, высыхае. Добра, што штаны яшчэ сухія.

Не даеўшы булачкі і не дапіўшы да канца чаю, ён пайшоў з кухні ў залу. Чым тут заняцца? Тэлевізар уключаць няможна, гэта ён ведае добра. Тэлевізар б'е дзяцей па руках — так страшыць яго татка. Яшчэ, чаго добрага, можна спаліць кватэру, калі няма дарослых...

Ён задраў галоўку, загледзеўся на люстру.

■

Калі Клава вярнулася з працы і зайшла ў залу, яна ахнула: тут было як пасля якога пагрому. І адразу жахнулася: Росцік ляжаў у рагу на дыване, ля тэлевізара, як нежывы, у нейкай ненатуральнай позе — ніцма, галоўка закінута набок. Яна падбегла да дзіцяці, дакранулася да лобіка. Цёплы, потны лобік! Малы, стаміўшыся, спаў. Цяпер яе ўжо ахапіла злосць, калі яна глянула, што пад люстрай ляжаць тры мячыкі, палка-вудзільна, перавернутая табурэтка і цэлая куча перабітых і цэлых падвесак-вісюлек, а люстры было ўвогуле не пазнаць: нейкая крывабокая, пашкуматаная, як абшчыпаная варона, і свяціла зусім не так, як раней, а неяк падслепавата, як пакрыўджаная, як з падбітым вокам.

— Росцік! — крыкнула яна на ўсю сілу.— Уставай! Паглядзі, што ты нарабіў! — і яна тузанула яго за ручку.

Хлопчык расплюшчыў вочы, пазіраў, не разумеючы, што з ім і дзе ён, але ўбачыў матку і адразу ажыў, ускочыў на ножкі.

— А, мама прыйшла! Я так цябе чакаў! — закрычаў ён ад радасці.

— Я бачу, як ты мяне чакаў, я бачу! — ледзь не заплакала Клава.— Ты паглядзі, што ты нарабіў, дурань ты неразумны! Ты ж усю люстру згуміў! Во табе за гэта, во табе за гэта! І яшчэ! І яшчэ! Каб ведаў другі раз!

Яна надавала яму плескачоў па мяккім месцы, хлопчык упаў на дыван, задрыгаў ножкамі і зайшоўся ад плачу.

— Не плач, а ўставай! Памагай рабіць парадак,— закрычала маці на сына.— Бацька прыедзе, дык яшчэ не так табе дасць! Будзеш ведаць на ўсё жыццё, жабяня малое!

Не паспелі яны навесці парадак у зале, як і праўда прыехаў Кірык. Ён адамкнуў сваім ключом дзверы, пераступіў парог, зазірнуў у залу і застыў, пазіраючы на люстру, на заплаканага малога, на ўстрывожаную жонку — і ўсё зразумеў.

— Бачу, бачу парадачкі. Буду зараз вучыць сынка,— сказаў са схаванай злосцю Кірык.— Канчай гэту песню, давай есці, я галодны, як звер.— І ён стаў разувацца і распранацца — вялізны, мажны, непаваротлівы, як мядзведзь.

Схадзіў у ванны пакой, памыў рукі, твар, сеў за кухонны столік, які здаваўся перад ім дзіцячым — як у Росцікавым садзе. Жонка падавала яму ўсё, што было: тыя ж катлеты, якія давала малому, тую ж вермішэль, кавалак паскрылянага сала, сырыя яйкі, кілбасу, цыбулю.

— А прамачыць горла? Забылася? — сказаў з папрокам, нібы яна бог ведае што забылася.

Яна ведала яго звычку «прамочваць горла», прыехаўшы з дарогі. Дастала з халадзільніка бутэльку «Сталічнай», паставіла на столік, падала крышталёвую, з наразнымі ўзорамі, чарку.

— Што ты мне гэты напарстак ставіш? Дай шклянку! — з раздражненнем сказаў ён.

Яна дастала з буфета тонкую шклянку з залатым абадком у самым версе, паставіла перад ім. Ён наліў амаль поўную шклянку, узяў у вялізную сваю руку і адным духам апаражніў посуд. Хукнуў на кулак, стаў з апетытам закусваць.

Клава хацела выйсці з кухні, паглядзець, дзе Росцік, мо нават вывесці яго на вуліцу, каб адцягнуць экзекуцыю, у якую яна верыла і не верыла, але ён уладарна сказаў: «Пачакай». Яна засталася на кухні, падавала яму то тое, то гэта, ён моўчкі жаваў, не гледзячы на яе, нібы яе тут і не было, твар яго паволі пакрываўся чырванню.

# люстра

А звычайна пасля вяртання з паездкі ён сёе-тое расказваў ёй, хваліўся ўдалымі пакупкамі, сваёй кемлівасцю і спрытам. Сёння ён не прынёс нічога дадому, як гэта рабіў амаль заўсёды. Мо хіба пакінуў у машыне? Урэшце ўстаў, абцёр верхам далоні вусны і сказаў зверавата:

— Пайшлі! — і папраставаў першы.

У Клавы сцялося ўсё ўсярэдзіне: няўжо будзе біць, не адступіцца ад свайго?

— Ну, дзе той хуліган? — спытаўся Кірык, зноў спыніўшыся пад люстрай і задраўшы галаву, якая амаль што даставала да самай люстры.— Прывядзі мне яго сюды, пагаворым,— сказаў жонцы.



Яна зайшла ў дзіцячы пакой. Малы сядзеў на падлозе, на дыване, і пакручваў кубік-Рубік, заганяючы колер да колеру.

— Хадзем, сынок, татка кліча,— сказала ласкава дзіцяці, а ў самой падступаліся слёзы да горла.

Ён нехаця ўстаў, з кубікам у ручцы пайшоў за маткаю.

— А чаго кліча? Біць будзе? — спытаўся малы з трывогаю.

— Не ведаю. Мо пакрычыць, паўшчувае...

Яны абое ўвайшлі ў залу, сталі ля дзвярэй.

— Падыдзі да мяне,— сказаў Кірыла малому сыну.— Падыдзі, будзь мужчынам.

Малы няхмела падышоў, азірнуўся на маці, потым знізу ўверх глянуў на бацьку. Што яго чакае, ён не ведаў, але баяўся балючай таткавай рукі.

— Ну, палюбуйся на сваю работу, сынку, палюбуйся! — распальваў сябе Кірыла.— Бацька будзе гарбець, пеклаваць, збіраць у хату, а ты будзеш раскідаць, транжырыць, біць? Я ж табе нараскідаю, я ж табе наб'ю!

І ён, ашчэрыўшыся, схапіў малога ззаду за кашульку, за плечкі, прыўзняў і, паклаўшы сабе на калена, з правай пачаў біць далонню па попцы — раз, другі, трэці. Дзіця зайшлося ад болю і плачу, але ён, азвярэўшы, біў яго і біў, хлопчык ужо не плакаў, а хрыпеў, яго стала ванітаваць, ён задыхаўся і захліпаўся, а Кірык, раз'юшаны ад злосці і гарэлкі, не пераставаў малаціць дзіця па попцы, дастаючы і вышэй.

— Што ты робіш? Апамятайся! — не вытрымала ўрэшце Клава.— Ты ж заб'еш дзіця!

— Хвароба яго не возьме! Хай ведае! — цяжка выдыхнуў Кірык і кінуў малога на падлогу, на дыван пад люстраю, дзе яшчэ ляжалі несабраныя падвескі-вісюлькі.— Хай запомніць на ўсё жыццё, як раскідаць бацькава дабро!

Ён глянуў шалёнымі вачыма на жонку, павярнуўся і пайшоў на кухню, няйначай, дапіваць сваю гарэлку.

...Назаўтра Клава адвяла малога Росціка ў садок. Ён быў вялы, сонны, маўклівы, што з ім рэдка бывала, на боль не скардзіўся, хоць яна пыталася ў яго, што баліць. Трохі паспакайнелая, яна паехала на працу, але сядзела ўвесь час, як на гарачым вуголлі: усё нечага чакала. І дачакалася: пасля абеду ёй пазванілі з садка, сказалі, каб яна тэрмінова прыязджала, з яе сынам дрэнна...

Яна прыляцела ў той садок ні жывая ні мёртвая: што сталася? Што? Ля садка стаяла хуткая дапамога.

— Што з Росцікам? — спыталася са слязамі ў голасе ў доктара.

— Вы Росцікава мама? — спытаўся малады доктар пахмурна.

Яна кіўнула.

— Бяда, мама. Ваш Росцік... не прачнуўся. Проста памёр. На целе ў яго сляды пабояў... Вы не растлумачыце, што гэта значыць?

— Не ведаю,— уся пахаладзела адразу Клава.— Не ведаю...— паўтарыла няпэўна.

— Як гэта? Вы ж маці. Павінна ведаць,— пранікліва глядзеў на яе малады доктар.— Вось паглядзіце...

Росцік ляжаў на жывоціку, ён як спаў. Якраз як учора, калі ён спаў на дыване ля тэлевізара.

— Сынок! — крыкнула не сваім голасам Клава.— Сынок! Прачніся! Сынок, Росцічак мой! — яна кінулася да сына. Цельца яго было халоднае, як лёд. І гэта яе адразу ацверазіла: яна зразумела ўсё!

Як сляпая, як не сваімі нагамі, яна пайшла. Ніхто яе не спыняў. Яна прыйшла дадому, хоць дарогі не бачыла зусім. Кірылы дома не было. «Гэта й добра»,— сказала яна сабе. Як не сваімі рукамі, яна потым рабіла ўсё: распранулася, пайшла ў ванны пакой, знайшла вяроўку, на якой вешала бялізну. Ніколі не думала, што гэтая вяроўка саслужыць ёй апошнюю службу, ніколі. Хацела напісаць запіску, але плюнула: навошта? Такое ганьбы яна не перажыве — нават каб і засталася жыць, памерла б ад сораму: за сябе, за мужа. Няма сына — хай не будзе і яе. «Хай жыве гэты... адзін, калі можа. Хай жарэ... свой крышталь...»

Яна зрабіла пятлю, прымацавала вяроўку зверху да труб, перахрысцілася — і...

...Матку і сына пахавалі разам, у адной магіле. Кірылу Клешчука ў хуткім часе судзілі — за ненаўмыснае забойства свайго сына. Доўга яму будзе сніцца крышталёвая люстра...



Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



Віктар
ЧАРОПКА

# Абразкі

У храм уваходзяць — здымаюць шапкі. Ён не зняў.

Ён лічыў сябе коласам, які хлебам накорміць галодных. Ён лічыў сябе белым лебедзем, які праспявае не адну лебядзіную песню. Ён лічыў сябе плынная рэчкай, што ратуе зямлю ад смагі. Ён лічыў сябе світанкам святочнага дня. Навошта было такому здымаць шапку? Разбэшчанай хадой хама уваліўся ён у святыню, і змярцвела на вуснах грэблівая ўсмешка...

Не бяруся тлумачыць, чаго нельга растлумачыць. Нельга растлумачыць, што ёсць каханне. Нельга растлумачыць, як нараджаецца чароўная повязь вершаў. Нельга растлумачыць, чаму птушкі вяртаюцца з выраю да нас на поўнач. Шмат чаго нельга растлумачыць.

Не бяруся тлумачыць, што думаў ён, калі бачыў трапяткое святло свечак і вячыстую мудрасць у вачах, што глядзелі на яго з абразоў, і зняважлівую ўсмешку распятага на крыжы чалавека. Аднак ведаю, што адчуў ён сябе зернем, якое так і не прарасце коласам, брыдкім качанём, а не белым лебедзем, перасохлай ручаінай, а не плынная рэчкай, змрочным учвалам, а не світанкам святочнага дня. Злядзела з ганарлівай галавы шапка. Панура выйшаў ён з храма.

Толькі я веру: зерне прарасце коласам, каб хлебам накарміць галодных, а брыдкае качанё белым лебедзем узляціць над зямлёю, ручаіна заблішчыць на сонцы празрыстымі хвалямі плыннай рэчкі, а глыбокая ноч саступіць перад світанкам. Дайце толькі час...

● Навукоўцы ўсіх ступеней і званняў вострым нажом матэрыялізму раскрамсалі чалавечую плоць. І калі ім верыць, то не выпырхнула адтуль крылатая істота — душа. Яны, паклаўшы рукі на Біблію, аўтарытэтна заявілі: «Душы ў чалавека няма. І ўсё, што аб ёй казалі паэты і святары,— мана, лухта і казкі для дарослых». Людзі паверылі навукоўцам — адракліся ад душы. А хто ўздумаў сумнявацца, таго адразу абвясцілі цямрэчай.

І я паверыў бы, калі б не мая бабка. Я рос у яе хаце, і пад яе казкі засынаў, і пад спеў агню ў печцы раніцай прачынаўся. Я верыў кожнаму яе слову. Верыў, што пад печкай жыве хатнік, а калі адчыніць паддувала, адтуль выскачыць чорт, верыў, што ведзьмы крадуць з траў расу, а з нябёсаў зоркі і месяц, верыў, што ў лесе, куды я так упарта збягаў, ловіць неслухаў цмок. Таму я веру болей бабульцы, чым навукоўцам, а яна ведала, што чалавек жыве з душой. Кожны раз, калі бабка наведвала царкву, дык ставіла свечкі на памяць аб душах сваіх бацькоў, мужа, які загінуў у вайну, дзетак, што памерлі немаўлятамі.

І я кажу, што ёсць у нас душа: трапяткая, як вогнік свечкі, паэтычная, як плач жалейкі, пяшчотная, як сонечны промнік, гарачая, як купальскае вогнішча, добрая і закаханая, летуценная і ўзнёслая, ахвярная і мужная, чыстая, як сляза радасці і гора.

Вось чаму я часта спяшаюся ў цудам ацалелы ад эпохі плебеяў духу храм і запальваю свечкі на памяць аб бабчыных і дзедавых душах. Я веру, што там на нябёсах, куды ўзнесла іх бессмяротнасць, яны ўбачаць мігценне

гэтых крохкіх свечак і абрадуюцца — іх не забываюць на зямлі. І з якой зайздрасцю і сумам глядзяць на іх душы тых, чые дзеці і ўнукі, паверыўшы ў бяздушнасць чалавека, ніколі не памянуць іх.

● Па характару ён быў скептык. Ён не любіў шумнай хэўры сяброў, ды і сяброў сапраўдных не меў, мо таму ніколі не адзначаў сваіх дзён нараджэння, не святкаваў свят, нават Новы год не сустракаў. Што за глупства надаваць столькі ўвагі каляндарнай лічбе — змене часу. Усё роўна нічога новага не чакай, усё паўторыцца: мітусня, клопаты, сум, расчараванні, чэргі... «У маёй Індыі духу я сам вырашаю надыход Новага года».

На Новы год ён у адзіноце чытаў кнігу. Я ведаю, чаму ён скептык, чаму адзін без сяброў і чаму, каб пазбегнуць адзіноты, лезе ў абрыдлыя яму кнігі. А таму... Як сустрэнеш год, так ён і пройдзе, кажуць людзі...

● — Сустрэнемся каля левага чаравіка Якуба Коласа,— прызначае сустрэчу мой сябар каля гіганцкага помніка пісьменніку.

Вось так на практыцы пазнаеш веліч класікаў.

● Забыліся пра спрэчкі, паставілі прасыхаць келіхі, і ў накураным пакоі загучала гітара, быццам ветру адзінокае блуканне ў чароце, звон мячоў і трэск ахвярнага вогнішча, развітальны гудок цягніка і плач перапёлкі. Заспяваў бард. Сумная мелодыя праз дым цыгарэт дабярэцца да душ прысутных.

Ты, паэце, прытулішся да спінкі канапы, заплюшчыш вочы і маскай накінеш далоні на твар. І ці то ад расчуленасці, ці ад прастаты душы, а мо ад выпітага віна на вачах тваіх выступяць слёзы. Не палохайся — за дымам цыгарэт ніхто не заўважыць адзінокай слязінкі на тваёй шчацэ.

● Мне вецер на лютні часу праспяваў дзівосны санет, што на свеце гэтым усё без перамен, хаця і ведаў, што свету гэтага ўжо няма.

● Хаця старасць і апранаецца ў апратку маладосці і твар свой хавае пад маску грыму, але я лёгка распазнаю яе па зайздрасці ў вачах, з якой яна паглядае на маладосць.

● Праз былыя ўспаміны, па дарозе да сябра, размотваў я тугую стужку часу назад. У катомцы рванай за плячамі сорам сціплых дароў — усё, што выплакаў начамі,— убоства шэрых радкоў, жыцця свайго недапісанай кнігі. Я хацеў вярнуцца ў мінулае. Туды, дзе ночы, як і належыць мудрацам, моўчкі і сур'ёзна слухалі нашых слоў дзіцячую гульню. Туды, дзе лёгка так і прыемна дыхалася ўзнёсласцю ружовых мар. Туды, дзе яшчэ не разбіты келіхі, з якіх мы маглі абмачыць перасохлыя ад спрэчак вусны. Туды, дзе верылі, што ўдача, як голуб, сядзе нам на далонь, пакваліўшыся на крышку хлеба...

Па дарогах, вузкіх і шырокіх, прамых і крывых, усё далей і далей я адыходзіў адтуль. Знясіленаю рукой хапаў з мільгання кола часу імгненне шчасця. Бывала, што і ўдавалася. Так ішоў... Але дзіўна — усе дарогі прывялі дадому. І што ў набытак? Пастарэлая зморшчаная скура, выцвілы позірк стомленых вачэй і збітыя ў кроў ногі.

А цяпер я крочу да сябра з наіўнай верай, што яшчэ можна распаліць былое вогнішча, нават, калі паднесці запалку да попелу. Бачу ўначы святло ягонага акенца, і сэрца радасна імкнецца туды.

Прыступка за прыступкай усё вышэй я падымаюся па лесвіцы. І вось дзверы. Званок, як знак паратунку, адзавецца ў сябравай душы. Крокі — яны да дзвярэй. У грудзях, як птушанятка ў гняздзе, хвалюецца радасць. Сябар адчыняе дзверы.

— Ты? — здзіўленне ў вачах, а потым збянтэжаная ўсмешка.— Прывітанне! Я, канечне, абрадаваны, але прабач — я не адзін. Сам разумееш — жанчына.

Я разумею — мяне тут не чакалі...

За спінай застаецца дом. Я не азіраюся, бо ўпэўнены: сябар не памахае напаследак. Іду, зматваю тугую стужку часу назад у клубок пражытых дзён. І думаю, што дарогі, па якіх рэдка ходзяць, зарастаюць быльнягом.

● Аб чым думаеш, Максім Багдановіч?

Вось і зноў ты на Радзіме. У бронзавым здранцвенні задумліва паглядаеш на Верхні горад, дзе замест спічастых храмавых вежаў, бачыш выродлівыя гмахі сучаснага дойлідства.

— Молодой человек, вы не знаете, кому из оперных певцов памятник? — адарвала мяне ад роздуму жанчына.

Атлусцелае бясформеннае тулава. Нейкі выраз заўсёднай паспешлівасці ў вачах, быццам спазняецца заняць чаргу за дэфіцытным таварам. Дзве паўнюткія авоські адцягваюць рукі. Дзіўна, як яна яшчэ помнік заўважыла?

— А чаму вы думаеце, што гэта опернаму спеваку?

Беларуская мова ў маіх вуснах выклікае ў яе вачах насцярожлівасць. Жанчына недаверліва паглядае на мяне.

— Как же, возле оперного стоит...

— Гэта помнік Максіму Багдановічу.

Імя паэта ёй нічога не адкрыла. Яна, быццам нешта прыгадаўшы, глыбакадумна выдыхнула: «А-а-а»,— і памчалася далей. А я зноў застаўся з Максімам Багдановічам. Можа, яшчэ спатрэбіцца растлумачыць, каму пастаўлены помнік

● На кожным прыпынку бачу былых сяброў. Праз запацелыя вокны твары іх, як і раней маладыя, бы глыток жывой вады для мяне. Успамінаю былыя дні, сяброўства нашага хмельную асалоду, соль і развітання боль. Мне б выйсці з аўтобуса да іх, але з усіх бакоў я заціснуты людзьмі, не паварушыцца, а не тое, каб дабрацца да выхада. Адпраўляецца аўтобус у шлях, і застаюцца сябры на прыпынках.

● Усю ноч марудна дажджамі сеецца нудота. Стаяць дрэвы маўкліва, змоклыя да апошняга лісточка. І вецер балюча, быццам пугай, сцябае па галінках.

Няма каму іх пашкадаваць. Людзі спяць, якая ім справа да дрэў, што яны мучацца ў начы. Нікога чужое гора не кранула.

Хоць плач ты, хоць крычы.

● Упершыню за доўгія гады, што прамчаліся, нібы на гарачым кані, можа быць, ад восеньскай самоты дажджоў нарэшце прыснілася ты. Да мяне ў пакой нясмела ўвайшла, і твой зацікаўлены позірк па ім імгненна прабёг. Чым жа я — гаспадар — багаты? Няма ані злата, ані крышталю і сцены не апрануліся ў раскошу дываноў. Жыву вельмі проста, толькі кнігі і кнігі, ды распяцце Хрыста. І мовіла мне: «Ды ты зусім жабрак, дарэмна мне абрадаваўся. Прабач, памылілася я, пазваніла ў дзверы не тыя».

● Гэтае зерне прынёс сюды вецер-вандроўнік з заморскіх краёў, дзе сярод лабірынтаў, што гучна называюцца зялёнымі вуліцамі, блукаюць і па сённяшні дзень дзіцячыя мары. Яно ўпала ў ссохлую зямлю, на якой вось які ўжо год нічога не расло, акрамя быльнягу. І зерне не склявалі птушкі. Раптам пайшлі дажджы, цёплыя і густыя, і яно прарасло кустом ружы. Штодня я прыходзіў да яго і ў спакоі клаўся на траву, глядзеў на воблакі і забываўся аб усім на свеце. Мяне ўжо не цягнулі цуды замежных краін. Не хацелася шукаць сябе, а тым больш нешта даказваць, нешта сцвярджаць. Усё гэта мітусня. Што мне трэба? Тое, што хацеў — усё роўна не атрымаю, тое, што меў — згубіў, на што спадзяваўся — заблыталася ў восеньскім павуцінні і знясло яго ветрам. Мне было люба ляжаць, ні аб чым не марыць, нікуды не спяшацца, ні аб кім не хвалявацца. Аднойчы, калі я прыйшоў да ружы, не ўбачыў яе. Куст хтосьці ссек. Каму ён спатрэбіўся? Хто не збаяўся вострых колкаў? Хто не ведае, што чорны колер — колер жалобы?

● Па легкакрылых нябесных хвалях я лячу на ладдзі. Унізе зямля. Над галавою мільгаюць босыя падэшвы Бога. Ён крочыць насустрач часу. У яго так шмат клопатаў, што яму не да мяне. Анёлы, як птушкі, сядаюць перадыхнуць на маю ладдзю і весела размаўляюць са мною. Залатыя стрэлы сонечных промняў ляцяць мне наўздагон.

Я назваў сваю ладдзю «Арго». І значыць я адзіны сёння арганаўт. А плыву я па залатое руно. Калі стамлюся,— кладуся на карме і заплюшчваю вочы. І бачу не зіхаценне залатога руна, а адзінокую постаць жанчыны на далёкім беразе. Хто гэта? Можа Медэя, якую пакінуў Язон, штодня выходзіць яго сустракаць?

Раніцай я забываю і пра ладдзю, і пра руно, і пра адзінокую постаць на далёкім беразе, як і кожны,— жыву рэаліямі дня, і толькі ноччу да мяне вяртаецца «Арго», і я бачу жанчыну, што пакутліва чакае кагосьці. І ніяк мне да яе не даплыць...

● Ці ад таго, што ноч вельмі ж халодная, ці ад таго, што шчасце мінула і зараз засталася адна, а можа, што пуста і побач ні душы, альбо ад таго, што пачуццё прадала за грошы, плача вельмі горка жанчына ўначы. Толькі вось свечкі не запаліць слязамі.

● Срэбракрылы павук дажджу павольна прапаўз па нябёсах. Людзі, пабачыўшы яго, паспешліва пахаваліся пад дахі. І своечасова, бо павук пачаў ткаць павуцінне дажджу. Срэбныя ніткі празрыста-сонечнай вады пацягнуліся да зямлі. Адзін я толькі і трапіў да яго ў павуцінне. І вось іду мокры, пад нагамі разбягаюцца лужыны. Людзі з акон пазіраюць на мяне, і я ведаю, што яны думаюць: «Вар'ят». Як шкада мне іх: яны ніколі ў жыцці не зведаюць дажджу чароўнай асалоды.

● Мілая мая, родная мая, я яшчэ вярнуся да цябе.

Што такое наша развітанне? Гэта песенька простая, якую нікому не праспяваць. Гэта цемра начная ў вачах сляпога. Гэта сірата, пра якую мне не дбаць. Гэта рэха лясное, якое да сябе не падазваць. Гэта апошні спеў глушца перад тым, як грымне стрэл паляўнічага. Так што, чакай мяне.

● У мяне ёсць верны сябар, мой нязменны спадарожнік. Ён заўсёды са мною. І тады, калі вецер забіраецца пад маю вопратку, каб сагрэцца ад паўночных вандровак. І тады, калі восеньскі дождж хрысціць людзей у веру апусцелых вуліц. І тады, калі агеньчык замярзае на кончыку цыгарэты.

Ён моўчкі крочыць каля мяне і цярпліва выслухоўвае ўсе мае нараканні на лёс. Гэта мой цень. І хоць ён без душы, без вачэй і вушэй, але і ён аднойчы не вытрываў.

— Назола,— мовіў мне,— надакучыла слухаць цябе. Колькі можна. Усё табе не слава богу. Ты нешта там казаў пра жар сваёй душы. Дык вазьмі і запалі з яго вогнішча, хай на ягонае святло прыйдуць людзі, хай яны сагрэюцца ля яго. Падай ім руку, сарві з твараў маскі і ўбачыш на іх адзнаку жыцця: горыч і самоту, пакуту і жалобу, расчараванне і безнадзейнасць. Зразумей: ты ў гэтым свеце не адзін...

Я рассыпаў жар душы па гэтых старонках. Цяпер чакаю, калі ўспыхне вогнішча.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

Міністр культуры БССР Я. К. Вайтовіч наадрэз адмовіўся даваць інтэрв'ю часопісу аб становішчы беларускай культуры на шляхах пераходу да рынку. «Вы ведаеце,— гаварыў мне яго памочнік,— Яўген Канстанцінавіч не з тых, хто любіць даваць пустыя абяцанні. Пакуль Вярхоўны Савет не зацвердзіў бюджэт рэспублікі, міністр не можа гаварыць канкрэтна, якія сродкі і на што будуць выдаткаваны. Пакуль што наша кішэня пустая...»

«Сапраўды,— падумалася мне,— мы, журналісты, часам бываем бязлітаснымі, калі падстаўляем мікрафон да спалатнелых вуснаў звязанага па руках і нагах чалавека і просім адказаць, ці баліць у яго што, у якім месцы больш муляе вяроўка і хто, на яго думку, дапаможа яму вызваліцца. Зрэшты, пазіцыя міністэрства культуры дакладна вызначана ў распрацаваным ім праекце Закона Беларускай ССР «Аб культуры ў БССР». І не толькі ад міністэрства цяпер залежыць, ці будзе ён прыняты і добрасумленна выкананы...»

І тут жа ўбачыла строгія вочы галоўнага рэдактара, нібыта ён ужо абяцаў мне пакінуць чысты аркуш паперы ў часопісе на месцы не ўзятага інтэрв'ю. Рука міжволі пацягнулася да тэлефона і набрала нумар народнага артыста СССР, галоўнага балетмайстра Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР Валянціна Мікалаевіча ЕЛІЗАР'ЕВА. Магчыма, гэта размова дапаможа выратаваць становішча...

Я не памылілася. Пругка, імкліва крочыў ён па некалі шыкоўным дыване свайго рабочага кабінета, сапраўды прыстасаванага для работы і кароткага адпачынку, а не для прадстаўніцтва, адказваў на пытанні, спрачаўся са мною, паказваў новыя афішы, прысаджваўся на кароткае імгненне за стол, папрасіўшы прабачэння, тэлефанаваў і прасіў заказаць машыну, даведацца, як пачуваюць сябе ў атэлі яго госці — тайландскія імпрэсарыо, абяцаў некаму прынесці аспірын... І было ў гэтай манеры хадзіць і разважаць, імгненна і бурна рэагаваць на перамену тэмы размовы, у звычцы думаць і дзейнічаць адначасова ў некалькіх напрамках столькі энергіі, столькі нерастрачанай сілы, што я імгненна адчула прыліў бадзёрасці. Нібыта не апошні пачак цыгарэт трымаў ён зараз у руцэ, неабачліва дастаючы іх адну за адной і кідаючы недакурanымі, нібыта не прыгняталі яго, як і ўсіх нас, пустыя паліцы ў магазінах і няўпэўненасць у заўтрашнім дні, не вярэдзілі душу дзесяткі нявырашаных пытанняў, з тых, што ставяць пад пагрозу справу яго жыцця. Ён не плыў па цячэнню, пакорліва прадастаўляючы хвалям несці яго бязвольнае цела, а рассякаў ваду моцнымі, энергічнымі ўзмахамі рук спрактыкаванага, упэўненага ў сабе плыўца...

І мне захацелася, каб вы таксама адчулі на сабе жыватворны ўплыў біяполя гэтага магутнага чалавека, паважаныя чытачы. Таму прапаную вашай увазе ўрывак з нашай размовы. У якасці невялікай кампенсацыі за нявыкананае заданне.

Людміла СУХАНАВА.



# ВАЛЯНЦІН ЕЛІЗАР'ЕЎ:

**В. Е.:** — Як мне зараз працуецца? Нармальна, калі зыходзіць з тэорыі дыялектыкі і верыць, што жыццё пастаянна змяняецца і ўдасканальваецца. Не само, вядома, а з нашай актыўнай дапамогай. Мы нагул увесь час з нечым змагаемся — з руцінай бюракратызму, безгаспадарчасцю, неспрыяльнымі ўмовамі надвор'я... На дадзеным этапе наш калектыў змагаецца за выжыванне тэатра ва ўмовах рынку і ўсеагульнай камерцыялізацыі.

**Л. С.:** — А мне здавалася, становішча тэатра не такое і дрэннае. Ва ўсякім разе, дастаць білеты на вашы спектаклі зусім няпроста...

**В. Е.:** — У гэтым я згодзен з вамі. Мы не можам паскардзіцца, што мінчане не любяць свой тэатр, у прыватнасці, балет. У нас амаль заўсёды аншлаг. Мы адчуваем цёплыя адносіны да сябе, чуем дыханне залы, і гэта дапамагае працаваць, бо мы ведаем, што наша мастацтва не мёртвае, яно патрэбна людзям. Але я прадчуваю цяжкія часы, і гэта прымушае мяне гаварыць, крычаць, каб зрушыць справу з мёртвай кропкі. Беларусь можа страціць свой нацыянальны набытак — балет, з яго унікальнай школай, сусветнай вядомасцю, і перастане лічыцца цывілізаванай дзяржавай. Чаму? Ды таму, што жорсткія законы рынку дыктуюць перавесці ўсе культурныя установы на рэйкі самаакупнасці. Ды яшчэ падатак, прытым немалы, дзяржава разлічвае атрымаць з кожнай глядзельнай залы. А гэта азначае, што мы павінны развітацца з тэатрам, бо да сённяшняга дня ён трымаўся на датацыі — на кожны прададзены, падкрэсліваю — прададзены, білет дзяржава даплачвае 7 рублёў...

**Л. С.:** — Вядома, прыбытак, які прыносіць мастацтва, культура, вымяраецца не грашамі, а маральным здароўем грамадства. І гэта мы сёння разумеем, як ніхто іншы. Але ж трэба ўлічваць, што дзяржава не вытрымлівае такога цяжару — на яе сёння абрынулася безліч праблем — нібы мех праврваўся, і кожная для свайго вырашэння патрабуе немалых сродкаў.

**В. Е.:** — Вы хочаце сказаць, што балет — дарагая забава (прабачце, што я гавару менавіта пра балет — гэты род мастацтва, як вы разумееце, мне бліжэй за іншыя, але з гэткім жа поспехам можна было назваць і жывапіс, і скульптуру, і музыку, і г. д.). Але ж мастацтва прадугледжвае зварот грашовых сродкаў у выглядзе культурных каштоўнасцей, як вы самі сказалі. Ва ўсім свеце яно трымаецца на дзяржаўнай датацыі, сродках муніцыпалітэтаў, на дапамозе прыватных асоб. І нельга чакаць ад дзеяча культуры, артыста, музыканта нейкай аддачы, пакуль не створаны належныя ўмовы для яго творчасці. Вядома, мы разумеем, што выратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў, і робім усё, каб мабілізаваць унутраныя рэзервы — прыдумваем эканамічныя рычагі, пераразмяркоўваем уласныя сродкі. Але ў сённяшніх умовах гэтыя меры малаэфектыўныя, яны мала што мяняюць у, праўма скажам, зневажальным становішчы артыста. Скажам, падняўшы мінімальную зарплату са 130 да 150 рублёў, мы нічога не зрабілі, каб палепшыць становішча чалавека ва ўмовах растучай інфляцыі. А ў кожнага ж сям'я, дзеці...

**Л. С.:** — Сапраўды, я іншы раз здзіўляюся, чаму людзі, якія восем гадоў вучыліся спецыяльнасці, якія ва ўсім абмяжоўваюць сябе — пачынаючы ад ежы і канчаючы вольным часам, штодзень знясільваюць сябе цяжкай працай, вымушаны мірыцца з такім мізэрным заробкам і пры гэтым захоўваць адданасць сваёй прафесіі, тэатру?

**В. Е.:** — Дык вось, каб неяк кампенсаваць маральныя і фізічныя затраты людзей, якія аддаюць сваё жыццё мастацтву, дзяржава і павінна паклапаціцца пра іх, як ні цяжка ёй у сённяшніх умовах, але павялічыць асігнаванні на культуру з 0,87 працэнта дзяржаўнага бюджэту хаця б для пачатку да 3—4 працэнтаў. Важна стварыць прэцэдэнт. І пры гэтым накіроўваць сродкі на ўмацаванне самых слабых звенняў ланцуга — падтрымаць работнікаў культуры самых

нізкааплатных катэгорый, на якіх, уласна, яна і трымаецца,— бібліятэкараў, музейных работнікаў, артыстаў, журналістаў, прапагандыстаў беларускай мовы. На сённяшні дзень самае галоўнае — захаваць людзей.

**Л. С.:** — Гэта праблема актуальная сёння і з іншага пункту гледжання — прыняцця Закона аб уездзе і выездзе...

**В. Е.:** — Во, во! У свой час мне давялося нямала папрацаваць у Польшчы — я ставіў там некалькі спектакляў і пераканаўся, што гэта краіна багатая на таленавітых артыстаў, цудоўных танцоўшчыкаў. Дык вось сёння, калі граніцы Польшчы адкрытыя, а эканамічнае становішча складанае, усе яны працуюць у рэстаранах, кабарэ, начных клубах ФРГ, Аўстрыі, Францыі... У Польшчы засталіся толькі тыя, хто з-за сваёй нізкай кваліфікацыі не здолеў заключыць кантракт ні з адной фірмай.

Гавару пра гэта з горыччу, бо, улічваючы наша геаграфічнае становішча, экалагічную абстаноўку ў рэспубліцы, баюся, што гэта можа здарыцца і ў нас. Мяркуйце самі: навошта чалавеку марнаваць сябе, як кажуць, за капейкі на гэтай катаржнай працы, па дзесяць гадоў і болей пакутаваць з сям'ёй у інтэрнаце ў чаканні кватэры, у той час калі на Захадзе наша работа — адна з самых высокааплатных. Да прыкладу, у любой заходняй краіне чалавек на маёй пасадзе атрымлівае роўна ў 50 разоў больш, чым я, у пераліку на долары. Да таго ж, атрымлівае гэту зарплату ён толькі за адміністрацыйнае кіраўніцтва трупай, а за пастаноўку спектакляў, у адрозненне ад нас, там плацяць асобна...

Мы не толькі згубім лепшыя кадры, мы ператворымся ў пастаўшчыкоў прафесіянальных артыстаў (можаце дадаць — музыкантаў, вучоных, урачоў, інжынераў і г. д.) для заходніх краін. Якое выйсце з гэтага становішча, пытаецеся? Толькі адно: выраўняць матэрыяльнае становішча работнікаў мастацтва, людзей інтэлектуальнай працы ў нас і на Захадзе. Толькі тады, калі ўзровень жыцця стане аднолькавы, у людзей адпадзе жаданне пакідаць наседжаныя гнёзды і ехаць на чужыну ў пошуках больш высокіх заробкаў.

**Л. С.:** — Але ж вы разумееце, Валянцін Мікалаевіч, што гэта здарыцца не так хутка і залежыць найперш ад эканамічнага становішча ў краіне.

**В. Е.:** — Той, хто сядзіць у яме і крычыць, што яна глыбокая, не хутка з яе выберацца. Трэба шукаць захады для свайго выратавання, кожны дзень рабіць хоць маленькі крок у гэтым напрамку. І не адштурхоўваць руку, калі табе прапануюць дапамогу. У нашым выпадку трэба шукаць добрых менеджэраў і арганізоўваць як мага больш замежных гастроляў — на сённяшні дзень у беларускага балета безліч запрашэнняў. На маю думку, трэба больш давяраць прафесіяналам — пасрэдніцкія фірмы «Ландсграф», «Ібс і Тылет», «Орыджэн Артс» і іншыя даўно і плённа супрацоўнічаюць з намі, з іх дапамогай беларускі балет абʼехаў увесь свет — не былі толькі ў Аўстраліі і ЗША. Спадзявацца толькі на «Дзяржканцэрт» або ўрадавыя кантракты — неразумна і нявыгадна. Гэта не толькі дапаможа ў некаторай ступені палепшыць матэрыяльнае становішча артыстаў, але і папоўніць дзяржаўную казну валютай — дагэтуль мы аддавалі дзяржаве да 65 працэнтаў сродкаў, заробленых за мяжой. А трэба вам сказаць, што гэта немалыя грошы — там мы за вечар зарабляем ад 6 да 25 тысяч долараў (для параўнання дадам, што наш аншлаг на мінскай сцэне — 3,5 тысячы рублёў).

Гастролі — нармальная з'ява ў жыцці артыстаў, яны, вобразна кажучы, прыносяць прыток свежай крыві, да таго ж з'яўляюцца цудоўным сродкам прапаганды беларускага мастацтва, Беларусі ў цэлым як суверэннай дзяржавы. Бываючы за мяжой, мы нават у сваіх афішах падкрэсліваем, што мы не толькі савецкі (гэта надзвычай шырокае панясце), а менавіта беларускі балет: «Вялікі тэатр з Мінска», «Беларускі балет», «Балетная трупа з Мінска» і г. д.

**Л. С.:** — Абдумваючы свой рэпертуар на кожны сезон, распачынаючы работу над пастаноўкай новага балета, вы, відаць, улічваеце, што павінны прадстаўляць беларускае мастацтва не толькі ў краіне, але і за яе межамі?

**В. Е.:** — Гэта з'яўляецца абавязковай умовай нашай дзейнасці, у якой мы імкнёмся спалучаць два напрамкі — класічны і нацыянальны. Мяркую, не трэба даказваць, што ў адрозненне ад навукі і тэхнікі мастацтва павінна развівацца па нацыянальных, толькі яму ўласцівых законах. Толькі тое мастацтва, якое мае непаўторныя нацыянальныя рысы, раскрывае душу і характар свайго народа, можа быць цікавым для іншых народаў. Улічваючы гэта, мы вырашылі сёлета паставіць балет «Рагнеда» на музыку Андрэя Мдывані, які, паводле нашай задумы, павінен не толькі расказаць аб гісторыі беларускага народа, увасоблены ў трагічным лёсе полацкай князёўны, але і падкрэсліць яго лепшыя нацыянальныя рысы: дабрыню, стойкасць, адданасць і сумленнасць. Другой буйной работай у гэтым сезоне з'яўляецца класічны балет Мінкуса «Карсар», пастаўлены больш як 100 гадоў назад у Марыінскім імператарскім тэатры. Аднаўляючы харэаграфію Марыуса Піцепа, мы ўсё ж стараемся знайсці новыя падходы да гэтай фундаментальнай работы.

**Л. С:** — Апошнім часам нашы майстры мастацтва, у прыватнасці, кінематаграфісты, узялі на ўзбраенне адзін з атрыбутаў заходняй культуры — эротыку, часам звёўшы яе да адкрытай парнаграфіі. Яркая і выразная мова танца таксама магла б стаць адным са спосабаў увасаблення гэтага напрамку ў мастацтве, а заадно і сродкам прывабліваня гледачоў і ў нас, і на Захадзе...

**В. Е.:** — Як кажуць, усе сродкі прыдатныя... Я мог бы пакрыўдзіцца на гэта пытанне, але, улічыўшы яго актуальнасць, усё ж адкажу... Эротыка даўно з'яўляецца прадметам мастацтва, і я не думаю, што ў гэтым плане мы маглі б некага здзівіць на Захадзе. Як мастак я часта бываю ўражаны, нават глыбока ўзрушаны харастом чалавечага цела. Лічу, што няма нічога ў свеце прыгажэй за яго і ніводзін П'ер Кардэн не здольны ўпрыгожыць чалавека самымі цудоўнымі ўборамі лепш, чым гэта зрабіла Прырода. Таму эротыка можа і павінна быць прадметам мастацтва, але толькі ў тым выпадку, калі агаленае цела выклікае самыя высокія, самыя прыгожыя чалавечыя пачуцці.

**Л. С.:** — Але ж гэта грань бывае настолькі тонкай, што не ўсе здольны яе ўлавіць...

**В. Е.:** — Вось у гэтым і тоіцца ключ да мастацтва. Калі ты сапраўдны Мастак, ты павінен адчуваць гэту грань, інакш табе няма чаго рабіць на сцэне, у жывапісе, у кіно... Я сутыкнуўся з гэтай праблемай яшчэ ў той час, калі ставіў балет «Спартак»: мовою танца трэба было паказаць, што прычынаю падзення Рыма была разбэшчанасць нораваў. Паказаць беззаконне, насілле, распусту, неабмежаванасць улады, але паказаць так, каб мастацтва абуджала ў чалавеку лепшыя пачуцці, выхоўвала павагу да жанчыны, маці. Гэта было нялёгкім выпрабаваннем для мяне.

**Л. С.:** — Мне здаецца, гэта даўняя спрэчка аб прызначэнні сапраўднага мастацтва. А мы вымушаны вярнуцца да больш празаічных рэчаў... Вы лічыце, Валянцін Мікалаевіч, што прапанаваных мер дастаткова, каб выратаваць тэатр, бо менавіта так вы акрэслілі задачу вашага калектыву на пачатку размовы?

**В. Е.:** — Ні ў якім разе! Гэта толькі пачатак, першы крок. Само па сабе становішча ў тэатры не зменіцца, пакуль мы не абудзім творчую ініцыятыву людзей. Важна і маральна, і матэрыяльна зацікавіць артыстаў, пазбавіцца ад ураўнілаўкі, калі той, хто аддае ўсе сілы мастацтву, і той, хто проста бавіць час у тэатры, атрымліваюць аднолькава. Мяркую, кантрактная сістэма фарміравання кадраў, якую мы зараз укараняем, дапаможа нам пазбавіцца ад баласту і падняць прэстыж людзей здольных, працавітых, мэтанакіраваных. Адным словам, будзем усе разам шукаць выйсце са складанага становішча, і я веру, што мы яго знойдзем.

Ужо адно тое, што людзі, нібы схамянуўшыся пасля доўгага сну, загаварылі аб неабходнасці ратаваць беларускую культуру, абнадзейвае. Тысячы праблем, пра якія даўно і беспаспяхова гаварылі напаўголасу, паўсталі на ўвесь рост, патрабуючы неадкладнага вырашэння. Разбураныя помнікі архітэктуры, занядбаныя тэатры і канцэртныя залы, бедныя бібліятэкі і музеі, спустошаныя бездухоўнасцю душы людзей — усё патрабуе неадкладнай дапамогі, неадкладнага лячэння. Дзе ўзяць сродкі на ўсё гэта? Вось галоўнае пытанне, на якое мы абавязаны знайсці адказ, калі хочам застацца ў ліку цывілізаваных нацый. Дзяржава, царква, дабрачыннасць, мецэнацтва, камерцыя — усё павінна быць аб'яднана і накіравана на вырашэнне гэтага гамлетаўскага пытання. Кожнае пакаленне выконвае сваю звышзадачу, няхай гэта абарона Айчыны або барацьба з голадам. Наш крыж — абараніць сваю нацыянальную годнасць, сваю душу ад націску поп-культуры, кітчу, парнаграфіі, цынізму і жорсткасці, данесці да наступных пакаленняў скарбы нацыянальнай культуры, здабытыя ў вяках і памножаныя нашай нястомнай працай.

# «ДАВАЙЦЕ ЛЮБІЦЬ...»

Памятаю, вярнуўшыся з гастрольнай паездкі ў Іспанію, перагартаў газеты, што назбіраліся за маю адсутнасць. Якая змрочная карціна паўстала перада мной! Што ні артыкул, то поўная безнадзейнасць: эканамічны крызіс, безгаспадарчасць, страх перад рынкам, ростам цэн, беспрацоўем, злачыннасцю... Прадоўжыш гэты лагічны рад, і атрымліваем несуцяшальную перспектыву: голад, разруха, бездань. І толькі адна невялікая публікацыя, здаецца, у «Комсомольской правде», дала глыток свежага паветра: у ёй гаварылася, што мы ў сваім незайздросным становішчы падобны на людзей, якіх даўно ніхто не любіў. І мы забыліся, што мы разумныя, таленавітыя, дужыя, прыгожыя.

Дык давайце ж успомнім, што мы ўсё можам і ўмеем, нам толькі захацець. Давайце любіць і паважаць сябе і адзін аднаго. І верыць у сябе...

**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

# РЫМСКІ ДЗЁННІК

Адам МАЛЬДЗІС

**29 красавіка 1990 г.**

Рым запаланіў маё ўяўленне яшчэ ў дзяцінстве. Неяк ад сястры дасталася пашарпаная тоўстая кніга на польскай мове пад назвай «Жыцці святых», дзе апавядалася пра пакутлівы лёс першых хрысціян, якіх у прысутнасці імператара кідалі львам і іншым шэльмам у цырку-Калізеі. Потым да гэтага дадалася кніжка Т. Зялінскага «Казачная старажытнасць», ну і, вядома ж, школьны падручнік па гісторыі антычнага свету, са старонак якіх паўставалі дзівосныя постаці міфічных герояў, мужных палкаводцаў, мудрых мысліцеляў. Тады ж, у дзяцінстве, з'явілася неадольнае жаданне паглядзець на сцены палацаў рымскіх імператараў, спусціцца ў катакомбы, дзе хавалі тых жа мучанікаў.

Потым, у сталыя, даследчыцкія гады, імкненне пабываць у Рыме памножылася, калі я даведаўся, што там, у славутай Ватыканскай бібліятэцы, знаходзяцца матэрыялы, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да гісторыі беларускай культуры. Гэта — і архіў магілёўскага архіепіскапа дзядзькі В. Дуніна-Марцінкевіча Станіслава Богуша-Сестранцэвіча, у якім павінны захоўвацца невядомыя драматычныя творы, і адзін з першых беларускіх слоўнікаў, і польскія ды лацінскія п'есы з беларускімі інтэрмедыйнымі ўстаўкамі, што ставіліся на сцэнах езуіцкіх калегій Беларусі ў XVII і XVIII стагоддзях, і частка папер Аляксандра Ельскага...

І вось сёння колішняе жаданне стала ажыццяўляцца. Самалёт Масква — Рым, які ўзляцеў з аэрапорта Шарамецьева-2, узяў курс — праз Украіну, Румынію і Югаславію — на Апенінскі паўвостраў. Хто можа, любуецца праз ілюмінатары абрысамі чужых краін. Мы ж, трое беларусаў, мовазнавец Вячаслаў Вярэніч, гісторык Анатоль Грыцкевіч і я, аддаёмся неадольнай дрымоце, бо ўсю ноч правялі ў аэравакзале, як кажуць, на нагах: прыехаць туды раным-рана не было чым, а заказаць месцы ў аэрапортаўскай гасцініцы не было валюты. У такой сітуацыі нават тры гадзіны напаўсну ў самалёце — з перапынкам на сняданак — здаліся нам збавеннем. І толькі калі сцюардэса зноў загадала прывязаць рамяні, крыху паўзіраліся ў іскрыстае ад промняў сонца Адрыятычнае мора. Я ж прывёў у сістэму звесткі, атрыманыя напярэдадні ў Маскве ад Аляксея Каўкі: аказваецца, на пачатку XIX стагоддзя ў той жа Ватыканскай бібліятэцы пошукамі ўсходнеславянскіх рукапісаў займаўся наш Міхал Баброўскі і пакінуў іх апісанне, не даступнае нам; аказваецца, у 1596 годзе выйшла ў Рыме нейкая беларуская кніжка, не вядомая сёння, і, аказваецца, карэспандэнтам аднаго з ватыканскіх выданняў, «Вокс Урбіс», быў наш прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла... Усё гэта трэба адшукаць — калі хопіць часу, вядома.

У міжнародным аэрапорце Ф'юмічына сустрэў нас прафесар Мар'ян Радван, дырэктар Польскага інстытута хрысціянскай культуры, па запрашэнню якога мы сюды прыбылі на канферэнцыю, і паведаміў, што яна пачнецца заўтра. Сёння ж, пасля ўладкавання ў гасцініцы, нас запрашаюць на пікнік, які даюць тры італьянскія арыстакраткі ў гонар зарубежных гасцей, а потым будзе агляд славутых рымскіх катакомбаў.

Па няблізкай дарозе ў Рым пільна ўглядаемся ў краявіды. Буйная зеляніна на дагледжаных палях. Вялікія статкі авечак. Гаі з стромкіх піній, чые пляскатыя шапкі сплятаюцца ўверсе галінамі. Аліўкавыя і памяранцавыя дрэвы, квецень ніколі не бачаных кустоў. Даволі рэдкія сялянскія домікі, мураваныя з шэрага каменю. А над усім гэтым — сляпучае сонца і незвычайна блакітнае неба. Усе фарбы яскравыя, насычаныя. Цяпер пачынаю разумець, чаму нашы славянскія мастакі нязменна імкнуліся ў Італію.

Сам Рым таксама здзіўляе яркасцю рэклам, спалучэннем традыцыйнай забудовы і звышсучаснай архітэктуры, напружанасцю руху на вузкіх вулачках, агароджаных з двух бакоў мурамі з таго ж шэрага каменю, за якімі ў зеляніне дрэў хаваюцца палацы старой і новай знаці. Некаторыя з іх (віла Баргезе) — вядомыя на ўвесь свет архітэктурна-музейна-паркавыя комплексы.

У адной з такіх віл, пад нумарам 263 на Вія дэля Начэта, месціцца наш часовы прытулак — пяціпавярховы будынак Міжнароднага цэнтра імя святога Джавані, акружаны садам з пальмамі і пініямі, а ўсё гэта абнесена высокай шэрай сцяной. У самім будынку, які нам паказаў прафесар Радван, усё прадугледжана для правядзення міжнародных канферэнцый: зала для пасяджэнняў з кабінамі для перакладчыкаў на дзевяць моў, сталовая-кафэ з аўтаматамі, адкуль выскокваюць папяровыя кубачкі з рознымі напоямі, пакоі для пражывання і нават свая капліца. Праўда, далекавата ад цэнтра. Але такая аддаленасць, кажуць гаспадары, дазволіць нам засяродзіцца толькі на навуковых праблемах.

— А як жа з маім даўнім жаданнем папрацаваць у ватыканскіх бібліятэцы ды архіве? — пытаюся.

— Наўрад ці гэта вам цяпер удасца,— чую ў адказ.— Праграма канферэнцыі вельмі насычаная... Хіба што ў вас ёсць валюта, каб спецыяльна застацца на які тыдзень.

— Адкуль тая валюта...

— Ну, не засмучайцеся так... У крайнім выпадку пакінеце нам свае пошукавыя каардынаты, а мы пастараемся зрабіць для вас ксеракопіі ці мікрафільм.

Прывёўшы сябе крыху ў парадак, мы зноў едзем у напрамку Ф'юмічына — на гэты раз на пікнік. На сталах ва ўтульнай і прахалоднай кавярні — высокія бутэлькі з чырвоным і белым вінаградным віном, моцна прыпраўленае спагеці (ох, як цяжка накручваць іх на відэлец!), мноства яблыкаў, груш і апельсінаў. Прыглядаюся да суседзяў, з якімі звёў мяне лёс за адным сталом: мужчына з тварам працаўніка-селяніна, жанчына з няўрымслівым цюцікам, занятая клопатамі, каб усім нам было тут зручна, яшчэ адзін мужчына ў гадах, апрануты — у адрозненне ад нас, беларусаў, зацягнутых у гальштукі — вельмі свабодна, па-спартыўнаму... Спакваля аказваецца, што першы з іх — лаўрэат Нобелеўскай прэміі паэт Чэслаў Мілаш, другая — маркіза Ванда Гаўроньска, ініцыятарка пікніка, трэці ж — прэзідэнт Польскай Акадэміі навук гісторык Аляксандр Гейштар. За суседнімі сталамі бачу ўкраінскага паэта кіраўніка Руху Івана Драча, польскіх і літоўскіх калег...

— Што на Беларусі п'юць? — на правах гаспадыні пытаецца маркіза Гаўроньска.— Бянко віно? Росо віно?

— Росо, чырвонае,— адказваю.—



Медыкі раяць яго нам усім для вывядзення радыенуклідаў — пасля Чарнобыля.

— А гэта ў вас — сапраўды сур'ёзна? Тое, што часам пішуць...

— Сапраўды. І вельмі сур'ёзна. Перад нацыяй, наступнымі пакаленнямі паўстала гамлетаўскае пытанне: быць або не быць.

— Так чаму ж вы столькі часу маўчалі?

— Інтэлігенцыя, пісьменнікі не маўчалі. Маўчала начальства...

Роспыты, спачуванні... Прыходзім да вываду, што заўтра пра ўсю нашу трагедыю я павінен расказаць на першым жа пасяджэнні.

Пасля абеду вітаюся з варшаўскімі навукоўцамі — мовазнаўцам Эльжбетай Смулковай і гісторыкам Юрыем Туронкам, літоўскімі даследчыкамі Чэславам Кудабай і Юозасам Тумялісам. Знаёмяць нас з беларусамі з-за акіяна — дырэктарам Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўтам Кіпелем, яго жонкай, супрацоўніцай Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі Зорай Кіпель, рэдактарам газеты «Беларус» Янам Запруднікам. Гаворым пра тое, што вось такая, «раскаваная» сустрэча была б проста немажлівай гадоў яшчэ пяць назад.

А пад вечар збылося маё даўняе, дзіцячае яшчэ, жаданне — пабываць у рымскіх катакомбах, дзе патаемна збіраліся першыя хрысціяне, дзе хавалі вернікаў, замучаных на арэне Калізея і ў рымскіх вязніцах. Аднак жорсткія акцыі улад нязменна павялічвалі колькасць аднадумцаў... Толькі ў катакомбах святога Калікста, куды мы спусціліся ўслед за гідам, знайшло вечны супачынак каля трохсот тысяч хрысціян. Іх целы, загорнутыя ў прасціну, замуроўвалі ў нішах, высечаных у мяккім туфе. Гэтыя нішы, размешчаныя ў некалькі паверхаў, цягнуцца тут калідорамі-лабірынтамі агульнай даўжынёй васемнаццаць кіламетраў. Калідоры часта сыходзяцца разам, утвараючы невялікія капліцы, упрыгожаныя старажытнымі фрэскамі — ці не першымі ў хрысціянскім свеце. На сценах — напаўсцёртыя імёны тых, хто жыў у другім і трэцім стагоддзях, цэлую вечнасць назад. Прыціхлыя ад судакранання з гэтай вечнасцю, узнімаемся наверх — туды, дзе пасля катакомбнага змроку незвычайна ярка ззяе сонца і чырванее маладое лісце на густым кустоўі, невядомым па назве,— нібы кроў тых мучанікаў, што выйшла скрозь зямлю наверх.

## 30 красавіка

На першае пасяджэнне канферэнцыі мы, беларусы, ішлі са зразумелай насцярожанасцю, выкліканай ужо самой яе назвай: «Фарміраванне сацыяльна-культурных традыцый ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе: Беларусь, Літва, Польшча, Украіна». Бо ўжо ў самім пераліку, няхай і алфавітна закамуфліраваным, таілася тэндэнцыя да ажыўлення ідэі колішняй Рэчы Паспалітай, куды ўваходзілі пералічаныя чатыры народы. Пагаджацца з новай інтэграцыяй, калі яна будзе навязвацца? Але ж мы памятаем, што ў Рэчы Паспалітай — і той першай, што была падзелена ў канцы XVIII стагоддзя, і ў той другой, што існавала паміж сусветнымі войнамі, беларусам (як бы тут далікатней мовіць?) не дужа салодка жылося. Ды і украінцам, і літоўцам таксама... Значыць — новая канфрантацыя? Але ці не замнога гэтых міжнацыянальных канфрантацый у сучасным свеце?!

Канферэнцыю адкрывае прафесар Ежы Клачоўскі з Любліна, вядомы гісторык каталіцкага веравызнання. Ён падкрэслівае, што наша сустрэча адбываецца ў незвычайны час, калі можна ўлічыць вопыт, вынесены з супрацьстаяння і фашызму, і таталітарызму. У гэтым супрацьстаянні выявілася велізарная, дзівосная сіла культуры, якая вытрывала — нягледзячы на ўсе выпрабаванні — і сёння павінна яднаць суседнія народы, звязаныя агульным гістарычным лёсам. Праўда, у гэтых народаў, працягваў прамоўца, у 19 і 20 стагоддзях выпрацаваліся розныя, часам супрацьлеглыя погляды на сваё мінулае, розныя «візіі» будучыні. А палякі часам нібы не бачылі астатніх народаў, рабілі выгляд, нібы яны не існавалі і не існуюць. Таму прафесар Клачоўскі, а за ім і іншыя прамоўцы заклікалі не ўтойваць тыя гістарычныя крыўды, якія былі нанесены палякамі іх усходнім і паўночным суседзям... Што ж, «запеў» канферэнцыі здаўся нам канструктыўным, і мы, беларусы з Мінска і Нью-Йорка, што ці не ўпершыню на такім форуме ўселіся разам, на самым «левым» крыле канферэнцзальнага паўкруга, ужо заспакоіліся і расслабіліся, спадзеючыся на ціхамірны ход навуковых дэбатаў.

Аднак неўзабаве прыйшло разуменне, што ціхамірнасці не будзе, што беларусам давядзецца адбівацца (прытым дружна, ў адзіным шэрагу) ад нападкаў, якія прыйшлі з нечаканага боку — ад літоўскіх калег. Яна пачалі задаваць пытанні накшталт: «Ці ўзнікненне украінскай і беларускай нацый было б магчымым, калі б іх землі ў свой час не ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага?» Або: «Ці можна лічыць беларусаў народам дзяржаватворчым, а старабеларускую мову — дзяржаўнай мовай у Вялікім княстве Літоўскім?» І яшчэ, больш прама: «Ці ў стане беларусы выжыць як нацыя і на што яны ўскладаюць надзеі ў сваім аптымізме?» А паколькі ў падтэксце кожнага пытання адчуваўся негатыўны, непрымальны для нас адказ, мы дружна пачалі абараняцца і нават ісці ў наступ. Папрасіўшы слова ў дыскусіі (а на яе тут адводзіцца ледзь не палова рабочага часу), я прыгадаў, што пачыналася ў нас усё нармальна, сведчаннем чаму — і першадрукі Скарыны, і летапісы, і Літоўскі статут. Усе яны, а таксама тагачасныя дзяржаўныя і судовыя акты ў Вялікім княстве Літоўскім напісаны на старабеларускай мове, што прызнаецца таксама літоўскімі лінгвістамі (тут ішоў пералік прозвішчаў). Аднак з другой паловы XVI стагоддзя сітуацыя для нас — не толькі беларусаў, але і літоўцаў — стала мяняцца ў горшы бок. І тлумачыцца яно тым, што значная частка магнатаў і шляхты (найперш Радзівілы) у пагоні за прывілеямі здрадзілі сваім народам, прынялі больш прэстыжную для іх польскую мову і польскую культуру. А потым паланізацыйныя працэсы змяніліся русіфікацыйнымі, што рэзка запаволіла беларускае нацыянальнае развіццё. Улічваючы ўсё гэта, нашы суседзі павінны — гэта іх святы абавязак — садзейнічаць сённяшняму адраджэнню беларусаў. Якім чынам? Ну хаця б аб'ектыўна паказваючы супольныя старонкі гісторыі, не крыўдзячы слабейшых. А яшчэ — аказваючы дапамогу ахвярам Чарнобыля. Ці, да прыкладу, узнімаючы пытанне пра тое, каб вылучыць на Нобелеўскую прэмію Васіля Быкава, найпершага нашага будзіцеля, які быў запрошаны на сённяшнюю канферэнцыю, але не змог прыехаць.

Пасля майго выступлення дыскусія разгарэлася з новай сілай. Літоўцы запярэчылі, што якая ж гэта старабеларуская мова ў Статуце і актах, калі ёю карысталіся і на Украіне. Хутчэй, гэта — агульная, безаблічная мова канцылярый усяго княства... На гэта прафесар Яраслаў Ісаевіч са Львова запярэчыў, што мова ўсё ж, хутчэй, беларуская — украінцы на яе не прэтэндуюць. У сваю чаргу сёй-той з палякаў пакрыўдзіўся за «здраднікаў-магнатаў»: маўляў, гэта быў іх свабодны выбар. А прафесар Валерыюс Чэкмонас, раней супрацоўнік АН БССР, падбегшы да Анатоля Грыцкевіча і мяне, зноў запэўніў нас, што рэальных шанцаў у беларусаў няма.

І тут слова папрасіў Ян Запруднік. Палемізуючы з апанентамі, ён даказваў: беларусы павінны выжыць. Чаму? Па-першае, ніхто не стане адмаўляць сам факт існавання беларускай дзяржаўнасці. Праўда, цяжка з мовай. Але нельга ўсё зводзіць толькі да яе. Сёння існуе таксама такая палітычная катэгорыя, як «расейскамоўны беларус». Па-другое, ёсць літаратура, ёсць «акадэмічная сведамасць». Па-трэцяе, выразна відаць дэмаграфічны рост. Усё гэта напаўняе беларусаў аптымізмам.

Спрэчкі працягваліся — хаця ў больш спакойнай форме — і за абедзеннымі сталамі, дзе ролю супу выконвала сухое віно (сёння амаль усе пачалі аддаваць перавагу чырвонаму), і на паслябедзенным пасяджэнні, калі прагучала шкадаванне, што беларусы сваімі пасяленнямі «псуюць» традыцыйны літоўскі ландшафт, і вечарам, калі на сустрэчу з удзельнікамі канферэнцыі прыйшоў «даваенны» пасол Літвы пры Ватыкане Стасіс Лазарайціс. Сваё выступленне пасол пачаў з нападак на Злучаныя Штаты за тое, што больш падтрымліваюць лінію Гарбачова, а не Ландсбергіса. На гэта наш Вячаслаў Вярэніч вельмі аргументавана запярэчыў: трэба глядзець на сітуацыю больш шырока і ўзважана, бо паслабленне пазіцый Гарбачова абазначала б паслабленне ўсёй перабудовы, што магло б прывесці да непрадбачаных вынікаў.

## 1 мая

За сняданнем (кава і бутэрброды) гаворым з Кіпелямі пра беларускія скарбы, якія могуць знаходзіцца ў Злучаных Штатах. Найперш — крыж Ефрасінні Полацкай, бясцэнная нацыянальная рэліквія, што, па розных звестках, асела ў калекцыях Морганаў. Потым — архівы, вывезеныя ў вайну ў Германію, а адтуль — у ЗША. Вітаўт Кіпель дадае, што ва універсітэце штата Масачусетс захоўваецца так званы «палескі архіў» польскага этнографа Атрэмбскага, які ў 20—30-я гады ўзначальваў навуковыя экспедыцыі на Палессе. Там захоўваюцца і беларускія вершаваныя творы, напісаныя ў турмах палітычнымі вязнямі або запісаныя ад іх. Тут жа высвятляю, якім чынам можна было б атрымаць хаця ксеракопіі ці мікрафільмы гэтых матэрыялаў.

Сёння беларусаў «прыбыло»: з Лондана прыехаў айцец Аляксандр Надсон. Свой даклад пра рэлігійнае жыццё на Беларусі ён пачаў з эмацыянальнага расказу пра чарнобыльскую трагедыю, заклікаў прысутных аказваць дапамогу яе ахвярам. Потым гаварыў пра тое, што і праваслаўная царква і, асабліва, каталіцкі касцёл не дужа павалочваюцца да беларускага нацыянальнага адраджэння, прывёў таму прыклады. Бог добры, закончыў ён сваё выступленне, у яго ёсць месца для ўсіх. То чаму ж тады не знаходзіцца месца для беларусаў?!

Крыху нечакана для нас Аляксандра Надсона падтрымалі варшаўскія вучоныя. Прафесар Смулкова сцвердзіла, што касцёл каталіцкі на Беларусі безумоўна павінен паслугоўвацца не толькі польскай, але і беларускай мовай, бо інакш людзі проста адыдуць ад яго. Калі місіянеры едуць, скажам, да папуасаў, то найперш вучацца гаварыць па-папуаску. Дык чаму ж тады гэтае правіла ігнаруюць ксяндзы, якія з Польшчы скіроўваюцца цяпер у Беларусь?! Доктар Юры Туронак заклікаў не перабольшваць колькасці католікаў на Беларусі. У некаторых заходніх крыніцах лік іх даводзіцца да 2,2 і нават 2,5 мільёна чалавек. Па падліках Ю. Туронка, найбольш рэальная лічба — 600—700 тысяч чалавек (г. зн. 6—7 працэнтаў насельніцтва).

Перад абедам прафесар Радван абвясціў, што ў шэсць гадзін вечара ўсе ўдзельнікі канферэнцыі паедуць у Ватыкан, дзе нас прыме папа Ян Павел II (інстытут, што арганізаваў канферэнцыю, з'яўляецца яго фундацыяй). Вестка гэтая ўзняла настрой прысутных. Бо нават прыказка кажа: нельга пабыць у Рыме ды не пабачыць папу...

**(Працяг у наступным нумары.)**



# Гальшанскі замак

«...Вачам адкрылася нешта такое, што не да веры, чаго не бывае, не павінна быць сярод гэтай разнежанай весняй прыроды, сярод гэтых ласкавых дрэў і зялёнай травы.

На тым баку ўзвышаўся мур і вежа (астатняе хавалі дрэвы), крыху-крыху толькі ў пражоўць, цёмна-свінцовага, амаль чорнага колеру.

Замак. І які пагрозны, пачварны замак!

І не на ўзгорку, не наводдаль, каб чалавек паспеў неяк падрыхтавацца, а твар у твар, як нечаканы цёс мяча.

...Я ўбачыў проста перад сабой цёмную і дужа нізкую арку брамы.

І гэта была брама-праём, брама-тунель, брама-ўваход у пячору страшнага гіганта-волата са злоснай казкі.

Нават з нейкім трымценнем набліжаўся я да гэтай пашчы. І тут убачыў, што мур з абодвух канцоў замыкаюць дзве кутнія вежы. Пяць граняў знадворку. Шостая, відаць, выходзіла ва ўнутраны двор. Мур вышынёй метраў дзесяць — дванаццаць даходзіў вежам да пояса, да байніц сярэдняга бою. Вежы былі пустыя і часам свяціліся гэтымі байніцамі. Дахі на вежах спічастыя, і засталіся ад іх амаль толькі кроквы ды латы і толькі сям-там чарапіца...»

Гэта апісанне з рамана Уладзіміра Караткевіча ўсплыло ў маёй памяці, калі я набліжаўся да старажытнага замка ў Гальшанах. І сапраўды, з дарогі бачны дзве напаўразбураныя вежы і такія ж муры паміж імі. Але калі прыходзіш да замка, узнікае зусім іншае ўражанне, чым у Антона Косміча,— гэта жах і сорам. Жах ад страшнага відовішча, а сорам — за тых, хто давёў да такога стану замак, які лічыўся самым выдатным і прыгожым у Беларусі.

Сярод руін у цэнтры замкавага двара размешчана некалькі пабудоў. Але адразу бачна, што (нягледзячы на тое, што складзены са старажытнай цэглы-пальчаткі) да сярэднявечча яны ніякіх адносін не маюць. Сведчыць пра гэта іх архітэктура і чорная смярдзючая лужына, якая ў хуткім часе абяцае разрасціся да памераў вялікай сажалкі.

Пры архітэктурных даследаваннях, якія праводзіліся ў 50-х гадах нашага стагоддзя, унутраны выгляд замка вельмі нагадваў той, што дадзены ў рамане У. Караткевіча. Так у кнізе В. А. Чантурыі «Памятники архитектуры и строительства Белоруссии» даецца такое апісанне: «Замак моцна пашкоджаны ў час дзвюх апошніх войнаў і патрабуе сур'ёзнай рэстаўрацыі. Але нават у цяперашнім стане ён уражвае сваімі памерамі, вежавымі ўмацаваннямі, працяглымі сценамі... Пад жылымі збудаваннямі размешчаны аб'ёмістыя скляпенні. Сцены з вялікімі вокнамі, звычайнымі для палацавых рэзідэнцый. Веж — шэсць, чатыры з іх размешчаны па вуглах, дзве — пасярэдзіне муроў».

Можна сказаць, што У. Караткевіч у сваім рамане даў апісанне свайго, прыдуманага ім замка. Але ж нейкі правобраз быў у яго перад вачамі. Магчыма, ён бачыў гальшанскі цуд у тыя ж часы, што і Чантурыя? Як бы там ні было, а кніга архітэктара — не літаратурны твор — дакументальна сведчыць пра тое, што большасць замка знішчана менавіта ў апошнія дзесяцігоддзі.

Мясцовыя жыхары расказваюць, што ў 50-я гады ў замку размяшчаўся тэхнікум пчаляроў. Тут жа былі вучэбныя і жылыя памяшканні. Навучэнцы гэтай установы з лёгкай рукі свайго кіраўніцтва і па яго непасрэдным загаду распачалі разбурэнне замка. Даходзіла да таго, што іх не адпускалі на канікулы, пакуль кожны не выламіць 80 цаглін і не перанясе на будаўніцтва мясцовага Дома культуры.

Пасля таго, як тэхнікум перавялі з Гальшан у іншае месца, замкам зацікавіўся дырэктар мясцовага саўгаса. Па яго «мудраму» загаду разбурэнне было амаль завершана. Тады і з'явіліся на двары гэтыя «экзатычныя» пабудовы. Пасялілі ў іх... саўгасных кароў. Так-так, у замку былі пабудаваны кароўнікі.

Цяпер гэты вандалізм можна зваліць на часы застою, на нізкі ўзровень гісторыка-краязнаўчых ведаў тагачасных кіраўнікоў, але ж ужо ў наш час, у 1987 годзе, да трох старых кароўнікаў пачалі дабудоўваць чацвёрты. І ніхто — ні мясцовыя, ні раённыя органы дзяржаўнай і партыйнай улады нават і не падумалі, што гэтым знішчаюцца і рэшткі старажытных збудаванняў, і культурны слой, які і сам па сабе з'яўляецца гістарычным помнікам.

Наколькі мне вядома, ніхто ні за старыя, ні за апошнія злачынствы (не баюся сказаць гэтага слова, бо быў парушаны Закон СССР аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры) не панёс ніякага пакарання. І пакуль гэты Закон не будзе дзейнічаць, падобныя з'явы могуць паўтарацца, а Міністэрства культуры, як і раней, будзе толькі «канстатаваць факты варварскіх адносін да гістарычных помнікаў».

**Мікола БАГАДЗЯЖ,**
**гісторык.**
**Фота Сяргея БРУШКО.**




Reichsnährstand
Landesbauernschaft Hessen-Nassau
Groß-Umstadt,
den 21. März 1941
An den
Herrn Bürgermeister der Stadt
Groß-Umstadt
Sehr geehrter Herr Bürgermeister !

# ВЯРТАННЕ З НЕВЯДОМАСЦІ

Мільёны савецкіх сямей да гэтага часу не ведаюць пра лёс родных і блізкіх, якія прапалі ў гады вайны. У Карэліі, на Пскоўшчыне ды і ў лясах Беларусі сустракаюцца непахаваныя астанкі салдат. Ёсць і яшчэ не менш горкі факт: гэта ганьбаванне магіл воінаў, якія вызвалялі ад фашызму суседнія з намі народы Еўропы.

У канцы мінулага года быў падпісаны дагавор аб добрасуседстве, партнёрстве і супрацоўніцтве паміж СССР і ФРГ. Васемнаццаты артыкул яго абвяшчае: урад Федэратыўнай Рэспублікі Германіі заяўляе, што ўзведзеныя на нямецкай зямлі помнікі савецкім ахвярам вайны і тыраніі будуць паважацца і знаходзіцца пад аховай нямецкіх законаў. Гэта датычыцца і савецкіх ваенных могілак. Яны будуць захоўвацца, і іх будуць даглядаць.

Урад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік забяспечвае доступ да магіл немцаў на савецкай тэрыторыі, іх захаванне і догляд.

Адпаведныя арганізацыі абодвух бакоў пашыраць сваё супрацоўніцтва ў гэтых галінах.

Такім чынам, дагавор падпісаны зусім нядаўна, але народная дыпламатыя даўно і энергічна «пашырае супрацоўніцтва ў гэтых галінах». Многія нямецкія грамадзяне, цэлыя сем'і лічаць сваім абавязкам даглядаць магілы ахвяр нацызму, высвятляць імёны загінуўшых, знаходзіць іх сваякоў, прапаноўваць сваю дапамогу ў пошукавай рабоце савецкім грамадскім арганізацыям.

— Адносіны, якія склаліся ў нас з такімі людзьмі (напрыклад, з Офенбаха-на-Майне) нельга назваць проста добрымі, сяброўскімі ці ўзаемакарыснымі,— гаворыць намеснік старшыні Мінскага гарадскога камітэта абароны міру Людміла Дзмітрыеўна Паленава.— Мы аднадумцы, у нас агульныя мэты і ідэалы.

Сумесныя намаганні дзеячаў Камітэта абароны міру і нямецкіх актывістаў антываеннага руху даюць гуманныя, бясцэнныя вынікі. Нядаўна з магістрата Офенбаха ў Мінск прыйшло такое пісьмо:

«Шаноўная пані Паленава.

Мы дзякуем Вам за Вашы прывітанні... Яны нагадалі нам сустрэчы з Вамі 19 красавіка 1989 года.

Мы падрыхтавалі спісак пахаваных на могілках былых рабочых, якія ў перыяд 1943—1947 гг. памерлі альбо трапілі пад бамбёжку ў Офенбаху. Мы ўстанавілі яшчэ некаторыя адсутныя даныя адносна дзён нараджэння памёршых.

Зыходзячы з прапанаванага спіска можна ўстанавіць месцы нараджэння ў СССР гэтых рабочых.

Мы спадзяёмся і жадаем, каб Вы на падставе гэтых даных змаглі адшукаць блізкіх (ці родных) памёршых рабочых.

Прабачце, што ўстанаўленне дат запатрабавала шмат часу, але мы, усё ж, спадзяёмся, што Вы зможаце здзейсніць Вашы пошукі.

Вам і Вашым калегам мы жадаем натхнення і ўдачы ў Вашай рабоце ў справе ўмацавання міру для нашых народаў».

Спіскі ахвяр нацызму з Офенбаха Л. Д. Паленава перадала ў «Беларусь». З гэтага нумара часопіса мы пачынаем іх публікаваць. Канечне, верагоднасць таго, што хтосьці з нашых чытачоў знойдзе тут сярод іншых імён вельмі дарагое яму імя, малая. Але яна — ёсць.

Тэлефон для даведак у рэдакцыі: 33-20-53.

Тэлефон у Мінскім гарадскім камітэце абароны міру: 34-30-38.

**Спісак асоб, вывезеных з Савецкага Саюза на прымусовыя работы, якія пахаваны на Новых могілках г. Офенбаха.**

| №№ пп | Прозвішча | Імя | Дата нараджэння і смерці | Пол Дзіця (Дз) Жанчына (Ж) Мужчына (М) | Прычына смерці |
|---|---|---|---|---|---|
| 01 | Адаменя | ? | ? | Дз | Мёртванароджаная дзяўчынка |
| 02 | Афанасьева | Ліда | ?—12.05.45 | Ж | ? |
| 03 | Агаф'я | Ілісія | 20.12.97—27.04.45 | Ж | ? |
| 04 | Анацкая | Аксана | 28.01.22—05.11.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 05 | Андрон | Ядвіга | 27.02.44—02.02.45 | Дз | ? |
| 06 | Бабке | Карнэлія | 17.11.44—24.12.44 | Дз | ? |
| 07 | Балкіна | Вера | 25.11.11—26.10.43 | Ж | ? |
| 08 | Бедзіна | Ганна | 22.06.31—11.12.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 09 | Брыжская | Галіна | 16.07.21—12.08.43 | Ж | ? |
| 10 | Дацэнка | Кацярына | ?—24.05.45 | Ж | ? |
| 11 | Фясенка | Уладзімір | 10.12.24—05.11.44 | М | Паветраны налёт |
| 12 | Халагня | ? | 23.11.44 | Дз | Мёртванароджанае |
| 13 | Івашніцкі | Павел | 15.01.09—12.10.43 | М | Паветраны налёт |
| 14 | Ярына | Фрасіна | 25.06.24—05.11.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 15 | Ясінавы | Іван | 20.10.06—27.04.45 | М | ? |
| 16 | Ідусаў | Масгар | 20.06.10—18.03.44 (Ваенны) | М | ? |
| 17 | Еленка | Нотрыя | 22.11.23—17.12.44 | Ж | ? |
| 18 | Есвік | Сцяпан | 05.08.10—22.10.44 | М | ? |
| 19 | Ішэнка | Аляксандра | 14.02.23—08.06.43 | Ж | ? |
| 20 | Юшко | Таццяна | 22.01.17—05.11.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 21 | Іваноў | ? | ?—20.03.44 | М | ? |
| 22 | Калугіна | Ніна | 07.11.27—05.11.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 23 | Караенка | Казімір | 03.01.44—08.11.44 | Дз | ? |
| 24 | Кохелеў | Ілья | 06.11.24—03.04.45 | М | ? |
| 25 | Камачэнка | Андрэй | 19.12.90—16.11.43 | М | ? |
| 26 | Казлова | Андрэя | 25.10.14—09.11.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 27 | Краснак | Іван | ?—20.03.44 | М | ? |
| 28 | Кутавы | Акін | 09.09.10—18.03.44 (Ваенны) | М | ? |
| 29 | Леўчанка | Паула | 14.09.44—27.01.45 | Дз | ? |
| 30 | Літвінка | Вольга | 04.07.20—03.04.45 | Ж | ? |
| 31 | Маклакава | Ніна | 23.12.24—05.11.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 32 | Марчык | Ганна | 28.10.24—25.01.45 | Ж | ? |
| 33 | Мазур | Янко | 18.09.99—26.02.44 | М | ? |
| 34 | Мельнік | Мікіта | 03.10.90—17.02.42 | М | ? |
| 35 | Нікалаенка | Мікалай | 10.06.26—22.10.43 | М | Паветраны налёт |
| 36 | Міхайлава | Аляксандра | 10.06.21—05.09.45 | Ж | ? |
| 37 | Мухін | Яўгеній | 31.12.19—05.11.44 | М | Паветраны налёт |
| 38 | Нерацін | Дзмітрый | 03.11.26—05.11.44 | М | Паветраны налёт |
| 39 | Арлова | Ніна | 10.09.26—28.02.45 | Ж | ? |
| 40 | Асязінскі | Валянцін | 23.10.26—05.11.44 | М | Паветраны налёт |
| 41 | Пахута | Яўгенія | 16.04.24—05.11.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 42 | Паляшчук | Іван | 23.03.08—05.11.44 | М | Паветраны налёт |
| 43 | Патапенка | Параска | 20.05.24—05.11.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 44 | Патупалаў | Іван | 23.07.03—12.04.45 | М | ? |
| 45 | Разно | Веавіла | 20.05.22—12.01.43 | Ж | ? |
| 46 | Забродзіна | Ганна | 24.10.24—05.11.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 47 | Захарэнка | Васіль | 28.04.05—05.11.44 | М | Паветраны налёт |
| 48 | Захарчанка | Уладзімір | 06.11.44—12.03.45 | ДЗ | ? |
| 49 | Шапавал | Марта | 20.04.20—05.11.44 | Ж | Паветраны налёт |
| 50 | Шаўчэнка | Антон | ?—14.06.45 | М | ? |
| 51 | Шымістаў | Мікалай | 18.12.17—24.07.45 | М | ? |
| 52 | Скосецны | ? | ? | Дз | Мёртванароджанае |
| 53 | Сіравонаўка | Пелагея | 27.09.24—16.11.43 | Ж | ? |
| 54 | Стубнецкая | Вера | 03.07.44—13.11.44 | Дз | ? |
| 55 | Сухая | Феня | ?—05.05.45 | Ж | ? |
| 56 | Сухарнічэнка | Васіль | ?—17.05.45 | М | ? |
| 57 | Тадулевіч | Іван | 15.08.02—05.11.44 | М | Паветраны налёт |
| 58 | Тараненка | Рыгор | 21.02.23—26.05.44 | М | ? |
| 59 | Трахіменка | Ганна | 18.09.26—16.11.43 | Ж | ? |
| 60 | Чэндух | Настасся | 09.09.25—20.12.42 | Ж | ? |
| 61 | Невядомы | | ?—25.03.45 | М | ? |
| 62 | Невядомы | | ?—20.03.44 | М | ? |
| 63 | Валько | Слава | 01.11.43—05.07.44 | Дз | ? |
| 64 | Ведэбура | Ілья | 20.07.98—16.11.44 | М | ? |
| 65 | Волкава | Марыя | 22.07.17—11.04 45 | Ж | ? |
| 66 | Змарзлік | Эмілія | 03.11.44—05.02.45 | Дз | ? |

[Працяг будзе.]



**Мар'ян ДУКСА**

✦

І хто ні цёрся ля цябе, народ,
каб выпіць задарма з тваёй
крыніцы.
Хто толькі ў твой ні лазіў агарод,
жадаючы са смакам пажывіцца.

Гудзе, нібыта ў кругляку дубовым,
моц у тваім непаламаным целе.
Авантурысты, гніды,
пустасловы —
ўсе да цябе прымазацца хацелі.

Пры гэтым, чэрці, ад тваёй імя
якіх дарог у рай ні навяшчалі.
Ні тога раю, ні саміх няма —
але з якою гучнасцю вішчалі!

Ад іхніх слоў — аскома на зубах,
і сёння іх ты супыняеш: годзе!
Ды чадам страху і маны прапах
ты нават сам, любімы мой
народзе...

✦

Твае былыя козыры:
вада, свабода, сонца...
Цвіце вада у возеры,
зялёная да донца.
А што ў яе напярэдзе —
ратунак ці хвароба?
Плюскочуцца на беразе
ля самых ног мікробы.
Варушыць плотка ротам —
агонія пад скурай.
Падвёў сюды брыдоту
які тутэйшы дурань?
Вы, шкоднікі-«стаханаўцы»,
штось робіце для галачкі.
Звычайныя архараўцы,
якім усё да лямпачкі.

## Палявы касцёр

Як полымя ляціць увышыню!
Як весела, аднак, гарыць салома!
Здагадкі ёсць, а толкам невядома,
хто небу падарыў букет агню.
Хто пеўня ўскінуў на высокі стог?
Які дзівак тут пахадзіў
з запалкай?
Няўжо нікога не было тут
з палкай?
Хто пакарае — суд, натоўп ці бог?
Вы, дзеці, вінаватыя? А мо
падпальшчыкамі робім вас зачаста,
бо чуткі ёсць: дало загад
начальства,
якому стог няўбраны — як бяльмо!
Няхай гарыць — вясна ўжо на дварэ,
хоць і прыдаўся б не адной
кароўцы...
Гаворыце, раздаць яго вяскоўцам?
Агонь хутчэй салому падбярэ!

Эх, старшыня — дзяржаўны
чалавек...
Ты — галава. Скажы: па-твойму,
хто мы?
Адзінае, што нам шкада саломы.
Ды мо касцёр — святочны
феерверк?
Ён палыхае ў небе, як зара,
раскідваючы іскры ў стратасферы.
У барабаны біце, піянеры —
свой майскі збор адзначым ля
кастра!

## Кінафільм

Над цэлым стэпам звоняць капыты.
Будзёнаўцы. «Тачанка-
растачанка»...
Над грывамі крывавіцца заранка.
Разяўленыя дыхаюць раты.
Па дзікім полі скача маладосць.
І той імпэт — зусім
не прымусовы.
Абнятая палотнішчам пунсовым,
віхурыцца уздыбленая злосць.
Ляцяць галовы на густы палын —
за ўсё, за ўсё і плата
і расплата.
Ідуць сцяной жалезнай брат
на брата,
на сына бацька, як на бацьку
сын.

Вачэй айчынных гасяць сіняву,
забітых коней груда на дарожцы...
Прытомленыя кураць пераможцы
і выціраюць шаблі аб траву.
А мы глядзім. Нікому не баліць.
Ні літасці, ні кропелькі спагады.
Здаецца, ўсе, усе чамусьці рады,
а трэба ў гэтым месцы слёзы ліць.

✦

Дайце даведку,
што нікога я не забіў,
за дротам калючым
ні разу не быў,
дабра не зглуміў пад дажджамі
ні кучкі,
ніводзін калгас
не давёў да ручкі.
Дайце даведку
з круглай пячаткай:
не вінаваты.
Не біў я ў ладкі
слыннай пасрэднасці,
гора-ўладыку...
У доме дурных
не стаю на ўліку.
Колькі разоў
за высокім парогам
я спавядаюся,
як перад Богам.
Марна стараюся —
ёлупень гэткі:
мечаны нуль я
без вашай даведкі.
Ісціна —
дзе папяровая сведка.
Шчырасць пакуль што —
нібы прайдзісветка...

✦

Жаданай травіцы заўжды
адчуваецца брак;
заўжды не хапае, хоць ты,
як Габсек, эканомны.
Калышацца райскаю ніваю
ў стэпе каноплі.
Цвіце, як нябесная зарыва,
радасны мак.
І дымныя позіркі цягнуцца
мройна за плот,
з бутонамі маку настойліва
спеліцца драма.
Які ж ён салодкі, аднак,
забаронены плод —
якія ж вы кволыя ўсё-такі, дзеці
Адама.

Прагневалі Бога і з д'яблам
даўно заадно?
Што — сонца пагасла, о наша
малодшая зелень?
Трымаешся моцна за самае
страшнае зелле,
нібы за саломінку, што пасылае
на дно.

А можа, такі бескантрольны
расхрыстаны час?
А можа, было не да вас нам
у фінскай парыльні?
А можа, сярод неабдымнай пустой
гаварыльні
зусім праваронілі вас?

✦

«Космас радзіруе: Бога няма!» —
з тэмай такой піянерскія зборы
практыкаваліся. Іх было — цьма!
«Бога няма! Толькі жоўтыя зоры!»
Шчасце вялікае ўпала з гары,
у педагогаў свяціліся твары:
«Бога няма, дарагія сябры,
быў бы — вядома б, убачыў
Гагарын!»
Што і казаць, аргумент немалы,
потым жа, гляньце, і кемнасці
многа.
Трохі вышэй, з-пад ракетнай
стралы
як не заўважыць славутага Бога.
Вось і прасілася радасць сама.
Людзі, хутчэй у літаўры трубіце:
ну абсалютна нікога няма,
нават анёлаў няма на арбіце.
Вось, ужо сталы, задумаўся ты:
тым, хто вяшчаў гэту ісціну
важна:
«Глуха над намі, і космас
пусты», —
ну хоць бы трошкі зрабілася
страшна...

## «Абы жыла дзяржава!»

Здаецца, год быў пяцьдзесят
другі —
пярэдадзень цаліннай эпапеі!
Надарыўся такі ўжо ён благі,
успомню — скруха каля сэрца спее.
Штодзённа ў нізкарослыя жыты
мы лазілі — і весела жылося...
Разявіўшы галодныя раты,
мы проста прыпадалі да калосся.
Хай спраўдзіцца нарэшце хлебны
сон.
Заплюшчыш вочы — бачыш сон
той самы...
У маці ажно трыста працадзён —
іх соладка мяняць на кілаграмы.
У свірне зерне хуценька расце.
Аж чмыхае ад спеху малатарня.
Прадбачліва бурчыць у жываце —
ці скора скіба? Не чакалі
ж марна!
Не спраўдзіўся ні мой, ні
матчын сон.
Маю душу запаланілі крыгі.
Насупраць запаветных працадзён
стаялі шчыльна здзеклівыя фігі.
— Усё дзяржаве пойдзе... Да зімы
павінны здаць...—
інструктар маладжавы
тлумачыў хлебаробам.
— Як жа мы?
— Пацерпіце... Абы жыла
дзяржава!

**Іван КАРЭНДА**



## Беларусь

Дзе б ні быў я ў далёкіх краях,—
Ты душу спавіваеш журбою,
Снішся мне, Беларусь дарагая мая,
Сэрца прагне сустрэчы з табою.

Дзе б ні быў я ў далёкіх краях,
Па якіх толькі сцежках
ні крочыў,—
Не знайшоў прыгажэй,
як старонка мая,
Як твае, Беларусь,
васільковыя вочы.

Дзе б ні быў я ў далёкіх краях,
Куды б лёс ні закінуў,— я знаю,
Што заўсёды чакае Радзіма мая...
Ей сыноўскай любоўю навек
прысягаю.

## Інвалідам вайны

Пакалечаныя, знямоглыя,
У шпіталях, далёка ад фронту,
Вы стагналі начамі доўгімі:
«Накіруйце хутчэй у роту...»

І бязрукія, і бязногія,
У шпіталях, далёка ад родных,
Вы прасілі хірургаў строгіх:
«Накіруйце хутчэй у роту...»

Ні адчаю, ні страху не ведалі,
Жартавалі: «Мы — моцнай
пароды...»
Не давалі праходу начмедам вы:
«Накіруйце хутчэй у роту...»

А вайна ўсё касіла, касіла
Без разбору — любога ўзросту.
Хтосьці іншы шаптаў праз сілу:
«Накіруйце хутчэй у роту...»

Не, не трызнілі вы, не плакалі —
Слёзы крыўды выходзілі потам.
Сэрца ўпарта, напружана тахкала:
«Накіруйце... хутчэй... у роту...»

Дзе, скажыце, вы сілы чэрпалі,
Што вяло на фашысцкія дзоты?
Чым тлумачыць жаданне
нясцерпнае:
«Накіруйце хутчэй у роту...»—

Вось пытанні найпершыя
Днём, бяссонніцай шэрай.

...Мне б хоць дольку найменшую
Вашай мужнасці й веры.

## Раманс

Не трэба слоў — яны абудзяць
Усё, што мы даўно перажылі.
Тых светлых дзён ніколі
ўжо не будзе:
Нам стала цесна поруч на зямлі.

Не трэба слоў — дарма прытулак
У іх душа шукае зноў і зноў.
Маўчанне — наш адзіны паратунак.
Не трэба слоў. Не трэба слоў...

# ВУЧАНІЦЫ ТЭРПСІХОРЫ



● Харэаграфічную мініяцюру «Гусары» можна смела назваць візітнай карткай «Чараўніц».



Вам падабаюцца дзяўчаты, што закружыліся ў агністым цыганскім танцы? Упэўнена, не знойдзецца чалавека, каго б пакінула абыякавым гэта высокая хваля з рознакаляровых спадніц, тонкіх і гнуткіх рук, зграбных пастацей, якая ўзлятае, здаецца, у такт музыцы, забіраючы ў палон нашы сэрцы, прымушаючы іх сціскацца ад невыказнага болю або захлынацца ад шчасця. Імклівыя і грацыёзныя дзявочыя фігуркі нібы растварыліся ў дзіўнай, тэмпераментнай музыцы, зачараваныя ёю. Ды не, наадварот, гэта яны ажывілі музыку, увасобілі яе ў фарбы і рухі (нездарма ж іх завуць «Чараўніцамі»!), каб адкрыць нам яе таямнічую і чароўную душу.

Не адно дзявочае сэрца замірае ў гэты момант ад неадольнага жадання хоць раз у жыцці прайсціся вось гэтак у танцы, зліўшыся ў адно цэлае з музыкай. Менавіта гэта натуральнае і спрадвечнае жаданне быць прыгожай і служыць Харасту і прыводзіць маладзенькіх дзяўчат на конкурс, які аб'яўляе штогод эстрадна-харэаграфічны ансамбль «Чараўніцы». З соцень і тысяч дванаццацігадовых дзяўчынак строгая камісія адбірае 30 самых здольных прэтэндэнтак, каб пазней, пасля некалькіх месяцаў рэпетыцый, пакінуць у малодшай групе ансамбля 15 шчаслівых вучаніц Тэрпсіхоры. І толькі самыя таленавітыя з іх, самыя настойлівыя і працавітыя трапляюць праз 5—6 гадоў нястомных заняткаў у асноўны склад.

— Такая патрабавальнасць,— гаворыць балетмайстар ансамбля Раіса Ермалаеўна Красоўская,— неабходная мера, каб захаваць высокі прэстыж калектыву, не апускаць планку сапраўднага майстэрства. Памятаю, у 1976 годзе, калі мы з Мікалаем Філіпавічам Красоўскім, маім мужам, вырашылі стварыць ансамбль, мы прагледзелі больш як шэсць тысяч дзяўчат і адабралі з іх 100, а праз некаторы час іх засталося ўдвая менш. З гэтымі дзяўчатамі мы і пачалі працаваць, каб ажыццявіць сваю задуму — стварыць харэаграфічны ансамбль, які б выносіў на эстраду лепшыя ўзоры класічнага танца.

— Аматары балета ведаюць, што артысты Красоўскія заўсёды выступалі ў розных спектаклях і розных амплуа. Як удалося вам разам кіраваць ансамблем і пры гэтым выпрацаваць адзіны стыль?

— Сапраўды, Мікалай заўсёды выконваў гераічныя партыі, я ж — характарная танцоўшчыца. Але мы былі аднадумцамі, бо прайшлі адну школу, дваццаць гадоў вучыліся і працавалі поплеч. І мы былі апантаны адной ідэяй — стварыць нешта незвычайнае. Асновай харэаграфічнага ансамбля стала класічная музыка, якая нараджала вобраз. Вобраз, у сваю чаргу, патрабаваў вырашэння ў танцы, у касцюме. Усё гэта мы прыдумвалі і распрацоўвалі разам, у нашым рэпертуары з'явіліся харэаграфічныя мініяцюры на музыку Штрауса, Равеля, Чуркіна. Пазней, калі наш ансамбль стаў вядомым і ўжо лічыўся унікальным (сапраўды, другога такога ансамбля няма ў свеце), спецыяльна для нас пачалі пісаць музыку Я. Глебаў, І. Лучанок.

Цяпер, калі Мікалай Філіпавіч заўчасна пакінуў нас, я кірую ансамблем адна. І стараюся прытрымлівацца выпрацаванай лініі, не пакідаць, як кажуць, заваяваных рубяжоў. Для мяне «Чараўніцы» — і неадступны клопат, і радасць, і памяць пра мужа...

— А вас не палохае,— пытаюся я,— пераход да рынку? Многія эстрадныя калектывы перакананы, што не здолеюць існаваць на камерцыйнай аснове...

— Абсалютна не палохае,— адказвае яна, і мяне здзіўляе незвычайная для такой крохкай жанчыны ўпэўненасць у сабе.— Справа ў тым, што з самага пачатку наш ансамбль працаваў ва ўмовах самафінансавання — мы прывыклі на ўсе свае патрэбы зарабляць грошы самі. Да таго ж з усім бы жадала мець такіх спонсараў, як у нас — гэта вытворчае аб'яднанне «Гарызонт» і Мінскі завод шасцерань. За іхні клопат пра нас мы заўсёды імкнёмся аддзякаваць нашым майстэрствам...

Канцэрты, фестывалі, інтэршоу... Венгрыя, Чэхаславакія, Германія, Аўстрыя — усюды выступленні нашых дзяўчат выклікаюць шчырае захапленне.

Людміла ЦІМАФЕЕВА.

● Усіх нас хвалююць музыка і танцы вольналюбівага цыганскага народа. Салістка — Наталля Карчэўская.

● Кволай худзенькай дзяўчынкай прыйшла ў калектыў Інеса Кашынская. Зараз яна салістка ансамбля і нязменны ўдзельнік амаль усіх замежных гастроляў.

● Кожная беларуская дзяўчынка павінна ўмець танцаваць вясёлую «Беларускую польку».



● Тонкай пяшчотнай фарбай аздабляе любое свята, любы фестываль (памятаеце, як гэта было на Першым фестывалі польскай песні ў Віцебску!) танец «Рускія ўзоры».

Фота Генадзя **АНАТОЛЬЕВА.**



# СІВЫ ВОЎК

Комтур абагнаў сваё войска і азірнуўся. Рыцары ехалі моўчкі, толькі звон лат разлятаўся па наваколлі ў марознай цішыні.

— Нічога, што холадна,— падумаў Комтур,— галоўнае — няма такога глыбокага снегу, у якім учора мы правальваліся, прабіраючыся праз лес. А пагрэемся ў крывавай бойцы.

Комтур быў вопытным военачальнікам. Рыцары яму давяралі і таму пайшлі за ім у гэтыя мясціны, каб уступіць у бой з гордым князем-язычнікам, роду якога спрадвеку належала гэта непрыветлівая зямля. Сярод рыцараў на белым, як снег, кані ехаў Біскуп.

Не адзін раз крыжакі былі бітыя сярод гэтых лясоў і балот ратнікамі князя, пра якога даўно ходзяць легенды. Для гэтага паходу Ордэн сабраў самых лепшых вояў, бо бітва чакалася быць рашаючай.

Конь Біскупа параўняўся з канём Комтура, і яны паехалі побач.

— Вы ўпэўнены, што мы рухаемся незаўважанымі? — спытаў Біскуп.

— Я спадзяюся на гэта. Але тут нельга быць упэўненым ні ў чым,— хмура адказаў Комтур. Яму не падабалася, што Біскуп, апрануты значна лягчэй за яго, нічым яшчэ не выдаваў, што яму холадна, тады як сам Комтур ледзь трываў люты мароз. Мабыць, гэтаму фанатыку і сапраўды дапамагае Бог?

Адносіны Комтура з Богам былі складанымі. Ён добра разумеў, што не заўсёды прытрымліваецца дзесяці запаведзяў Усявышняга, але ён быў рыцарам Ордэна і павінен быў падпарадкоўвацца яго законам. Біскупа ён недалюбліваў з-за залішняй яго самаўпэўненасці. Вось і зараз, у паходзе, дзе галоўнае слова павінна быць за ім, Комтурам, святы айцец увесь час выказвае якіясь думкі, парады.

— Я не здзіўлюся, калі зараз з-за гэтага снежнага туману на нас наляціць княжацкая дружына,— працадзіў скрозь зубы Комтур.

— А я не здзіўлюся, калі замест дружыны нам насустрач рушаць страшыдлы, што дыхаюць полымем і серай,— адказаў ледзь чутна Біскуп і запытаў:

— А ці праўда, што князь з дзяцінства сівагаловы?

— Я бачыў яго некалькі разоў,— адказаў Комтур.— Так, ён сівы, хаця на выгляд яму не больш як дваццаць гадоў. Але хіба гэта што азначае?

— Сівізна амаль ад нараджэння — гэта вядзьмарскі знак,— задуменна сказаў Біскуп,— таму так доўга мы не можам перамагчы яго. Таму я зараз з вамі. Святыя малітвы, якія я ўзнясу перад бітвай Богу, адбяруць моц у чараўніка, зробяць яго слабым і безабаронным. Бог натхніць нас, і мы пераможам.

Комтур, сцяўшы зубы, ад'язджае прэч. Ён не можа схаваць злосць, бо разумее: калі ён будзе яшчэ раз разбіты, усе ўсумняцца ў яго воінскім майстэрстве, а калі пераможа — слава дастанецца не яму, а святому айцу. Але думкі гэтыя не перашкаджаюць яму чуць ціхі голас Біскупа, які быццам размаўляе сам з сабою, але так, каб чулі іншыя:

— У кнігах рымскіх ды грэчаскіх я часта знаходзіў упамінанні пра племя неўраў, што жылі калісьці ў гэтых мясцінах. Былі яны ведзьмакамі і маглі раз у год ператварацца ў ваўкоў, каб перагрызці горла свайму ворагу. Перамяшаліся неўры з мясцовымі плямёнамі. І зараз мы ідзём біцца з іхнімі нашчадкамі. Хай жа абароніць нас Бог ад іх д'ябальскіх чараў...

Комтура ўражвае такая прамова. А воі наогул пачалі маліцца, таямніча перашэптвацца, на іх тварах адбіўся страх.

— Божа, што ён натварыў,— шэпча Комтур,— як цяпер ваяваць?

Напружаную цішыню прарэзаў далёкі гук рога. Воі ўстрапянуліся — яны пазналі яго.

— Я так і думаў, што князя паспелі папярэдзіць,— прагаварыў Комтур.

Па камандзе свайго правадыра рыцары пачалі хутка перабудоўваць строй з паходнага ў баявы.

Ужо чутны быў далёкі пошчак соцень капытоў. Але раптам са снегавога туману насустрач крыжакам пачалі выбягаць ваўкі. Крык жаху вырваўся з грудзей мужных рыцараў.

— Вось! Вось яны, параджэнні д'ябла! — узвысіўшы голас, паказаў рукою Біскуп туды, дзе па ўсім полі замерлі ў прадчуванні сутычкі моцныя звяры.

— А вось і князь іхні! — заенчыў нехта, паказваючы пальцам удалечыню.

На ўзвышшы сядзеў велізарны сівы воўк, які неўзабаве задзёр галаву і завыў. Яго страшэннае выццё падхапіла ўся гайня.

З ляскаканнем, крыкамі, з адчайнымі маленнямі кінуліся крыжакі, не разбіраючы шляху, прэч. Іржалі спалоханыя коні, і рыцарам здавалася, што зараз іх дагоняць, каб перагрызці горла, воі-пярэваратні сівога князя. Ніхто не азірнуўся назад, і таму ніхто не ведаў, што ў гэты ж час, спалоханыя незвычайнай сустрэчай з людзьмі, ваўкі ашалела несліся ў супрацьлеглы бок.

Лёс пасмяяўся над шэрымі — насустрач ім вылецела княжацкая дружына.

У першае імгненне князь разгубіўся. Ён убачыў прама перад сабою галодных звяроў, а ўдалечыні — спіны ворагаў з крыжамі на белых плашчах.

— Што гэта з імі? — здзіўлена спытаўся ён.— Комтур ніколі не бегаў з поля бою.

Але праз хвіліну князь ужо ведаў, як яму дзейнічаць. Войска кінулася наўздагон крыжакам, а некалькі дружыннікаў пачалі распраўляцца з ваўкамі. І хаця большая частка гайні паспела разбегчыся, сівы важак быў злоўлены сеткай.

Яшчэ праз паўгадзіны ўсё было скончана і для крыжакоў. Каго пасеклі ратнікі, хто трапіў у балота і там загінуў. Загінуў і Комтур. Яго славуты меч воі кінулі да ног свайго князя. А Біскуп трапіў у палон. Ад яго і даведаўся князь, чаму пабеглі рыцары. Біскуп быў адзіным палонным, калі не лічыць сівога ваўка, лёс якога таксама павінен быў вырашыць князь.

— Ды што тут думаць! Забіць яго, ваўчыну, дый годзе! — даў нехта параду.— Гэта ж, мабыць, на яго, ненажэрнага, усе скаргі нашых сялян!

Але малады князь моўчкі злез з каня і наблізіўся да звязанага звера. Сумныя вочы сівога ваўка сустрэліся з вачыма сівога чалавека.

— Дык вось які ты,— вымавіў князь,— горды, смелы, сівы мой брат. Чуў пра цябе і тваю гайню неаднойчы, а вось бачу ўпершыню. І дзе? На ратным полі, дзе я быў гатовы крывёю заплаціць за волю свайго народа. Ты з'явіўся са сваім воінствам своечасова. Хацеў ты гэтага, ці не, але ты мне дапамог, і таму зараз мы з табою кроўныя браты. Дык ці маю я права зрабіць замах на тваё жыццё? Бяжы да сваіх, вольны звер. Я даю табе слова, што з гэтага часу ніхто і ніколі не ўзніме руку на Сівога ваўка.

Князь перарэзаў путы і, калі важак знік з вачэй, сказаў:

— Я пабудую на гэтым месцы крэпасць, каб стаяла яна на межах майго княства і ахоўвала яго ад няпрошаных гасцей. І дам ёй назву Ваўкавыйск, у гонар майго сівога брата.

І вырасла крэпасць Ваўкавыйск, і ўзяў ад яе пачатак горад Ваўкавыск. А калі прыйшоў час выбіраць для яго герб, на гарадской браме з'явілася выява ваўчынай галавы, узнятай угару.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА.

**А. МАРАЧКІН.**
**Сівы воўк.**



# ЯНКА СІПАКОЎ

ПАЭМА Ў ПРОЗЕ

# ВАРЗОБ

Збіраецца чалавек
у якую-небудзь далёку-далёкую далеч,—
сам радуецца, а душа плача: куды і навошта
ты цягнеш мяне?
Вяртаецца чалавек
з той далечы, цешачыся, што хутка абвяселяць
позірк родныя краявіды, асветленыя самымі
прыгожымі ў свеце вачыма,— сам зноў жа
радуецца, а душа, як і раней, плача: а ці
ўбачу я ўсё вось гэтае хараство, гэтае дзі-
ва, што пакідаю, калі-небудзь зноў?
Стаю
пасярод вясенняга Душанбе, які зялёнымі га-
лінкамі адмахваецца ад нечаканага снегу, што
спрабуе ўбяліць яго, і ўсур'ёз пытаюся ў сваіх
новых сяброў — таджыкаў:
— А ці далёка
да Гісарскай упадзіны? Я хачу палюбавацца ёю.
— Дык любуйся,—
таксама ўсур'ёз адказваюць, Зіё і Камол, Сайф
І Абдулхамід, адказваюць.— Яна ў цябе пад на-
гамі, гэтая ўпадзіна. На ёй стаіш ты, стаім мы
і нават стаіць наш цяжкалёгкі Душанбе.
Дзіва!
Можна стаяць на крыле птушкі, і калі яна
вялікая, не здагадвацца пра гэта, пакуль
птушка не ўзляціць.
Можна бачыць
заснежаныя горы на небасхіле і думаць,
што гэта ўсяго толькі белыя воблакі.
І можна вось так упэўнена
стаяць на самым дне Гісарскай упадзіны і, ці
чуеце, марыць пра тое, як бы яе пабачыць,—
хоць краем вока.
Мы ж дамовіліся:
мае вочы — твае вочы. Глядзі імі, колькі хо-
чаш, глядзі як хочаш і куды хочаш,— яны не
стомяцца паказваць табе ўсё, што парадуе цябе,
што здзівіць цябе, што напоўніць цябе,— гэ-
так жа, як парадавала, здзівіла, напоўніла
і мяне.
Мужчына без жанчыны — ніхто.
Так сабе, нешта сярэдняе — яно. І толькі
жанчына робіць мужчыну мужчынам. І толькі пры
жанчыне вырастае і атрасаецца ад бруду Ён.
Жанчына з загатоўкі, з аморфнай і невыразнай
масы выточвае Мужчыну.
Даруй мне, алах, такое блюзнерства —
для Азіі гэткія думкі ўжо самі па сабе — крамола.
Хаця чаму ж крамола?
А гэта тады што, калі не крамола?
«Так балюча мне, сяброўка,
толькі ты адна прыгожая, так балюча мне, па-
кутніку, толькі я так закаханы»,— прамаўляе
Рудакі.
«Адкрый свой твар:
садоў, поўных руж, я прагну; адкрый свае вусны:
мёду салодка-прыемных рос прагну»,— плача
Румі.
«Мілай спаць,
табе ж да рання думаць пра яе з журбой»,— журыцца
Саадзі і дадае: «Не магу з маёй любімай кветкі
аніякай параўнаць».

«Я вусны цалаваў твае,
а ты кусаеш іх»,— здзіўляецца Хафіз.
«Рай для мяне там,
дзе я магу цябе ўбачыць»,— прызнаецца Джамі.
«Малю,
каб ты прыснілася ў сне хоць, ды ад кахання
не магу заснуць»,— скардзіцца Мушфікі.
І праўда,
жанчына — пакоўня спакусы, пажадлівасці і
распусты для ханжы. Але ж якая чыстая яна
для закаханага чалавека! Але ж паспрабуй без
яе здзейсніць самае святое таінства —
нарадзіць чалавека!
Сядай жа, мая радасць, мая жанчына,
хутчэй у машыну ды паедзем: ты ўсё роўна са мною,
хоць я і адзін тут, у гасцях.
Паедзем шукаць Варзобскую цясніну.
Спытаўся:
— Як сказаць па-таджыкску «я кахаю цябе»?
— Шырын,— адказалі мне.
— А «вельмі моцна кахаю»?
— Шырын-шырын.
Што значыць: салодкая-салодкая.
Чуеш, як далікатна,
нібыта ласкава дакранаючыся вуснамі да ча-
госьці пяшчотнага і цнатлівага, спяваюць
хлопцы саадзіўскага «Сарбона»,— верш,
які стаў народнаю песняю.
Абдулхамід і Сайф, Камол і Зіё спяваюць.
Спяваюць, як усё роўна нясуць — усе разам —
нейкае чароўнае крышталёвае дзіва.
І словы ўсе — нібыта крышталь.
Словы Саадзі,
які адмовіўся прыняць з рук могучаў спакуслівы
лёс прыдворнага паэта і стаў сябрам кожнаму
караваншчыку на пыльна-сасмяглых караванных
шляхах.
«Эй, сарбон, пагоншчык вярблюдаў,
не спяшайся так, не паганяй вельмі сваіх ма-
рудаў: ты ж ведаеш, што з табою, з тваім кара-
ванам іду і я. Дык зрабі ж так, каб я паспява-
ла за тваімі вярблюдамі, коньмі і ішакамі».
«Эй, сарбон, паганяй жа ты хутчэй
сваіх марудаў, бо я стамілася чакаць цябе —
мае рукі стаміліся, мае вочы стаміліся, мае
вусны стаміліся чакаць цябе, а ты так няскора
ідзеш са сваім караванам».
«Эй, сарбон!
Падварушвай жа хутчэй вярблюдаў —
не бойся, я, невідомая, што з табою і без цябе,
што дзялю з табою дарогу, хоць і далёка зараз ад яе,
што зажураная без цябе, і шчаслівая поплеч з табою,
не ўпаду з вярблюдзіцы ў падняты тваімі нагамі пыл.
Я чакаю цябе і ніяк не магу дачакацца».
«Калі такое з ёй расстанне, якая ж будзе з ёй
сустрэча!»
Песні цесна ў машыне,
песні цесна ў Варзобскай цясніне, якая робіцца
ўсё вузейшай і вузейшай,— і песня б'ецца крыламі
аб горы, аб каменне, як птушка б'ецца аб час і
прастору, але ўсё ж астаецца жывою, адно вы-
глядае крышачку стомленай.
Эй, мая салодкая-салодкая! Эй, караваншчык!
Каравана няма. І вось ён ужо як перад вачыма.
Ідзе мернаю, спакойнаю хадою. Упэўнена і настойліва
ідзе. А вось і ён, сарбон,— той, па кім так
зажурана сумуе стомлены чаканнем дзявочы голас...
Што ж,
«голас горнасці не чутны ў перазвоне караванным,—
плачу, нібыта званочак на апошнім ішаку».
Што ж,
«пакуты — радасць, калі ў іх сустрэчы мроіцца
чаканне».
Шчаслівай дарогі — да кахання.
Ад кахання і да кахання.
Бо дарога заўсёды, мусіць, пачынаецца ад кахання
і вяртаецца зноў жа да кахання.
Пачакай, чуеш?
Гэта ўжо другі караван і другі караваншчык.
«О мой жорсткі!
Зайздрослівых ворагаў ты ашчаслівіў вось зараз,
уходзячы,— закрычала ўжо другая жанчына, убачыўшы,
што яе каханы падняў вярблюдаў у дарогу.—
Ты са мною пабудзь ці хоць шчыра скажы, з караванам

ты вернешся зноў ці навек застануся адна я?»
І сарбон здаўся:
«Не спяшайся, вярблюд. Памарудзь, дарагі. Недарэмна ж назваўся ты сябрам маім. Хай трава табе будзе, як амбра, салодкай. Заўтра, заўтра мы рушым у пекла пустынь».
І караваншчык
зноў разуючыў вярблюдаў і зноў іх паклаў,
каб яшчэ дзень пабыць з каханай.
«Чужому шчасцю не зайздросці, падумай, а ці не зайздросцяць табе, шчаслівец, самому?»
А я вось стаю
у вузкай Варзобскай упадзіне — без цябе. Пад нагамі ў мяне цвітуць гульбарфы — снежныя кветкі, прабіснегі, ці, як у нас кажуць, сон-трава.
Ружова цвіце на схілах горны міндаль.
З двух бакоў навісаюць вострыя і халодныя яшчэ з зімы камяні — здаецца, расстаў толькі рукі, і далоні ўпруцца ў вечнахалодныя, вечнашэрыя, вечнавечныя, такія шурпатыя шчокі гор.
Бачыш,
зелянее трава, блакітнае неба.
Бачыш,
пад нагамі — смарагд, над галавою — біруза — абодва вельмі пашанотныя камяні Усходу.
Бачыш,
злева і справа, за бясконцымі ўтравелымі вяршынямі — ужо снежныя: здаецца, праз зяляніну вечным холадам дыхае ў твар першароднасць снегу і неспазнанасць жыцця.
І ўсё ж,—
«такая светлая родная зямля,
такая пахкая зяляніна лугу,
такое ядранае маё віно,
такая пяшчотная мая сяброўка».
Лезу ўверх і думаю:
горы — яны толькі здалёк горы, а зблізку — гэта ўсяго толькі шэрае каменне пад рукамі, нагамі і вачамі, толькі дэталі гор, а не самі горы.
А каб па-сапраўднаму ўбачыць горы, каб да іх наблізіцца, ад іх трэба адысціся. На паважную адлегласць адысціся.
Лезу, караскаюся,
і здаецца, варта толькі падняцца на гэтую вось вяршыню, і ты падамнеш пад сябе ўжо ўсе вяршыні свету. Але і за ёю вырастае раптам новая, за новаю — яшчэ адна, і ты адчуваеш, што і гэтая не апошняя: падняўшыся на яе, ты заўважыш, колькі яшчэ нялічаных вяршынь хавала яна за сваёю несамавітаю спінаю.
Паўстаюць за вяршынямі вяршыні,
і табе ўжо здаецца, што і канца і краю ім ніколі не будзе.
Дзіўна,
горы нараджаюць у чалавека крылы:
вочы становяцца крылатымі, рукі —
таксама, ногі і тыя адчуваюць на сабе
крылы. Ужо не кажучы пра душу —
яна вольна лунае над тлумам і тленам лагчын.
Дзіўна,
маленькія вяршыні засланяюць сабой вялікія.
Недзе вось тут, перад вачыма, блізка-блізка
і далёка-далёка славутыя сямітысячнікі —
і пік Камунізму, і пік Леніна, і пік Рэвалюцыі,
і ляднік Федчанкі, і жамчужына Паміра —
горнае Сарэзскае возера.
Але іх не відаць —
нейкія маленькія вяршынькі, усяго толькі стометроўкі падымаюцца перад табою і не даюць воку сягнуць да самых высозных пікаў, якія так прагнеш ты пабачыць.
А недзе
вось у гэтым баку — Іран, а там — слынны Шыраз — горад прыгажунь, і Харасан — край, дзе ўзыходзіць сонца і дзень і ноч ззяюць прыгажуні.
А вунь там, злева,
схаваўшыся за бясконцымі вяршынямі,—
Панджруд, горны кішлак непадалёку ад Зераўшана, дзе ўзышоў між камянёў і травы Рудакі.

Ага, недзе там,
надзейна ахаваны снежнымі заносамі — перавалы закрыты і туды можна дабрацца толькі верталётам — і сам Памір — галоўная гара таджыкаў.
Там жывуць блакітнавокія таджыкі.
Як з'явіліся яны ў гарах,
адкуль прыйшлі, такія нечаканыя тут блакітныя вочы?
Таджыкі жартуюць:
«Мы жывём між цяснін,
сонца не паспявае з-за адной гары выйсці, як ужо хаваецца за другую. Таму мы многа глядзім на неба. Вось ад неба і з'явіўся блакіт нашых вачэй».
Ах, сябры,— можа, яно і так...
А можа, ён, незразумелы блакіт, ад тых арыйцаў, якія ішлі праз гэтыя горы — з нашага Дняпра ў вашу Індыю?
Дарэчы,
Індыя таксама блізка — яна вось тут, за Памірам, з якога ужо відаць Гімалаі...
Шуміць унізе па камянях
зеленаваты, колеру марской хвалі, Варзоб,—
бачыце, заўсёды памятае пра мора галоўная рака таджыкаў.
Іншыя перасыхаюць,
агаляючы рэчышча і лабастае, абточанае вадою каменне ў ім, ад чаго глядзець на такую нежывую раку балюча і тужліва — як на пакінутыя гаспадарамі хаты ў нашых вёсках на Беларусі.
Пакінутыя вадою рэкі.
А гэтая — шуміць.
Праўда, яшчэ не моцна,
бо вады ў ёй пакуль не вельмі, але хутка Варзоб загудзе па-сапраўднаму: дзесьці ў маі пачнуць раставаць леднікі, і тады неўтаймоўны, радасны, вясёлы гул будзе чуваць і ў Душанбе.
Дык адкуль жа ўсё-такі яны,
блакітныя вочы таджыкаў? У Зіё, Камола і Сайфа, як і мае быць у Азіі,— цёмныя, а ў Абдулхаміда — блакітныя. Адкуль, Абдулхамід?
Зіё вельмі перажывае —
на з'ездзе пісьменнікаў яго пакрытыкавалі. Нічога не можа зразумець — дасюль усе яго хвалілі, а тут раптам узяліся крытыкаваць.
Прывыкай, хлопча.
Ты выбраў сабе шлях, які не ўсе і не заўсёды разумеюць і падтрымліваюць.
«Табе атруту дасць мудрэц — атруту гэту выпі,
табе нягоднік лекі дасць — ты не прымай тых лекаў».
На гэтым шляху
часцей за ўсё зайздросцяць, спакушаюць і падстаўляюць ногі. Літаратура, каб ты ведаў, хлопча, гэта якраз той лан, на якім яднаюць сваю злосць і нізы, і вярхі: вярхі злуюцца, што нехта ўзнімаецца вышэй за іх, а нізы — таму, што нехта не апускаецца, зноў жа, да іх. Ведай гэта, Зіё, і табе лягчэй будзе на абраным табою шляху.
«Апасаецца вяроўкі той, хто ўджалены змяёй».
Помніш, Рудакі?
Таго самага выдатнага паэта і выканаўцу сваіх вершаў, чый голас і чый уд раскашаваліся ў Бухары пры двары саманідскіх валадароў,— саманіды палюбілі яго і ўзвысілі над усімі прыдворнымі паэтамі. Таго Рудакі, хто ў няміласці дажываў свае дні — саманіды западозрылі, што ён спачувае народным хваляванням, прагналі з двара і ўсе астатнія дні яму зрабілі начамі — асляпілі яго.
Вялікія казалі:
«Не, не высакародны той, хто на грудзі ўпаламу наступіць».
«Якая брыдкая валадара душа:
пачціва гаварыць з ім без дыхання мусіш».
«Скарынкаю будзь сыты, ды на волі,
хоць у рыззі, ды шчырае красы»...
Блакітная дабрата
бліснула ў карых вачах Насруло — адна, здаецца, дабрата жыве ў гэтых вачах.

**Працяг будзе.**

**Афармленне Юрыя ЯЎМЕНАВА.**

# ЧАРНОБЫЛЬ
# НАШ БОЛЬ



● Бяду павялічыла і наша недасведчанасць пра тое, што робіцца побач з намі.

● Атмасфера нагадвала суровы ваенны час...

● Людзі з зоны аварыі і мы, супрацоўнікі, былі для іх нечым накшталт дзікуноў...

● Для лячэння і харчавання эвакуіраваных урад рэспублікі не шкадаваў сродкаў.

● Людзей, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, можна і трэба аздараўляць дома, у Беларусі.



# ФІТАТЭРАПІЯ СУПРАЦЬ РАДЫЯЦЫІ

Усё далей адсоўваецца ад нас чорная часіна аварыі на Чарнобыльскай АЭС, але вынікі яе чалавецтву давядзецца адчуваць на сабе яшчэ доўга. На жаль, нам, беларусам, ва ўсе часы даводзіцца пераносіць большыя беды, чым астатнім народам. Вось і цяпер вядома, што большая частка забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі (да 70 працэнтаў) прыйшлася на долю нашай рэспублікі.

Бяду павялічыла і наша недасведчанасць пра тое, што робіцца побач з намі. Чамусьці нашы кіраўнікі заўсёды імкнуліся схаваць ад нас небяспеку, замяняючы яе лозунгамі, фіктыўнымі лічбамі дасягненняў, заклікамі да светлай будучыні. Так і ў тыя красавіцкія і майскія дні 1986 года мы былі ўпэўнены, што ўсё добра. Вясновае паветра было настолькі чыстае, сонца ласкавае, а вада прыемная, што нам здавалася, быццам нікога за нас шчаслівей няма. А ў гэты час мы ўсе ўдыхалі гарачыя часцінкі паліва з АЭС, пілі ваду з радыенуклідамі, трэніраваліся ў калонах да першамайскага свята.

Як заўсёды, прайшла чутка, што радыёстанцыя «Свабодная Еўропа» паведаміла аб буйной аварыі на тэрыторыі Украіны. Але ўсе былі настолькі ўпэўнены ў прыстойнасці нашага кіраўніцтва, што мы не дазволілі сабе паверыць «плёткам» і працягвалі рыхтавацца да ўрачыстасцей.

А тым часам у горад пачалі сцякацца машыны з украінскімі нумарамі, у якіх сядзелі напалоханыя дзеці і іх засмучаныя, маўклівыя бацькі. Наша радыё і прэса па-ранейшаму маўчалі, і толькі, калі чуткі пайшлі суцэльным патокам, радыё перадало кароткую інфармацыю аб аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Затым усё смялей і смялей пачала з'яўляцца інфармацыя ў прэсе, і толькі ў канцы чэрвеня (!) мы пачулі аб падрыхтоўцы некаторых раёнаў Гомельскай вобласці да эвакуацыі.

У канцы мая ўсе мы, кіраўнікі санаторыяў і санаторыяў-прафілакторыяў Мінскай вобласці, атрымалі загад (вусны) аб падрыхтоўцы да прыёму эвакуіраваных. Выпісаўшы датэрмінова адпачываючых, усе гэтыя ўстановы да першага чэрвеня 1986 года былі гатовы прыняць жанчын і дзяцей на неакрэслены тэрмін.

Ніколі не забуду той пахмурны, халодны чэрвеньскі дзень, калі да нас прывезлі першых эвакуіраваных. З аўтобусаў выходзілі змучаныя, счарнелыя ад гора жанчыны ў лёгкіх заношаных сукенках, у тапачках і ботах на босую нагу. Сярод іх шмат цяжарных і жанчын з дзецьмі. Стомленыя, азяблыя, яны збіліся ў кучу каля свайго небагатага скарбу і адчужана глядзелі на нас. Няўмела маніпулюючы ручкамі сустарэлага прыбора, дазіметрыст, які прыбыў з прадпрыемства, пачаў правяраць узровень радыяцыі на рэчах і саміх людзях...

Атмасфера нагадвала суровы ваенны час: медыцынскі персанал хутка арганізаваў агляд, апрацоўку, мыццё людзей. Пераапранутых у чыстую вопратку жанчын і дзяцей разводзілі па пакоях. Толькі ўбачыўшы цёплыя і гасцінныя адносіны да сябе персаналу, жанчыны пакрысе пачалі ўваходзіць з намі ў кантакт. Ад іх мы даведаліся, што эвакуіраваны яны даўно, ды так хутка, што і рэчаў не ўзялі з сабой. Дзяцей саджалі ў аўтобусы ў школах і дашкольных дзіцячых установах, жанчын забіралі на рабоце. Вёскі акружала міліцыя, салдаты, забіралі ўсіх, пакідаючы толькі мужчын і старых. Многія, хто працаваў у іншых вёсках, на некаторы час пагублялі сваіх дзяцей, што выклікала перапалох, нервовае ўзрушэнне. Ніхто не ведаў, куды іх вязуць і ці надоўга.

Напачатку іх размясцілі ў мясцовых піянерскіх лагерах і дамах адпачынку, дзе не было ніякіх умоў для аздараўлення. Адсутнасць гарачай вады, дрэннае харчаванне, нязручнасці ўшчэнт знясілілі людзей. Прыгнятала невядомасць, хваляванне за мужоў і бацькоў, якія засталіся дома. Сялянская душа балела за недагледжаныя агароды, пакінутую гаспадарку. Пасля трох тыдняў пакут іх пасадзілі ў вагоны і адправілі ў новую невядомасць...

З сапраўднага пекла прыехалі да нас людзі, таму галоўнае, мы разумелі, было даць ім супакоіцца і адпачыць. Гэта было сумнае відовішча: змораныя, знясіленыя людзі пасля душу і сытнай ежы засыналі ў самых неверагодных позах там, дзе іх заспеў сон. Дзяжурныя сёстры і нянечкі асцярожна хадзілі па палатах, дапамагалі дзецям схадзіць у туалет і зноў іх клалі спаць, каб не пабудзіць мацярок.

А ў гэты час пасыпаліся званкі з патрабаваннем даць звесткі аб прыбыўшых: хто, адкуль, дакладнае месца жыхарства, калгас, дзіцячы сад, колькі гадоў, колькі дзяцей да года, да 2, да 3, да 14, хто з жанчын

працуе, калі звольнілася і ці ёсць ёй замена... Пачаліся павальныя камісіі ад розных інстанцый: ад Чырвонага Крыжа і Паўмесяца, прафсаюзныя, медыцынскія, партыйныя, з месца адпраўкі і г. д. Санітарныя станцыі раённыя, гарадскія, абласныя строга кантралявалі харчаванне і меню. Камісіі хадзілі па паверхах у суправаджэнні нашых супрацоўнікаў з мэтай даведацца ў эвакуіраваных пра іх самаадчуванне. Але ў першы дзень гаварыць не было з кім — людзі спалі па 12—16 гадзін непрабудным сном. На другі дзень пачалі прыбываць розныя медыцынскія лабараторыі па загаду Міністэрства аховы здароўя БССР, каб узяць аналізы на даследаванне. Жанчыны і дзеці занепакоіліся, пачалі разбягацца, і толькі пазней мы даведаліся, што іх ужо неаднаразова абследавалі, але нічога канкрэтнага не гаварылі. Дзеці пачалі баяцца людзей у белых халатах. Спачатку яны адгукаліся на нашы просьбы пайсці на абследаванне, а потым пачалі не даваць і нам.

А паток правяраючых і лабараторый павялічваўся. Спачатку прыязджалі замяраць радыяцыю ў людзей партатыўнымі дазіметрамі, потым — на спецыялізаваных машынах. Жанчыны пыталіся ў дазіметрыстаў і ўрачоў, які ўзровень радыяцыі паказвае прыбор, але ім адказвалі з усмешкай: усё добра, можаце не хвалявацца. Правяралі і нас, супрацоўнікаў санаторыя, але вынікаў таксама не паведамлялі, толькі ўсміхаліся шматзначна на ўсе нашы пытанні. Добра яшчэ, што мне дапамог вопыт работы з дазіметрычнымі прыборамі, які я набыў у Чэлябінску-40, куды трапіў у свой час па пуцёўцы ЦК камсамола рэспублікі. Стоячы за спінамі дазіметрыстаў, я запісваў паказанні прыбораў, а потым разносіў іх у дублікаты гісторый хвароб (як адчувала душа, што арыгіналы пазней у нас забяруць ад імя гарадскога аддзела аховы здароўя, не пакінуўшы нават распіскі).

У адзін з дзён прыехалі з поўным лабараторным рыштункам прафесары з Масквы. Бесцырымонна бралі ў жанчын і дзяцей кроў, мачу, валасы, сліну, тут жа ўсё закансервавалі і адправілі ў Маскву, у інстытут, спецыяльнай машынай. На маю просьбу даць вынікі даследаванняў мне катэгарычна адмовілі і наогул гаспадарылі ў нас, як у сябе дома. Людзі з зоны аварыі і мы, супрацоўнікі, былі для іх нечым накшталт дзікуноў, якіх у свой час вывучаў Міклуха-Маклай. Ніякіх даных даследавання людзей, якіх мы лячылі, мы не атрымалі ні тады, ні пазней — да сённяшняга дня.

А ў нас між тым пачаліся праблемы з харчаваннем. Па загаду санэпідстанцыі мы павінны былі карміць жанчын адной ежай, а дзяцей — другой. Але нічога з гэтага не атрымлівалася. Людзі, якія прыехалі да нас, былі з вёсак, таму прывыклі да простай вясковай ежы. З першага дня шмат прадуктаў харчавання прападала. Жанчыны прасілі зварыць ім бульбы з салам, зрабіць салат, бо, гаварылі яны, дзеці галодныя. Акрамя таго, дзеці елі толькі тое, што ела маці. Не дапамагалі ні нашы тлумачэнні, ні азнаямленні з інструкцыямі, як ім трэба харчавацца. Жанчыны і дзеці патрабавалі звыклай для іх ежы. А тут яшчэ пасыпаліся хваробы, асабліва ў дзяцей: катары верхніх дыхальных шляхоў, ангіны, рыніты, бранхіты, выдзяленне гною з вачэй і г. д. На свой страх і рызыку мы вымушаны былі здацца. Выбралі жаночы савет, які прымаў удзел у складанні меню. Акрамя таго жанчыны далі нам у дапамогу свайго повара.

Улічваючы вопыт лячэння лекавымі травамі (наш санаторый вядомы ў рэспубліцы як гомеапатычны) і ведаючы іх эфектыўнасць у павышэнні імуннага статуса, мы правялі з жанчынамі растлумачальную работу, і неўзабаве яны сталі нашымі актыўнымі памочнікамі. Разам з медыцынскім персаналам жанчыны хадзілі ў лес, збіралі лісце суніц, ажын, касцяніц, малін, купальніку, вярбы і іншых раслін, якія былі так неабходны ім у свежым выглядзе. За больш рэдкімі травамі мы вазілі жанчын і здаровых дзяцей у дальнія лясы, а потым наведвалі ягадныя мясціны. Людзям гэта вельмі падабалася, бо тут, у лесе, на лузе, яны былі ў роднай стыхіі.

Штодзень насельнікі санаторыя прымалі па чарзе настоі лекавых раслін, якія садзейнічалі вывядзенню радыенуклідаў, нармалізацыі парушаных абменных працэсаў у арганізме і, галоўнае, павышалі імунітэт. Гэта былі наступныя зборы лекавых раслін: вітамінны, мачагонны, процігіпертанічны, процідыябетычны, грудны, страўнікавы, пячоначны, супакойваючы і іншыя.

Адначасова з ужываннем лекавых настояў жанчыны і дзеці прымалі лячэбныя ванны з настоем траў, кампрэсы (фітааплікацыі) са збораў раслін, фітаінгаляцыі, свежыя сокі **крапівы, адуванчыка, цыкорыі, трыпутніку, медуніц, капусты, суніц, чарніц** і іншых раслін.

Для таго, каб папярэдзіць перакрыжаваную інфекцыю ў санаторыі, на кожным паверсе мы ставілі ўвільгатняльнікі паветра «Іон-1» з настоямі раслін, якія валодаюць дэзінфіцыруючым і бактэрыцыдным уздзеяннем на шэраг узбуджальнікаў і асабліва стафілакокі і стрэптакокі: календулы лекавай, ядлоўцу звычайнага, бярозы павіслай, елкі звычайнай, сасны звычайнай, эўкаліпту шарыкавага, шалфею лекавага, купальніку горнага, чаромхі і іншых раслін. У дадатак да ўсяго мы паступова прывучылі дзяцей ужываць тыя прадукты, якія былі ім неабходны для падмацавання аслабелых арганізмаў.

Каб усё ж даведацца, у якім стане прыехалі да нас людзі, мы папрасілі прыехаць да нас лабараторыю Інстытута радыебіялогіі АН БССР (акадэмік Я. Ф. Канапля) і лабараторыю паліклінік. Людзі адгукнуліся на нашу просьбу, узялі неабходныя аналізы і неўзабаве паведамілі нам вынікі. Гэта ўжо было лячэнне не ўсляпую, мы ведалі, якія расліны ўводзіць у зборы, каб нармалізаваць крывятворную сістэму жанчын і дзяцей і павысіць іх нізкі імунітэт.

Вядома, не ўсё ў нас ішло гладка. Былі дзеці з цяжкімі пнеўманіямі, значнымі зменамі ў крывятворнай сістэме, абвастрэннямі страўнікава-кішачнага тракта, крывацёкамі з-за нізкай колькасці ў крыві трамбацытаў, іншымі цяжкімі захворваннямі, з якімі мы накіроўвалі іх у бальніцы Мінска. Мы наведвалі дзяцей у клініках, вазілі прадукты і настоі траў, што садзейнічала іх больш хуткаму вяртанню ў санаторый. Былі роды, аборты, крывацёкі ў жанчын, іншыя захворванні, якія ўсіх нас трымалі ў напружанні. Усё гэта нам удавалася пераадольваць галоўным чынам дзякуючы атмасферы добразычлівасці і ўзаемадапамогі, якая ўсталявалася ў санаторыі. Жанчыны, якія нарадзілі, вярталіся да нас, атрымлівалі ўсё неабходнае для сябе і дзіцяці.

Па-ранейшаму часта наведвалі нас дазіметрысты на спецыяльных машынах, але жанчыны і дзеці ўжо не звярталі на іх увагі і наперад гаварылі: «У нас усё нармальна». Разумныя дзядзькі з барадамі згодна ківалі галовамі і хуценька пакідалі тэрыторыю санаторыя, ніводнага разу не растлумачыўшы, якія даследаванні яны робяць, як сябе паводзіць жанчынам, дзецям, што іх чакае наперадзе. Штодзень прыязджалі да нас 5-6 камісій, аглядалі пакоі, дзе жылі эвакуіраваныя, харчаблок, малочную кухню, лячэбныя кабінеты, і гэтак жа хутка знікалі, запісаўшы нешта ў сваіх блакнотах.

Трэба сказаць, што для лячэння і харчавання эвакуіраваных урад рэспублікі не шкадаваў сродкаў (праўда, сродкі гэтыя ў асноўным прадастаўлялі прадпрыемствы). Але жанчыны нашы, нягледзячы на тое, што лячэнне ішло паспяхова, неўзабаве засумавалі. Праз жаночы камітэт мы даведаліся, што яны непакояцца пра пакінутыя дамы, гаспадарку, мужоў, старых бацькоў, якія пісалі ім пра свае хваробы і заняпад гаспадаркі. Кіраўніцтва многіх прадпрыемстваў і калгасаў пачало патрабаваць вяртання жанчын на работу, пагражаючы звальненнем. Больш спрытныя мужчыны паспелі купіць хаты ў чыстых зонах і забіралі туды сем'і, некаторыя завербаваліся і паехалі разам з дзецьмі ў Сібір. Астатнія задумаліся: як жыць далей? Неабходна было захаваць сям'ю, недзе працаваць, карміць і апранаць дзяцей. На ўсе гэтыя пытанні кіраўніцтва не давала адказу. Нам жа заставалася толькі дапамагаць людзям тымі сродкамі, якія ў нас меліся. На 2—3 дні трэба было размяшчаць хворых, узлаваных мужчын, якія прыязджалі наведаць сем'і, па меры сіл лячыць і іх. Неўзабаве знаёмыя і сваякі нашых жанчын, даведаўшыся, што іх дзеці хутка папраўляюцца на травах, пачалі прасіць дапамагчы ім перавесціся ў наш санаторый. Як маглі, мы дапамагалі сваякам перасяліцца разам, прызначаючы ім адпаведнае лячэнне лекавымі раслінамі.

Праведзеныя неўзабаве лабараторыямі Інстытута радыебіялогіі АН БССР, Інстытута санітарыі і гігіены Міністэрства аховы здароўя БССР, паліклінік кантрольныя аналізы паказалі дзейсную эфектыўнасць нашага лячэння лекавымі раслінамі: павысіўся імунны статус эвакуіраваных, спынілася гноецячэнне з вачэй, крывацёкі з носа, дзясен, матачныя крывацёкі; дзеці перасталі хварэць, набралі вагу, сталі актыўнымі, знікла вяласць і апатыя, якія назіраліся ў іх адразу пасля прыезду, з'явіўся інтарэс да жыцця, нармалізавалася колькасць трамбацытаў у крыві. Значныя перамены да лепшага ў жанчын і дзяцей заўважалі і іх сваякі, якія прыязджалі іх наведаць.

Асаблівай папулярнасцю ў жанчын і дзяцей, эвакуіраваных з зоны аварыі на Чарнобыльскай АЭС, карыстаўся полівітамінны настой лекавых раслін наступнага саставу:

**1. ШЫПШЫНА КАРЫЧНАЯ (плады тоўчаныя) — 50 гр — утрымлівае аскарбінавую кіслату да 18 працэнтаў, вітаміны $P_1B_1$, $B_2K$, карацін, у насенні — вітамін Е, арганічныя кіслоты, значную колькасць солей калію, жалеза, марганец, фосфар, кальцый, магній. Валодае фітанцыднымі і магутнымі бактэрыцыднымі ўласцівасцямі. Дзейнічае як процізапаленчы, жаўцягонны і мачагонны сродак, рэгулюе дзейнасць страўнікава-кішачнага тракта, паляпшае абмен рэчываў у арганізме, павышае супраціўляльнасць да розных інфекцыйных захворванняў (асабліва ў дзяцей).**

**2. ГЛОГ (БОЯРЫШНИК) КРЫВАВА-ЧЫРВОНЫ, плады — 50 гр — утрымлівае флаваноіды, арганічныя кіслоты, аскарбінавую кіслату, карацін і іншыя каштоўныя рэчывы. Валодае супакойваючым уздзеяннем на цэнтральную нервовую сістэму, танізуючым уплывам на сардэчную мышцу, узмацняе кровазварот у каранарных сасудах і сасудах мозга, ліквідуе тахікардыю і арытмію, здымае непрыемныя адчуванні ў вобласці сэр[illegible] зніжае крывяны ціск, паляпшае сон і агульны стан хворага.**

**3. РАБІНА ЗВЫЧАЙНАЯ, плады — 50 гр — утрымлівае карацін, аскарбінавую кіслату (да 92 мг/прац.), вітамін Р, эфірны алей, арганічныя кіслоты, цукры, антыбактэрыяльныя рэчывы. Плады рабіны павышаюць апетыт, дзейнічаюць як мачагонны і слабіцельны сродак, зніжаюць развіццё атэрасклерозу, пад уплывам аскарбінавай кіслаты зніжаецца ўтрыманне ў крыві халестэрыну, замаруджваецца адкладанне атэраматозных мас у крывяносных сасудах, нармалізуецца парушаны салявы абмен у арганізме.**

**4. ЧАРНІЦЫ ЗВЫЧАЙНЫЯ, плады — 50 гр — утрымліваюць дубільныя рэчывы, арганічныя кіслоты, аскарбінавую кіслату, карацін, вітаміны групы $B_1$, $B_2$, цукры, антацыяны, пекцінавыя і слізістыя рэчывы, вялікую колькасць марганцу (чэмпіён сярод ягад і фруктаў). Валодаюць вяжучым, процізапаленчым, кроваспыняльным уздзеяннем. Зніжаюць утрыманне цукру ў крыві і паляпшаюць зрок.**

**5. ПАРЭЧКІ ЧОРНЫЯ, плады, лісце — 60 гр — утрымліваюць аскарбінавую кіслату, вітаміны Р, $B_1$, $B_2$, карацін, цукры, пекцінавыя рэчывы, арганічныя кіслоты, дубільныя і азоцістыя рэчывы, пігменты, флаваноіды, антацыяны, фітанцыды, эфірны алей. Расліна валодае супрацьзапаленчымі, патагоннымі, мачагоннымі, проціпаноснымі ўласцівасцямі. Павышае супраціўляльнасць арганізма, узмацняе яго кампенсаторныя механізмы, паляпшае апетыт. Лісце парэчак стымулюе функцыю кары наднырачнікаў.**

**6. ЛІМОН — 50 гр.— утрымлівае аскарбінавую кіслату, флаваноіды, вітаміны $P_1$, $B_1$, карацін, эфірны алей, цукры, лімонную кіслату. Валодае проціліхаманкавым і вітамінным уздзеяннем. Паляпшае пах і смак. Скурка лімона садзейнічае страваванню, лімонны сок з вадой карысны пры хваробах печані.**

Збор старанна перамешваецца. Чатыры сталовыя лыжкі сумесі (з верхам) залiваюць 500 мг вару і трымаюць у цёплым месцы гадзіну. Працэджваюць настой, дадаюць пакрышаны лімон і мёд па густу. Ужываюць

па 0,5 шклянкі 5-6 разоў на дзень за 15—20 хвілін да яды ў цёплым стане. Пры павышанай кіслотнасці лепш прымаць пасля яды. Настой духмяны, крыху кіславаты на смак.

Асаблівасцю гэтага настою з'яўляецца наяўнасць пекціну, які звязвае стронцый і кобальт, уключаючы і радыеактыўныя ізатопы. Улічваючы, што большая частка пекціну не пераварваецца і выдаляецца з арганізма разам са шкоднымі рэчывамі, такі вітамінны настой мае неацэннае значэнне ў лячэнні людзей, якія жывуць у зоне аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Пекцінаў шмат таксама ў ягадах **суніц** лясных, **каліны, журавін, у яблыках, апельсінах**, іншых раслінах. Акрамя таго трэба як мага часцей ужываць салаты і сок з белакачаннай **капусты**, бо яна багатая на солі кальцыю, калію і асабліва на фосфар, утрымлівае аскарбінавую кіслату, вітаміны групы $B_1$, кобальт, медзь, цынк, магній, у ёй знойдзены 16 амінакіслот і вітамін U, які валодае актыўным процізапаленчым дзеяннем.

Для паглынання і выдалення з арганізма стронцыю-90, які згубна ўплывае на касцявы мозг людзей і асабліва дзяцей, мы амаль ва ўсе зборы ўводзім расліны, якія ўтрымліваюць дубільныя рэчывы або таніды. Таніды валодаюць вяжучым і процізапаленчым дзеяннем і ўтрымліваюцца практычна ў той ці іншай колькасці амаль ва ўсіх раслінах. Вяжучае і процізапаленчае дзеянне танідаў заснавана на ўтварэнні на слізістых абалонках страўніка і кішэчніка плеўкі, якая не дапускае далейшага запалення. Да раслін, якія ўтрымліваюць таніды, адносяцца: кара **дуба**, кара і лісце **бярозы**, кара і плады **каліны**, лісце і кветкі **чаромхі**, трава **святаянніку** (зверабою), **мацярдушка, шчавель** конскі, **палын** горкі, **піжма, сушаніца** балотная, **сухацвет** (бессмертник), **шалфей, ваўчкі** (череда), **хвошч**, лісце і ягады **суніц**, ягады **малін**, лісце **брусніц, рэвеню, крывасмоку** (кровохлебки), корань **драсёну** (горца) змяіная і іншых раслін.

Усё гэта мы давалі жанчынам і дзецям у выглядзе водных настояў, улічваючы, што ў выніку выбуху атамнага рэактара і яго актыўнай зоны ў атмасферу была выкінута вялікая колькасць прадуктаў ядзернага дзялення і наведзенай актыўнасці: радыенукліды крыптону, ксенону, ёду, цэзію, стронцыю, рутэнію, амерыцыю, цэрыю, плутонію і іншых хімічных элементаў.

У лячэнні мы зыходзілі з таго, что ў нашым арганізме ўтрымліваецца практычна ўся табліца Мендзялеева. Наяўнасць шматлікіх мікраэлементаў у арганізме і канцэнтрацыя іх у пэўных органах і тканках невыпадковыя, яны тлумачацца іх біялагічнай роляй у працэсе жыццядзейнасці арганізма. Так, напрыклад, у арганізме жывёл і чалавека радыеактыўныя элементы, у прыватнасці, радый, больш за ўсё назапашваюцца ў мозгу, у той час як у раслін яны канцэнтруюцца ў каранёвай сістэме. У ліку ультрамікраэлементаў у састаў усіх арганізмаў уваходзяць і натуральныя радыеактыўныя элементы, якія аказваюць станоўчы ўплыў на жыццядзейнасць гэтых арганізмаў. Пры іх недахопе парушаецца абмен рэчываў, зніжаецца дзейнасць асобных органаў, клетак і тканак. Пра гэта пішуць і вучоныя Францыі, СССР, ЗША, імі высвечана («Химия и жизнь», № 10, 1988), што зніжэнне прыроднага радыеактыўнага фону адмоўна ўплывае на рост і развіццё прасцейшых раслін, насякомых, жывёл.

Захворванні, якія ўзнікли ў выніку недахопу натуральных радыеактыўных элементаў, можна лячыць толькі ўвядзеннем у арганізм іх неабходнай колькасці. Вонкавае ўздзеянне радыеактыўнага выпраменьвання ў такіх выпадках малаэфектыўнае. А паколькі ў прыродных умовах асноўнай крыніцай пераважнай колькасці хімічных элементаў для арганізмаў жывёл і чалавека з'яўляюцца прадукты харчавання і вада, мы вырашылі ўводзіць у рацыён абпраменных людзей чыстыя прадукты і расліны, якія садзейнічаюць выцясненню штучных радыеактыўных элементаў і павышэнню імуннага статуса арганізма.

Як вядома, асноўным шляхам увядзення хімічных элементаў з'яўляецца страўнікава-кішэчны тракт, але для таго, каб ён працаваў бездакорна, неабходна паклапаціцца аб яго стане і, калі гэта неабходна, спачатку вылечыць, і толькі потым уводзіць біяэлементы. Акрамя таго, неабходна памятаць, што ўсялякае нервовае напружанне (а гэта назіралася ва ўсіх нашых эвакуіраваных) садзейнічае павышэнню ўтрымання халестэрыну ў крыві і, як правіла, зніжэнню колькасці вітамінаў $B_1$, $B_2$, $B_3$, PP, аскарбінавай кіслаты, якія прымаюць актыўны ўдзел у абменных працэсах. Псіхаэмацыянальныя нагрузкі (стрэсы) аслабляюць арганізм чалавека, прыводзяць да знікнення асобных відаў імунаглабулінаў — бялковых малекул, якія «адказваюць» за імунітэт. Менавіта ў гэты перыяд павышаецца рызыка захварэць, што мы і назіралі ў эвакуіраваных жанчын і дзяцей. Вось чаму неабходна было даць людзям некалькі месяцаў на прафілактычнае, ашчаджальнае лячэнне для натуральнага аднаўлення арганізма ў спакойнай добразычлівай атмасферы.

Пра тое, да чаго могуць прывесці радыеактыўныя ападкі, могуць сведчыць несуцяшальныя вывады амерыканцаў. Так, даследаванні вучоных-медыкаў Юцкага універсітэта паказалі, што ў выніку правядзення наземных атамных выбухаў на палігоне Невада павялічылася колькасць захворванняў мясцовых жыхароў на лейкемію і смяротнасць з гэтай прычыны. Сёння ж шведскія вучоныя знаходзяць цэзій-137, выкінуты ў атмасферу выбухам на Чарнобыльскай АЭС, у мясе ласёў (павелічэнне складае 15 разоў), якое прызнана непрыдатным для ежы. Калі ўлічыць, што амаль палова цэзію паступае ў наш арганізм з мясам, яйкамі, малочнымі прадуктамі, можна зрабіць нескладаную выснову: яны павінны быць чыстымі! А гэта ўжо залежыць ад нас саміх, ад нашага сумлення і сумлення кіраўнікоў рэспублікі.

Як і іншыя шчолачныя элементы, цэзій даволі хутка і практычна цалкам усмоктваецца са страўнікава-кішэчнага тракта і амаль раўнамерна размяркоўваецца ў органах і тканках. Каля 10 працэнтаў цэзію-137, які паступае з ежай, адразу выводзіцца з мачой, астатнія ж 90 працэнтаў выдаляюцца паступова — ад 50 да 200 сутак у дарослых. Вось чаму самую сур'ёзную ўвагу трэба аддаваць рабоце страўнікава-кішэчнага тракта і нырак як асноўных органаў для выдалення радыенуклідаў. Чым хутчэй з нашага арганізма будуць выдалены радыенукліды, тым меншую дозу абпраменьвання мы атрымаем. Гэта важна памятаць усім, бо мы літаральна купаемся ў радыенуклідах, выкінутых аварыяй на Чарнобыльскай АЭС.

Праблема гэта набывае вастрыню яшчэ і з той прычыны, што зараз назіраюцца павелічэнне радыеактыўнага фону вакол нас. Звязана гэта з тым, што спачатку ў наша жыццё ўвайшлі мураваныя і цагляныя, а затым і бетонныя збудаванні, у якіх мы праводзім большую частку жыцця, а між тым натуральная радыеактыўнасць гэтых будаўнічых матэрыялаў у 10—15 разоў перавышае радыеактыўнасць дрэва. Узровень радыеактыўнага фону павялічваецца за кошт спальвання вугалю і нафты, выкарыстання мінеральных угнаенняў, падземных вод і г. д.

Аднак самай сур'ёзнай крыніцай павышэння ўзроўню радыяцыі з'яўляюцца радыенукліды, выкінутыя ў выніку аварый на заводах, АЭС. Яны ў вялікай колькасці захоўваюцца ў верхнім слоі глебы і актыўна ўключаюцца ў кругаварот па ланцужку: расліна — чалавек. Некаторыя прадстаўнікі зялёнага свету прагна паглынаюць штучныя радыеізатопы і выбарачна назапашваюць іх. Яркім прыкладам таму можа з'яўляцца ўсім нам вядомы часнок, які мае «схільнасць» да ўрану, назапашваючы гэты элемент у дзесяткі разоў больш, чым ён утрымліваецца ў глебе. Хлебныя прадукты таксама канцэнтруюць уран у 20 разоў больш, чым малако.

У чалавека асноўнымі органамі дэпаніравання як растваральных, так і нерастваральных злучэнняў урану з'яўляюцца шкілет, ныркі. Уздзеянне ж павышанай колькасці ўрану на ныркі неабыякава для чалавека, і нездарма ўран так і называюць — ныручны яд. Грэчка ўлоўлівае і назапашвае стронцый, які па сваіх фізікахімічных уласцівасцях з'яўляецца аналагам кальцыю. У абмене гэтых катыёнаў шмат агульнага, і пры лішку стронцыю, напрыклад, у рацыёне жывёл парушаецца мінеральны абмен і нават развіваецца стронцыевы рахіт.

Акрамя радыенуклідаў у наш арганізм сёння трапляюць сотні рэчываў, якія сам чалавек дабаўляе ў прадукты харчавання на розных стадыях сучаснай тэхналогіі вытворчасці. Трапляючы ў арганізм у нязначных дапушчальных колькасцях, але працяглы час, гэтыя рэчывы могуць выклікаць хранічную інтаксікацыю, якая больш пагражае здароўю, чым вострыя атручэнні. Мы сёння дабаўляем мільёны тон мінеральных угнаенняў, тысячы тон пестыцыдаў і рэгулятараў росту раслін, невялікія па масе, але высокаэфектыўныя дабаўкі ў жывёлагадоўлі і г. д. Сляды пестыцыдаў сёння знаходзяць не толькі ў зямлі і вадзе, але і ў тлушчах чалавечага арганізма і нават у вельмі далёкіх ад сельскай гаспадаркі льдах Арктыкі і Антарктыды. А між тым для распаду 50 працэнтаў пачатковай масы арганахлорыстых вытворных неабходна больш як 10 гадоў! Сёння ў нашых кватэрах колькасць таксікантаў, якія ў асноўным сыходзяць з мэблі, у 4—6 разоў вышэй, чым забруджанасць вонкавага паветра. Забруджанасць жа паветра ў шафах, кухонных скрынях і г. д. у 3—6 тысяч разоў большая ў параўнанні з чыстым паветрам.

Мы павінны памятаць, што наш арганізм з'яўляецца калоіднай сістэмай, якая пастаянна змяняецца і валодае незвычайнай адчувальнасцю да ўсякіх вонкавых уздзеянняў і перамен. Адчуваючы гэтыя перамены, арганізм вымушаны ўвесь час затрачваць пэўную энергію на аднаўленне парушанай раўнавагі.

У гэтых адносінах неацэннае значэнне мае ўжыванне лекавых раслін (асабліва ў зборах), якія адначасова з лячэннем асноўнага захворвання насычаюць арганізм неабходнымі яму вітамінамі, хімічнымі элементамі, якія нармалізуюць абменныя функцыі, павышаюць супрацілуяльнасць арганізма, станоўча ўплываюць на нервовую сістэму, паляпшаюць працэс кроваўтварэння, нейтралізуюць шкодныя рэчывы і паскараюць іх вывядзенне з арганізма.

Практычна гэта мы і атрымалі ў выніку выкарыстання раслін у прафілактычным лячэнні жанчын і дзяцей з зоны аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Разам з Інстытутам радыебіялогіі АН БССР і Інстытутам пераліванія крыві Міністэрства аховы здароўя БССР мы лабараторна абследавалі 375 чалавек (жанчын і дзяцей) да лячэння і пасля лячэння на павышэнне імуннага статуса. Кантрольнай групай з'яўляліся жанчыны і дзеці з зоны аварыі, якія знаходзіліся на лячэнні ў іншых санаторыях, але без выкарыстання лекавых раслін у комплекснай тэрапіі. У выніку параўнання было адзначана значнае паляпшэнне атрыманых вынікаў у групе, што даследавалася, і асабліва па імунаглабулінах.

Адначасова былі праведзены даследаванні па ацэнцы эфектыўнасці комплексу аздараўляльных мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў санаторыі. У выніку была адзначана нармалізацыя коркава-падкорквавых рэгулятарных працэсаў, аднаўленне функцыянальнай актыўнасці цэнтральнай нервовай сістэмы, павышэнне ўстойлівасці ўвагі, паказчыкаў актыўнасці абменных працэсаў, мышачнай сілы і вынослівасці, утрымання ў арганізме аскарбінавай кіслаты.

Наш калектыў зрабіў усё, што ад яго залежала: аднавіў страчаны імунны статус жанчын і дзяцей, навучыў іх выкарыстанню фітатэрапіі ў хатніх умовах, рэкамендаваў паўтарыць курс лячэння праз год. Асаблівую ўвагу мы раілі звяртаць на барацьбу з запорамі, якія, затрымліваючы радыенукліды ў арганізме, павялічваюць час унутранага абпраменьвання. Для гэтага мы раім выкарыстоўваць прадукты, якія ўтрымліваюць клятчатку і клетачныя абалонкі. Гэта — пшанічнае **вотруб'е, хлеб, ячныя крупы, проса, марская капуста, маліны, клубніцы, суніцы, чырвоныя і чорныя парэчкі, агрэст, персікі, яблыкі, слівы, грушы.** Паслабляльным дзеяннем валодаюць расліны: **баклажаны, гарбузы, буракі, морква, рэпа, дыні, вінаград, чарнасліў, барбарыс, стальнік, касія** і іншыя. У рацыён харчавання неабходна ўводзіць гародніннія стравы і фруктова-ягадныя сокі, асабліва з мякаццю (дзецям), якія цудоўна выводзяць шкодныя рэчывы.

Мы лічым, што людзей, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, можна і трэба аздараўляць дома, у Беларусі. Для гэтага дастаткова аддаць пад спецыялізаванае лячэнне 3—4 санаторыі або санаторыі-прафілакторыі (якія нярэдка пустуюць), выдзеліць сродкі, а затым абагульніць вопыт, набыты гэтымі ўстановамі, і ўкараніць ва ўсіх клініках, бальніцах, санаторыях, іншых лячэбна-аздараўленчых установах, каб не вазіць людзей за мяжу.

**Яўген ШМЯРКО,**
**урач-фітатэрапеўт.**

**Афармленне Алега КАРПОВІЧА.**



# ЛІСТ У ЗОРНУЮ ВЕЧНАСЦЬ

***(З нагоды юбілею Івана Мележа)***

Пракаветны, у асадзе разгалых бяроз, юравіцкі бальшак. Менавіта сюдой, рэжучы коламі сыпучы пясок, адступілася даўняя гамана жыцця, павечна прыбліжаная да нашага зямнога побыту постацямі Яго герояў, знітаваная з нашай свядомасцю іх клопатным роздумам пра зямлю і жыццё на зямлі.

Як скрушна сягоння ступаць юравіцкім бальшаком. Ступаць і ўсведамляць: усё, сатворанае Яго геніем, раней сваю першаісную цеплыню ў навале чалавечага гора; быццам адступілася адсюль, цікуе здалёку. Мігцісь кволым праменем нязбытай надзеі Палесся.

Хмуры бальшак, у Юравічах, падымаецца на стромае ўзгор'е. Яно чула крокі даўнішняга прарадзіча. І адсюль, ад яго былога дзікунскага кастрышча, збоlена адкрываецца недалёкая Прыпяць. Там, над грэбенем сіняватага лесу, дзве высокія трубы — гэта Чарнобыль, касцёр атамнай дзеі... Вось ён, замыкаецца круг самой зямной існасці: водсвет кастра продка на гэтай юравіцкай гары і злавеснае кастрышча Чарнобыля.

Пэўна, стоячы тут на круталобым пагор'і гісторыі, ён, волат народнага руху, зазначыў для самога сябе: напісаць раман пра атамны век! Бо адчуваў, пэўна ж, якая пагроза затоена мігцісь над бытаваннем чалавечага роду. Тут, недалёка ад сваіх Куранёў, адрынуўшы іхнія астатнія клопаты, адчуваў гэта. А магчыма, жадаў засцерагчы нас, сягонняшніх, ад белае згубы? Ён, Іван Мележ. Той, хто падараваў бессмяроцце Палессю.

Адсюль, з юравіцкай гары, у смуге неба адкрываюцца Глінішчы. Далей, у кучомках лясоў,— Каранеўка, Алексічы... Яго Курані! Хліпка ўздрыгваюць начамі, быццам палохаюцца ядзернай явы, зоркі над радзімаю Мележа. Плывуць аблокі, прапаленыя наскрозь уздыхамі ядзернага чэрава, круцяць вятры па зімах снежны мол на ўмарожанай храпе — усё тут, на колішнім палескім балоце, з гаркотай бяды. Выспела на сцежках Палесся — Яго радзімы — горкае палыновае зелле, узышло на здзічэлых, пакінутых цяплом чалавечых рук палях, абсела дарогі і сцежкі, якім не пачуць болей клопатнага чалавечага кроку,— лёгкая, безжыццёвая ляжыць гэта зямля за калючым дротам, гатовая, здаецца, кінуцца ўслед чалавеку пылам і ветрам.

Такая яна, няўцешная, азмрочаная рэальнасць тае зямлі, якая рукой мацярынскай пяшчоты гушкала Яго калыску, якую ён улюбёна, узросшы і паспытаўшы балесных дарог лёсу, «расквеціў духам» на бессмяротных старонках, якой зычыў вечнасці і дабра і ў тыя хвіліны і дні, калі над ім, знясіленым ад хвароб, будзе важка ляжаць цяжар гранітнай пліты. Ён і з могілак Мінска, з-пад свае меднакорай сасны, бронзавы, узіраецца ў гэты бок: на Палессе.

А тут, на бальшаку, паміж Юравічамі і яго Глінішчамі, інакшы, спуджаны атамным смерчам, рух жыцця, не такі, як жадалася яму, дзень. Азмрочаны лёс. Нават бярозавае веццe, здаецца, уздрыгвае інакш — болей чуйна, пудліва. Да болю сціскаецца сэрца, калі зноўку думаеш: няўжо ён, Мележ, пазначыўшы задуму будучага магчымага рамана, адзначыў унутрана для сябе ўсю існуючую пагрозу так званага прагрэсу? І мажліва, не жадаючы быць чорным прарокам у Айчыне, прамаўчаў, не ўзяўся за гэты раман. А мо проста-такі не хапіла Яму жыцця, поўнага роздуму пра «людзей на балоце»? І будучы раман не счакаў чаргі ў ланцугу творчых пакут, як далекаваты на вёрстах жыцця ад Яго Куранёў. І тут, на юравіцкім бальшаку, нашэптвае мне адзін усяго вецер пра мележаўскую задуму. Горка, з дакорам, нашэптвае.

Я пашукаў вачамі самога Яго ў азмрочанай, шызай далечы тутэйшых палёў. Глухотна-ціха таілiся воддаль узлескі, роўна беглі да іх асмужаных «сцен» зялёныя жытнія хвалі. Усцешліва падалося: усё тут адвечнае і не сыходнае. Ды раптоўная хваля ўцехі абрынулася, што кволая сцяблiна, хруснула. І ўжо шэрая, змерклая далечыня павяла горкае, існае. Бліжэй, у грудзі ўпіваўся, растайны дрот адабранай зямлі. І ўжо было ведама: ім, дротам чарнобыльскай зоны, размежавана надвае і Яго вечнасць. Гэта і над ім, і над яго Куранямі, узвіўся жахотна Чарнобыль. Гэта і яго, пагрозны і не абачлівы, прагне сагнаць адсюль.

Не! Ён тут вечны. Калі ўсё-такі выжыве ядзерны свет, пракаўтнуўшы горкі настой праўды Чарнобыля, калі збераЖэцца для Жыцця, засяліўшы стагоддзі наступныя, агучыўшы іх галасамі зямлян,— тады, на пэўнай вярсце часу і лёсу, і тут, на палескім балоце, распадуцца да тла небяспечныя ізатопы сённяшняй нашай пакуты. І сюды ступіць зноў чалавек смела, бязбоязна. Скіне свой дарожны хатуль і скажа: «Багато чакаў дня етага!» Менавіта гэтае, матчына, скажа. Не забудзе ніdзе на дарогах выгнання, бо тут, на пакінутай Чалавекам зямлі, усе доўгія ночы расстання чакаў яго звароту вечнапрысутны Мележ. Ён і там, у раз'ясненай далечы часу, сустрэне блуднага сына ядзернай эры цыплынёй памяці жыцця гэтага краю. Тое ўсё будзе. А сягоння? Сягоння яму, Мележу, сумна праводзіць нас, палешукоў, у горкі вырай. Ён узіраецца нябачна са сваёй зорнае вечнасці — і гэты затоены позірк, поўны жалобы і смуты, абзываецца шмат у чыім сэрцы, пасабляе яшчэ раз на дарогах выгнання ацаніць і ўзважыць, што пакідаем. І можа тое, галоўнае: што ўзяць з сабой на пуціне выгнання, каб выжыць.

**Пудка шапоча на ветры аер,**
**Спее атрута ў зямным умалоце.**
**Як жа вам чуецца ў свеце цяпер,**
**Людзі мае, на палескім балоце!**
**Чорнае неба сеяла скрозь**
**Мікрачасцінкі, нябачныя воку.**
**Вёсак аседласць — вось яна, вось!**
**Белая згуба ад іх — на паўкроку.**
**Як жа сабрацъ вам дарожны хатуль,**
**Сэрцам знайсці разітальныя сілы,**
**Каб у выгнанні — далёка адсюль —**
**Помніць адно пра вяртанне ў магілы!**

Мы сышлі... Дзікае, узятае палыном, поле Бабчына, Пагоннага, Дронек, Баршчоўкі... Гэтыя, як і многія іншыя вёсачкі Палесся — поле іхняе долі,— мёртва пусцеюць за знакамі забароны. Там, у гняткой цішыні або ў розгаласе астатняга бытавання птушак, якіх і сягоння багата гняздуе пад стрэхамі, драпежна ўздрыгвае сама жахотная Будучыня, рэальна паказваючы, якой можа стацца Зямля неўзабаве, калі мы, яе Чалавекі, не ўспомнім пра розум. Я пад'язджаю да свайго мёртвага Бабчына, і маё сэрца пачынае сціскацца не толькі ад яго атамнай прошласці. Побач ля яго асірочаных хат, на паўкіламетры, вёсачкі і вёскі, якія сягоння існуюць і жывуць ва ўмовах атамнае аблокжыны, дзе чыноўны клопат пра чалавека — мізэрны! — на абсягах вялізнай краіны.

Мы сышлі, ступаючы важка пад ухмыльнымі позіркамі «бацькоў» атамнай дзеі. Ім хацелася нас затрымаць і суцешыць, яны б і зрабілі тое, каб хваля чарнобыльскага выбуху не пайшла далей гэтай умоўнай трыццацікіламетровае зоны, каб асела ўсяго на нашы, савецкія, галовы. Злавесная сіла Чарнобыля разнесла ўшчэнт саркафаг чыноўнага маўчання. Сыдуць адсюль і іншыя, выблытаўшыся з догмаў ілжэнавуковых канцэпцый бяспечнага пражывання на тэрыторыях, забруджаных шчыльна астатнім ядзерным сяйвом. Нехацяя, горка, сыдуць, спасцігнуўшы балеснае: трэба ісці... Ісці, каб размінуцца з белымі цельцамі ў крыві дзяцей і ўнукаў. Каб зберагчы Палессе. Каб выжыць. Рухне «каркас супакою», усяляк тварэны бюракратычнымі патугамі ніцавокага дня, бо чалавек, урэшце, мае права падбаць пра сябе сам — самае гняўлівае права. Ён устане на абарону сябе і роду свайго. Ясна ўбачыўшы многае, сатупіўшы з поля бяды. І якімі б саладжавымі ўгаворамі не ўсцяшалі яго, астатняе слова за ім, сягоннямшнім палешуком. Ён, што атручаны яблык з яблыні, надкусіў горкае праўды: якімі жорсткімі да ягонага лёсу аказаліся вяшчальнікі самага гуманнага на зямлі ладу! Іхнія душы, што карослівыя лужы, адкрыліся тхлом, калі справа пайшла далей за слова. Няўжо асталюецца тут, астудзіўшы астатняе цяпло чалавечых рук, ядзерная пустэча?!

Не паверу! Гэту зямлю і тады будуць грэць магілы дзядоў і прадзедаў, прыкаваўшы да яе нашу нязводную памяць. І нам глыбока асэнсаваць трагічны роздых жыцця, каб рушыць далей, ісці насустрач адабранай волю зла Радзіме. Тут, пад яе журбаносным небам, застануцца і яны, бессмяротныя героі Івана Паўлавіча Мележа.

**Мікола МЯТЛІЦКІ.**

## МАЙСТРЫ

I

Нават спецыялісты сцвярджалі: гусляра ўжо не сустрэнеш на Беларусі, бо гуслі ў нас даўно выйшлі з ужытку.

Не верылася.

Думалася, ну як жа так? Яшчэ на пачатку стагоддзя, паводле даных этнаграфіі, былі ў нас і гуслі, і гусляры. І чаму яны раптам зніклі? З якой прычыны?

Адказу не знаходзіў.

І раптам, зусім выпадкова, дачуўся: пад Маладзечнам, у лесе на хутары, жыве гусляр. У яго ёсць і гуслі. Саматробныя. А іграе — заслухаешся! Казалі яшчэ: калі хочаш пабачыць апошняга гусляра і яговыя гуслі пачуць — не марудзь. Чалавек даўно размяняў дзявяты дзесятак...

І вось я пад Маладзечнам, на станцыі Уша. Распытваю ў тубыльцаў, як трапіць у найбліжэйшае адсюль урочышча Сакаўшчына. Адны паціскаюць плячамі, другія тлумачаць: па шпалах трэба прайсці назад, у напрамку Мінска, і, натрапіўшы на пераезд, павярнуць направа, а тады ўжо ісці пагорыстаю і звілістаю дарогай да вёскі Відзеўшчына, цэнтра саўгаса «Прагрэс», адтуль — да вёскі Уланаўшчына, але, не даходзячы крайняй сялібы, збочыць і не вельмі торнай сцяжынай ускрай лесу пратэпаць яшчэ кіламетры два. Там, нібыта на палянцы, пры пагорку, пад высознай бярэзінай, і будзе хата дзеда Максіма, Такушэвіча — па прозвішчу, Пятровіча — па бацьку.

Прызнацца, усю тую дарогу побач з прадчуваннем незвычайнай сустрэчы жыло ўва мне і пачуццё зусім іншае. А раптам уявілі ў змаг? А раптам, калі ўсё тое праўда, то мо спазніўся... Успаміналася чамусьці і Купалава паэма «Курган», яе асобныя радкі, што запалі ў душу яшчэ з часоў школьных:

**Паміж пустак, балот беларускай зямлі,**
**На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай...**

Іду, але абапал дарогі — адзін лес. Бярэзіны, сосны, елкі. Там-сям трапляецца і чачотка, ці, як яе яшчэ называюць,— карэльская бяроза. А вось і масток. Пад ім нядаўна прабягала рачулка. Меліяратары зрабілі сваю справу — рачулку выпрасталі, берагі перааралі. Вунь як выбеглі супесак!.. А пусткі? Прыдарожжа таксама не мела іх. А вось запусценне ў адным месцы разанула па вачах. Леваруч, не даходзячы Відзеўшчыны, сіратліва пазірала на шлях пакінутая хата. Яшчэ нядаўна тут жыў нехта. Яшчэ нядаўна і соткі абрабляў, і садок дагледжаў — адным словам, гаспадарыў. Куды пераехаў чалавек? Уцёк у горад? Пакінуў абжытыя кут па прымусу? Журботна рабілася ад убачанага.

Ды зноў яны — радкі з паэмы:

**Акалічны народ гуслі знаў гусляра;**
**Песня-дума за сэрца хапала...**

Дзед Максім! А ці яшчэ выходзіш на людзі з гуслямі сваімі? Ці запрашаюць цябе на хрысціны, вяселлі, запоіны? І ўвогуле, ці пачую твае гуслі-самагуды?

**І сядзіць гэты сумны, як лунь,**
**белы дзед...**

Гэта, як гаворыцца, штрых да партрэта гусляра таго, купалаўскага. А як выглядаеш ты, дзед Максім?

Таму і прыспешваю крок. Таму і не вельмі звяртаю ўвагі на дварышчы, на хаты, што абапал доўгай, месцамі брукаванай, вуліцы Відзеўшчыны. Таму і не зважаю на пругкі, з дамешкаю крупянога снегу, вецер, што раптам ударыў у твар на пярэрве за вёскаю. Таму і не гляджу ўжо, якая там тая Уланаўшчына, а бачу толькі бліжнюю, крайнюю справа, хату і вузенькую сцежку-дарожку побач. Недзе там, у канцы сцежкі, і жыве гусляр...

# Апошні гусляр



Але што гэта я забягаю самому сабе наперад? Усё ў свой час!..

Хутар паказаўся раптоўна. Быццам з-за пагорка выбег — нейкі лахматы, натапыраны, абстаўлены рэдкімі прысадамі і нізкім учарнелым парканам,— і спыніўся ў нерашучасці: а што далей рабіць? Пасярод квактухаю месцілася прыземістая хата. Яна таксама ўчарнела, і толькі акенца давала знаць, што там яшчэ не пагасла жыццё.

У тым, што жыве тут Максім Пятровіч Такушэвіч, не было ніякага сумніва: усё сходзілася!

II

Дзед Максім — высокі, хударлявы, сівы, з белымі вусамі і блакітнымі вачыма. Ні даць ні ўзяць — купалаўскі гусляр! Толькі хіба тае барады бракуе. Сядзіць насупраць на лаве і, як ён мовіў, пра жызню сваю расказвае:

— Я і нарадзіўся ў гэнай хаце! — чуўся яго спакойны голас.— Бацька мой сюды ў прымы прыйшоўшы быў. Зямлі меў гектараў з дванаццаць. Ды яна не вельмі была — болей пад кустамі ды камянямі. Але неяк жыў. Калі дзеці падраслі, аднаго сына аддзяліў, другога ў свет паслаў, а мяне пры сабе пакінуў. Я з ім на гаспадарцы і калупаўся. А выпадаў вольны час — майстэркай рознай займаўся. Вокны рабіў, дзверы, шафы, сталы, сані, вазы... Яшчэ малатарні. Драўляныя. Дзе трэба была жалезіна якая — сам і каваў яе. Марокі з малатарняю многа, але затое, як запусціш у работу,— ажно спявала. А парабілі калгасы, то ў калгас і малатарню забралі. Файная была!.. І што з ёю зараз — не ведаю нават. Мо і спалілі дзе... Арфы таксама рабіў. Бывала, як прагоніш збожжа,— зернейка ў зернейка збіралася. І чысценькае... Ну, яшчэ каня падкаваць альбо плуга падправіць — таксама мая работа была... Калі агулам казаць, то я з малькосці ў рабоце. І зараз не магу без яе. З раніцы, як разварушышся, цалюткі дзень на нагах. А пад вечар паляжаць цягне. За ноч аддыхнеш, а зранця зноў за сваё.

Адкуль у мяне схільнасць да музыкі, пытаеце, і чаму з гуслямі судзьбу звязаў? А хто яго ведае!.. Малым яшчэ быў, то, помню, балалайку зрабіў, скрыпку, нейкія цымбалы... Але якая то музыка была! Я ж і дзесяці гадочкаў не меў тады. Аднак іграў... Сказаць, каб ад бацькі ўсё тое пераняў,— не скажу. Ён добрай майстэркі не мог рабіць, не тое каб іграць... Дык пра сябе. Вось так, мала-памалу, і раптам зрабіў сабе гуслі. Хадзіў некалі тут па вёсках стары гусляр. Я гуслі ўбачыў і зрабіў. І строй неяк саздаў свой. Не пайму і зараз, як гэта ў мяне палучылася. Ніхто ж не вучыў! Строй гэны — самадумны. Нідзе такога не ўчуеш болей. А потым пайшло! І зрабіў я гусляў за жызню сваю парадачна. Колькі, пытаеце? Шмат! Штук з пятнаццаць будзе. А мо і болей. У каго ахвота да музыкі з'яўлялася, таму і аддаваў. Адны гусенькі нават сыну Мікалаю зрабіў на памяць. А гэныя, апошнія, сабе пакінуў...

Дзед Максім устае з лавы, падыходзіць да камоды, апускаецца на калені, шукае рукою недзе там, між камодай і сцяною, і, нарэшце, дастае адтуль гуслі. Яны адразу падалі голас — быццам нечаму ўзрадаваліся. І тут жа сціхлі. Гаспадар вяртаецца на сваё месца, апускае гуслі на калені, кажа:

— Во!..

Я ніколі не бачыў гусляў, не даводзілася і чуць іх. Таму рупіла адразу ж папрасіць, каб пайграў, каб паказаў, на што здатны яны. Але стрымліваю сябе, не перабіваю дзеда Максіма. І ён працягвае свой аповед спакойна, не спяшаючыся:

— Гусенькі рабіў доўга. Пакуль загатоўкі здабыў, пакуль высушыў, пакуль выштукаваў — час прайшоў. Аднак спраўныя атрымаліся. Праўда, яшчэ не абыграліся як след, на мель струны не сталі, але нічога — абкатаюцца!..

Павёў рукою па струнах, нібы зноў іх абудзіў на хвіліну, і доўжыў:

— Як і з чаго раблю гуслі? Паслухайце! Мо згадзіцца. Не вам, то некаму... Плечы, гэта тое, што падыспадам, якія хочаш могуць быць — бярозавыя, асінавыя, кляновыя. У гэных — асінавыя. Бо асінавыя найлучча, я прызнаў. Самы лепшы звук даюць. І рабіць з асіны лягчэй. А бакі ды крывулю гэную найлепей з чачоткі рабіць. Грудзі — толькі з елкі. І то не абы з якой. Каторая гадзіцца, каторая не — я ўжо на пні знаю. Пагляджу — і ўсё тут. Еслі ў гушчары сядзіць,— слой мае густы, і гуслі глухавіць будуць. А каторая на пустаполлі альбо ў хвойніку асобна стаіць ды сукоў мала мае, ды па фасоўні гладкаватая — вот гэткая гадзіцца! Рагавая елка тожа не пойдзе. У яе слой цвёрды, звуку не прапускае. Белая — тожа не тое. Яна замяккая і, галоўнае, звук таксама глушыць. Найлепшая елка, прызнаў я, каторая слой не густы мае, рэдкаваты — прымерна ў міліметар. Калі такую расколеш і ўбачыш упоперак слаёў драбнюсенькія рысачкі, падобныя на іголачкі,— вось такое дзерава самы раз на музыку! Спляжу, парэжу на плашкі, пашчапаю, абдзелаю траха рубанкам да таўшчыні, якая мне трэба, і сушу. Падсохне — тады ў ваду. Памачу — і зноў сушу. Не пашкодзіць, калі і два, і тры разы памочыш і высушыш. Во якая пракіка!.. А як усё пад рукою і гатовае,— бяруся маракаваць. У той палавіне хаты ў мяне настаяшчая майстроўня. Варштат ёсць таксама. Без яго нічога ж не зробіш! Трэба і ўшчаміць дошку, і абрэзаць, і абстругаць, і склеіць. На паветры ж не зробіш усяго гэтага!.. А струны? Струны таксама самаробныя. Каторая з кабелю тэлефоннага, каторая з каната. Нават самая таўстая, басовая,— свае работы. Узяў сталёвую струну і накруціў на яе медны дрот. Вот і атрымалася! Бо дзе ж ты купіш струны тыя? І бачыць не бачыў у продажы...

На гэты раз прабег па струнах пальцамі абедзвюх рук і мелодыю, што нарадзілася пад імі, не заглушыў далонямі, а нібы адпусціў на волю, сказаўшы:

— Я іграю тое, што прыходзе да мяне. Бо грамаці нотнай не вучаны.

Зноў прабег пальцамі па струнах і на гэты раз даў ім поўную волю. І яны загаманілі. Загаманілі так, што, здавалася, толькі тае хвіліны і чакалі, каб расказаць пра сябе і пра тое, што бераглі ў сабе мо не адзін дзень. Хата ўраз напоўнілася гукамі. У іх было нешта спрадвечнае, запаветнае і надзвычай зямное. То чуўся подых вясновага ветру, то пошум баравін, то паразвон рачулак. І раптам у той подых, у той пошум, у той паразвон уліваюцца журботныя ноткі, нябачным вэлюмам агортваюць душу, прымушаюць задумацца. Нібы дзед Максім усё, што жыве ў ягонай душы, спрабуе пераліць у тваю, і ад таго робіцца табе нейк вусцішна. І сум, і роздум, і радасць — адначасова пасяляюцца ў сэрцы...

А якія лёгкія рукі ў дзеда Максіма! Пальцы, вузлаватыя і закарэлыя ад паўсядзённай сялянскай працы, нястомна бегаюць па струнах, вышукваючы патрэбны гук і дорачы яго табе быццам з выклікам: а дай ты такога фору, калі можаш!.. А не можаш — то слухай!..

Струны — пелі. Кожная па-свойму. Іншая падасць голас і адразу сціхне, быццам да чаго прыслухоўваецца. Іншая гамоніць даўгавата, нібы хоча расказаць пра сваё, толькі ёй вядомае, адвечнае, важнае. Іншая гаворыць не спяшаючыся, разважліва, нібыта з разлікам пераканаць у нечым, запаланіць надзейна, адразу і надоўга. Яшчэ жывеш тым, што падарыла табе струна папярэдняя, а суседняя возьме раптам і перапыніць дарогу ёй, і пахваліцца сваім — маладым і задорным, і пакліча за сабою твае думкі, тваё сэрца — усяго цябе. Іншая, насуперак усім астатнім, як пакрыўджанае дзіцяня, возьме і раптам заплача. І тады плач той падхоплівае ці не ўся іхняя сямейка, і чуцён ён доўга — надрыўны і нібы няўмольны. А потым нібы хто супакоіць тое дзіцяня, і яно ўжо смяецца і смех свой, як сонца прамяні, разлівае далёка наўкол. І здаецца ўжо: ты не ў хаце сядзіш, а ідзеш палявою дарогай, а над табою — трапяткі жаваранак. Але той жаваранак — толькі на нейкую хвіліну... Замест яго раптам узялі і зашчабяталі гаваркія ластаўкі. Яны шчабечуць-расказваюць пра сваю радасць нястомна.

Не стрымліваюся, пытаю:

— Гэта ваша музыка, Максім Пятровіч?

Зірнуў на мяне, варухнуў белым вусам, прамовіў:

— А чыя ж? Ува мне заўсягды нешта пяе. Ці ўдзень, ці ўвечары, ці ўранні... Іншы раз лягу спаць, а заснуць не магу — здаецца, што ў вушах сам воздух іграе. Во, думаю, каб і мне гэтак! Устану, вазьму гуслі, пашукаю-пашукаю — і выходзе музыка! Добра нават выходзе!..

Ён зноў зірнуў на мяне і падсумаваў:

— Я чуў некалі такую гісторыю. Даўным-раздаўным сам цар Давід на гуслях іграў! Рашыў тады: а я хіба зломак? І дамогся свайго. Іграць магу, нават не гледзячы на струны. Іграю, калі гуслі да мяне так і калі гэтак, наадварот, значыць. Мне ўсё адно — ці басамі яны да мяне, ці галасамі. Рукі самі струну патрэбную знаходзяць...

І, нібы сказанаму ў доказ, павярнуў гуслі басамі да сябе. Пачуўся раздумлівы, нават маркотны найгрыш. Не абрываючы мелодыі, паскардзіўся:

— Памру, і ўсё маё пойдзе са мною... А чаму б культурнікам нашым, школцы не прысласць каго да мяне? Казаў жа не раз: хто хоча вучыцца на гуслях — прыходзьце. Каб хоць! І не думаюць нават. Бо як жа! У іх цяпер магнітафоны ўсялякія, брынкалкі розныя... А каб гуслі — дык не...

Выйшлі на панадворак, і тады толькі дзед Максім дастаў з кішэні муштук (вядома,— самаробны!), на хаду ўправіў цыгарку і, быццам апраўдваючыся ў нечым, прамовіў:

— На фронце навучыўся, каб на яго ліха. За вайну ад радавога да камандзіра кулямётнага рашчота дайшоў. Паранілі колькі разоў. Выжыў. Справіўся. А з табакаю аніяк не спраўлюся...

Спускаліся ад кузні моўчкі.

— Аднак, мне пара,— прамовіў напаследак дзед Максім,— а то, сапраўды, могуць раскупіць хлеб...

І пайшоў ад хутара ў вёску, трымаючы пад пахаю зрэбную торбачку, пайшоў напрасткі, сцяжынаю, пратаптанаю паўз калодзеж у нізовінцы, паўз аблесены суседні пагорак, пратаптанаю не кім старонным, а ім самім, і не за дзень, не за два — за доўгія гады жыцця свайго.

Яраслаў ПАРХУТА.





● Таямніца.

● Садок.

У сярэдзіне мінулага лета на праспекце Машэрава адбылася выстава мастачкі з Брэста Наталлі Чорнагаловай. Сама назва выставы «Фарбы кахання» была сугучная летняй квецені горада і настрою гараджан.

Жывапіс Наталлі Чорнагаловай — свабодны, імправізацыйны, заснаваны ў значнай меры на інтуіцыі. Ёсць у яе творах нешта, уласцівае толькі жаночаму мастацтву. Непасрэдная і бурная ў праявах сваіх пачуццяў, Наталля нават і размаўляе амаль заўсёды гучна, эмацыянальна. Гэтаксама і ў творах яна не «шэпча», не імкнецца спакваля, непрыкметна выклікаць прыхільнасць гледача. Наадварот, мастачка быццам абвяшчае: маўляў, прымайце такой, якая ёсць. Энергічная манера пісьма, экспрэсіўныя мазкі разлічаны на непасрэднае эмацыянальнае ўздзеянне. Згушчэнні асноўнага колеру сярод нейтральнай гамы адценняў, кідкія спалучэнні фарбаў выяўляюць, так бы мовіць, колеравую радасць, якой прасякнута душа мастачкі.

Характэрна, што Наташа ніколі не звярае кожны свой крок з натурай, яе вобразы — гэта імправізацыя на тэму натуры, дзе безупынная дынаміка формы сугучная яе ўласным пачуццям. Таямнічы свет колеру... Раскрыць яго для сябе і гледачоў імкнуліся мастакі ўсіх часоў. Наталля робіць гэта па-свойму, адпаведна ўласнаму разуменню мастацтва, уласнаму светаўспрыманню.

Алена АТРАХОВІЧ,
кандыдат мастацтвазнаўства.

# Фарбы кахання

● Нацюрморт.





● Пяшчота.

# КАНЕЦ ІЛЮЗІІ «НАРМАЛЬНАСЦІ»

«Чатыры гады, тысяча чатырыста шэсцьдзесят дзён і начэй пад пагрозай жыццё і будучае нашых дзяцей, унукаў!

Лясы, азёры, рэкі, вада, зямля — крыніцы жыцця — сталі смяротнай небяспекай.

Чарнобыль — гэта духоўная катастрофа!

Чарнобыль — гэта экалагічная катастрофа!

Чарнобыль пагражае абарваць ніці памяці і чалавечнасці!

Чарнобыльскую бяду цяжка ахапіць розумам. Трэба змагацца з ёю, не прыходзячы ў адчай і не адступаючы, з напружаннем усіх сваіх сіл.

Саюз «Зніч» носіць імя Пятра Міронавіча Машэрава. Смерць разбурае многія пастаменты, узведзеныя насіллем, дыктатарствам, хлуснёй, але яна бяссільная перад высакароднасцю і сумленнасцю душы. Імя Машэрава, яго справы жывыя ў памяці народнай.

Зніч — гэта свяшчэнны агонь, якім нашы продкі абараняліся ад злой сілы. «Зніч» — агонь адзінства і ўзаемадапамогі — гарыць у сэрцах чалавечых, не даючы людзям загінуць ад адчаю. Ён запальвае вечную свечку надзеі і веры.

Супрацьпаставім смяротнаму агню Чарнобыля касцёр выратавальнага Брацтва Народаў Зямлі!

(Са Звароту Беларускага Саюза дапамогі ахвярам чарнобыльскай аварыі «Зніч» імя П. М. Машэрава).

На пытанні карэспандэнта часопіса Валерыя ЛАПІНА адказваюць лідэры новага грамадскага руху **Наталля Машэрава і Уладзімір ПЯТРОЎ.**

ЧАСОПІС «БЕЛАРУСЬ», ЯК І АБЯЦАЎ СВАІМ ЧЫТАЧАМ, ПРАЦЯГВАЕ ЎВАЖЛІВА САЧЫЦЬ ЗА ХОДАМ РАБОТ ПА ЛІКВІДАЦЫІ ВЫНІКАЎ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ, ІНФАРМАВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ АБ ДЗЕЙНАСЦІ ЎРАДАВЫХ І ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ НА ТЭРЫТОРЫІ, ЯКУЮ СПАСЦІГЛА БЯДА.

**КАР.:** — Чым выклікана арганізацыя Беларускага Саюза імя П. М. Машэрава «Зніч», чаму Саюз дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы створаны толькі раз некалькі гадоў пасля аварыі?

**Н. М.:** — Пра сапраўдныя маштабы вынікаў Чарнобыльскай аварыі мы не ведалі ўсёй праўды. Мы былі дэзінфармаваны. Заслона тайны прыўзнята зусім нядаўна... Мы лічым, што настаў час спалучаць дабрачыннасць з гаспадарчай дзейнасцю. Толькі тады і можна дасягнуць дастаткова хуткіх вынікаў у дапамозе людзям і раёнам, якія пацярпелі.

**У. П.:** — Гады, што мінулі пасля трагедыі, паказалі: усе намаганні ўсесаюзнай арганізацыі «Чарнобыль» накіраваны куды хочаш, толькі не на рэальную і эфектыўную дапамогу Беларусі. Праўда, за апошнія некалькі месяцаў сітуацыя пачынае мяняцца. Гэта добра, але... колькі часу ўпушчана! Далей, наш Саюз ставіць сваёй задачай дапамагчы канкрэтнаму чалавеку, канкрэтнай сям'і, канкрэтнай вёсцы. А менавіта ж такой падтрымкі фактычна не маюць пацярпеўшыя.

**КАР.:** — Як здарылася, што вы апынуліся ў ліку лідэраў новага Саюза, хто прапанаваў яго назву?

**Н. М.:** — Праўду кажучы, у мяне ўсе апошнія гады мацнела ўпэўненасць: прыклад бацькі, памяць аб яго сумленным служэнні інтарэсам беларускага народа могуць стаць каталізатарам для развіцця карысных, неабходных зараз ініцыятыў у рэспубліцы. Ну а мне самой проста нельга, несумленна ў гэты цяжкі час замыкацца выключна на інтарэсах сваёй сям'і, сваіх асабістых клопатах. Што тычыцца назвы нашага Саюза, дык яе прапанавала вядомы беларускі філолаг дацэнт Ірына Вікенцьеўна Шаблоўская. Зніч — гэта агонь добрай сілы.

**КАР.:** — Якія галоўныя задачы Саюза?

**Н. М.:** — Беларускі Саюз «Зніч» аб'ядноўвае людзей добрай волі, якія імкнуцца дапамагчы роднай зямлі залячыць раны.

Галоўная мэта Саюза — накіраваць усе ахвяраванні людзям, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай бяды.

Саюз будзе садзейнічаць адкрыццям у навуцы, медыцыне, дапамагаць усім, хто служыць вялікім ідэалам гуманізму, здароўя і міру на Зямлі.

За асабліва выдатныя дасягненні Саюз мяркуе ўстанавіць Міжнародную прэмію імя Машэрава.

**У. П.:** — Задачы ў нашага Саюза, шчыра кажучы, разнапланавыя і іх шмат. Назаву некаторыя асноўныя. Гэта ўдзел у выкананні Урадавай праграмы па перасяленню людзей з заражаных радыенуклідамі тэрыторый і садзейнічанне ў спыненні на іх усіх відаў гаспадарчай дзейнасці, арганізацыя сумесна з органамі аховы здароўя і кампетэнтнымі савецкімі і замежнымі арганізацыямі спецыялізаванай медыцынскай дапамогі людзям, якія пацярпелі ад радыеактыўнага абпраменьвання, аказанне дапамогі дзяржаўным і грамадскім органам у стварэнні сеткі радыеметрычнага кантролю за харчовымі прадуктамі, вадой і экалагічнай абстаноўкай на ўсёй тэрыторыі Беларускай ССР, арганізацыя сумесна з органамі аховы здароўя, Чырвонага Крыжа і іншымі грамадскімі арганізацыямі экалагічнага ўсенавуча насельніцтва Беларускай ССР, садзейнічанне ў забеспячэнні медыцынскіх устаноў і ўстаноў народнай адукацыі (у першую чаргу ў зоне аварыі на ЧАЭС) экалагічна чыстымі, высокакаларыйнымі прадуктамі харчавання. Яшчэ мы заняты праблемамі тэхнічнага аснашчэння медыцынскіх і навуковых устаноў Беларускай ССР, садзейнічаем росту вытворчай, інтэлектуальнай і культурнай кааперацыі беларускіх прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый з замежнымі прадпрыемствамі, арганізацыямі і фірмамі, стварэнню гасразліковых прадпрыемстваў, арганізацый і сумесных прадпрыемстваў...

Словам, пералічваць можна доўга.

**КАР.:** — Чаму менавіта гэтыя, пералічаныя вамі напрамкі дзейнасці ўрадавай грамадскай арганізацыі вы лічыце самымі важнымі?

**У. П.:** — Таму што яны даюць магчымасць выканаць задуманыя намі канкрэтныя мерапрыемствы па арганізацыі дапамогі ўсім пацярпеўшым ад выбуху рэактара ЧАЭС. Дабрачыннасць без фінансавай дапамогі, на адных словах — не дабрачыннасць, а ілюзія дзейнасці.

**КАР.:** — На якую сілу, на чыю канкрэтную дапамогу Саюз апіраецца ўжо сёння і якая, ад каго менавіта падтрымка маладой арганізацыі «Зніч» неабходна ў будучым?

**Н. М.:** — У першую чаргу мы чакаем сур'ёзнай падтрымкі ад міжнародных арганізацый. Без іх мы доўга не зможам вырашыць праблемы медыцынскай дапамогі людзям. Асаблівa спадзяёмся на рэлігійныя арганізацыі, якія могуць стаць магутнай аб'яднальнай сілай у барацьбе за выжыванне беларускай нацыі. А ўвогуле ў дадзены момант важная любая дапамога ўсіх арганізацый, дзяржаўных і грамадскіх, як за мяжой, так і ўнутры краіны.

**У. П.:** — Сёння існуюць шматлікія дабрачынныя фонды, саюзы, ад аднаго пералічэння якіх у працоўных калектывах прадпрыемстваў узнікае разгубленасць... Але наш невялікі вопыт паказаў ужо: як толькі людзі даведваюцца, што створаны Саюз імя П. М. Машэрава, рашэнні прымаюцца адразу — быць з намі. Пра нас пакуль вельмі мала ведаюць. Але гэта і натуральна. Мы ж арганізаваліся зусім нядаўна.

**КАР.:** — Рэалізацыя якіх праграм Саюза ідзе добра і хутка, а якіх — наадварот, дрэнна і марудна? Чаму?

**Н. М.:** — Маштабы катастрофы настолькі вялікія, вырашаць іх трэба такімі высокімі тэмпамі, а вынікі настолькі жахлівыя, што мы не задаволены пакуль нічым і нікім. Лічым, што ўсё ідзе невераготна, злачынна марудна, сілы ў шмат раз растрачваюцца нерацыянальна, дапамога запазняецца. Самае страшнае, што ад гэтага пакутуюць дзеці. Не заўсёды яшчэ дапамога даходзіць своечасова, да ўсіх, ды і мала яе пакуль.

**КАР.:** — Некалькі слоў аб штатным раскладзе арганізацыі і аб сваіх калегах.

**Н. М.:** — Штаты — дзве з палавінай стаўкі. Аднак расказаць за некалькі мінут пра ўсіх цудоўных людзей, якія ўжо прымаюць удзел у рабоце нашага Саюза, немагчыма... Можа будзе выглядаць не зусім сціплым, але гэта праўда: галоўны генератар ідэй — гэта мой муж, з якім нас аб'ядноўвае адзінства поглядаў на жыццё, з якім пачыналі рэалізоўваць ідэю Саюза.

**КАР.:** — Як складваюцца адносіны ў Саюза з кааператарамі, арандатарамі рэспублікі?

**Н. М.:** — Ніяк. Праўда, некаторыя кааператывы пералічылі нейкія сумы... Думаем, што наша з імі супрацоўніцтва — справа бліжэйшага будучага.

**КАР.:**—Чаму, на ваш погляд, даволі скупа асвятляецца ў рэспубліканскай (не кажучы ўжо пра цэнтральную) прэсе работа Беларускага Саюза імя П. М. Машэрава «Зніч»?

**Н. М.:** — Наконт рэспубліканскай прэсы я б гэтага не сказала. Што тычыцца цэнтральнай, дык мы мяркуем так: спачатку трэба штосьці зрабіць, дасягнуць нейкіх значных вынікаў, а потым гучна заяўляць аб сабе.

**У. П.:** — Мая думка: у друку скупа асвятляецца работа Саюза перш за ўсё таму, што і ў такой высакароднай справе, як дапамога людзям, ёсць, як высвятляецца, у кагосьці і свае меркантыльныя інтарэсы... Напрыклад, арганізацыі, што існавалі да нас, сур'ёзна лічаць, што менавіта яны «галоўныя дзеючыя асобы». Але мы да гэтага ставімся спакойна, таму што лічым: калі кожны з нас зробіць хоць што-небудзь для ліквідацыі вынікаў катастрофы — гэта ўжо крок да выпраўлення становішча.

**КАР.:** — І апошняе пытанне. Саюз дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы носіць імя П. М. Машэрава. Вы, Наталля Пятроўна,— дачка Пятра Міронавіча. Як ён рэагаваў бы на падзеі ў Чарнобылі, якія рашэнні ён мог бы прымаць адразу пасля выбуху на ЧАЭС і ў наступныя месяцы, гады?

**Н. М.:** — Па-першае, рэакцыя была б імгненная, як гэта было заўсёды, калі ў рэспубліцы здаралася бяда. Так было пасля выбуху на радыёзаводзе, пры крушэнні паяздоў, у час паводкі ў Брэсцкай вобласці. Аб тым, як ён «згараў» сам, ратуючы людзей, могуць расказаць многія.

Па-другое, дзеянні яго былі б без азірання на думку Цэнтра. Ён стварыў бы ўсе ўмовы для поўнай галоснасці... І, урэшце,— галоўнае — бацька выкарыстаў бы ўвесь свой аўтарытэт, каб неадкладна задзейнічаць наяўныя дзяржаўныя рэзервы; парады беларускіх вучоных не засталіся б без увагі. Ды і пры перасяленні не было б такой бесталковасці... Усё было б прадумана, разлічана, абгрунтавана.

У выніку нашы страты ад трагедыі, несумненна, былі б менш страшнымі. Ілюзія «нармальнасці» становішча ў рэспубліцы пасля выбуху на ЧАЭС (якая пратрымалася чатыры гады) проста б не ўзнікла.




## ДАВАЙЦЕ ПАДУМАЕМ РАЗАМ

Давялося мне бываць, і не раз, у Маскоўскім і Мінскім метрапалітэне. Нічога благога не скажаш наконт палацаў-станцый у падзямеллі: усё прыгожа, камфортна-прыемна, зроблена ў стылі айчыннага горадабудаўніцтва. Вось толькі назвы станцый з рэвалюцыйным зместам на кожным кроку набіваюць аскому і выклікаюць роспач: «Пралетарская», «Сацыялістычная», «Рэвалюцыйная», «Партызанская», «Першамайская», «Маякоўская»... Што ні прыпынак, то ўсё ў адзіным рэвалюцыйна-пафасным стылі і безгустоўным каларыце сучаснасці. А дзе падзеліся назвы беларускага зместу: «Янкі Купалы», «Максіма Багдановіча», «Францішка Скарыны»?.. Уяўляеце, як прыемна было б беларусам прыехаць на станцыю свайго славутага земляка-асветніка, паказаць замежным гасцям і палюбавацца самім карцінамі мастацтва Адраджэння...

Хочацца, каб маімі думкамі зацікавіліся беларускія пісьменнікі і мастакі-рэстаўратары, гісторыкі і этнографы нашых дзён, каб мае прапановы абмеркавалі і падтрымалі, бо людзям хочацца бачыць свой горад у красе нацыянальнай гордасці.

**Васіль ЛАЎРЫНОВІЧ,**
Магілёўская вобласць.

## ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Мяне зацікавіў артыкул Пётры Садоўскага пра «родну межачку», надрукаваны ў «Беларусі».

Рады, што адкрыў аднадумца. Здаецца, цяпер іх не так і шмат. У нашай «хаце» добра ведаць, хто цябе слухае, а то ляпнеш пасвойму, бачыш, ухмыляюцца, а бывае і адвернуцца. Праўда, здараецца, што і цярпяць.

Вось жа «пра межачку». Мо і ўскосна трохі.

Колькі часу таму заходзіў у адну ўстанову і, каюся, не без свавольства вітаў па-польску старую сакратарку. Яна была ўдзячна, дый, што казаць, справы мае лацвей прасоўваліся, і давітаўся-такі: быў прызнаны «сваім», а потым удастоіўся шчырасці.

— Нас тутай дзевентнасьце,— паведаміла яна па-змоўніцку.

Трэба было разумець — столькі чыноўнага люду, любага сэрцу пані, было ў той установе. Этнас рэспублікі пані падзяляла на чатыры часткі: «вось — мы, палякі, там яўрэі, ды мешаныя». Была, вядома, гэта вольная экстрапаляцыя этнічнага стану ўстановы на ўсю рэспубліку.

Нехта папракне,— знайшоў каго цытаваць, не тыпова, маўляў. Можа і не тыпова, але прыкрасці ад таго не меншае.

А пані тую, здаецца, бачыў на прыступках чырвонага кляштара сярод кабецін, што абвясцілі галадоўку, бо кіношнікі марудзілі пакідаць касцёл.

Хай бы мяне зразумелі без запэўнівання ў самых шчырых маіх адносінах да сяброў маіх — і палякаў, і яўрэяў, без высновы пра міжнацыянальныя адносіны.

Марыць хто пра што хоча, а я дык вось пра гэта: заходжу па справе ў прасторны кабінет, а мяне вялікі начальнік страчае чысцюткім беларускім прывітаннем. Ці не занадта хочацца? Думаю, што не.

Даруйце, не ведаю Пётры Садоўскага, але, калі гэта не вельмі занепакоіць рэдакцыю, папрасіў бы перадаць яму, што ўдзячны чытач сардэчна паціскае ягоную руку. Дзякую і табе, паважаная рэдакцыя!

**Анатоль БАРТНІЦКІ,**
**ветэран вайны і працы, урач.**

**Добры дзень, шаноўныя сябры!**

Даўно сачу за публікацыямі П. Садоўскага ў вашым часопісе, даўно хацелася падзякаваць аўтару і часопісу за сапраўды высокі ўзровень матэрыялаў у апошнія гады.

А сёння — узрушэнне! Прачытаў, а потым і перачытаў артыкул «Хімера «маргінальнасці» ці родна межачка?» у майскім нумары «Беларусі» за мінулы год...

Рэдка бывае, каб кожная думка, кожны эмацыянальны абразок (іх, дарэчы, у працах Пётры Садоўскага заўсёды якраз столькі, колькі патрэбна!) так супадалі б з уласным строем мыслення, з уласнымі пакутлівымі разважаннямі пра лёс нашага народа!

Пашкадаваў, праўда, аб адным: мала людзей прачытае гэты цудоўны ўзор навукова-публіцыстычнага эсэ — тыражы, тыражы!..

Але ёсць і надзея! Навуковец Садоўскі — народны дэпутат БССР. Апантаны (у самым станоўчым сэнсе слова!), энергічны, дасведчаны, саркастычны... Сумленны — ён мог бы пашырыць аўдыторыю, зрабіць яе мільённай дзякуючы тэлебачанню, тым больш, што за пасяджэннямі парламента сочыць вялікая колькасць жыхароў рэспублікі. І сказаць пра тую жудасную хімеру «маргінальнасці» ўсім...

Мяркую, што сумна вядомым аўтарам «Политического собеседника» на гэты раз прыйдзецца добра «папацець», каб выліць чарговую порцыю бруду на аўтара артыкула, на яго логіку, аргументаванасць, сапраўдны чалавечы боль.

Няхай жа «не будзе ні старой трагедыі, ні новага фарса», як піша П. Садоўскі. Няхай жа будзе людскасць і праца на ніве нашага Адраджэння!

**Артыст Юрый АВЯР'ЯНАЎ.**

**Георгій Фёдаравіч Лепін — чалавек складанага лёсу. Праўдалюбівы, ён не мог зміріцца з абыякавасцю і несправядлівасцю, якія панавалі ў знакамітыя «застойныя» часы. Не маўчаў. Таму прыходзілася часта мяняць месца работы.**

**Так у 1983 годзе, з'яўляючыся доктарам навук, прафесарам, вымушаны быў пакінуць любімую лабараторыю, спыніць даследаванні па вельмі перспектыўнай тэме. Ён стаў... сезонным рабочым-будаўніком на сяле. У гэтым учынку былі і пратэст, і адчай, і годнасць, і... бяссілле.**

**У дні чарнобыльскай бяды, у 1986 годзе, Г. Ф. Лепін звярнуўся ва Урадавую камісію па ліквідацыі вынікаў аварыі з просьбай даць яму магчымасць працаваць на самых небяспечных участках зоны, працаваў на даху трэцяга і чацвёртага блокаў, на дэзактывацыі Прыпяці, на захаванні радыеактыўных адходаў. Цяпер доктар тэхнічных навук Георгій Фёдаравіч Лепін працуе старшым майстрам цэха дэзактывацыі спецпрадпрыемства «Комплекс». І з'яўляецца стваральнікам Усесаюзнай арганізацыі «Чарнобыль», арганізаванай для абароны тых людзей, каго закранула страшная чарнобыльская трагедыя.**

**Знаходзячыся ў эпіцэнтры чалавечай бяды, Г. Лепін узяўся за пяро, пачаў пісаць. Не мог ён маўчаць, не меў маральнага права заставацца маўклівым суэіральнікам усяго, што адбываецца,— разумеў: гэта вельмі важна для лёсу нашага народа, усяго чалавецтва. Хвалюе яго і тое, аб чым сёння спрачаюцца: быць або не быць АС. Ці будзе працаваць мірны атам!**




лёнка праяўлена. Здаецца, штосьці атрымалася. І вось ужо ў слабым святле чырвонага ліхтара праглядаюцца абрысы нейкага збудавання ў выглядзе зямнога шара. Цёмны цень на ім паступова набывае выгляд атамнай бомбы з буйным надпісам, што перакрэсліў яе: «Не!» Гэта гаргара была пастаўлена на тэрыторыі старой будаўнічай базы Чарнобыльскай АС яшчэ ў тыя часы, калі той самы чацвёрты рэактар, для якога стаў патрэбны адзіны ў свеце, унікальны і непаўторны «саркафаг», яшчэ толькі будаваўся. І стаіць гэты напамін аб небяспечным для чалавецтва жангліраванні атамнай бомбай побач з саркафагам — на адлегласці ўсяго некалькіх сотняў метраў. І вось што цікава. Будбаза ўжо даўно не існуе, збудаванні парушаны. Усё, што ўдалося хутка, ва ўдарным тэмпе закапаць у пясок (не ва ўскосным, а ў прамым сэнсе), закапана. У пясок пайшла незлічоная колькасць найкаштоўных матэрыялаў і абсталявання.

Уся гэтая вакханалія безадказнасці і безгаспадарчасці і яшчэ невядома чаго ахапіла будбазу не ў «аварыйнай гарачцы» 1986 года, а ўжо ў разгары 1987. Да таго часу мы яшчэ ўпарта паўтаралі пра «ўрок Чарнобыля», працягваючы сваю марнатраўную дзейнасць у гэтай самай чарнобыльскай зоне. А вось да атамнай бомбы мы ўсе прывыклі адносіцца настолькі сур'ёзна і адказна, без усялякіх скідак на «авось міне», што і тут, відаць, проста кашчунствам здавалася знесці гэты манумент нашай адзінай волі і мэтанакіраванасці. Так вось і стаіць ён, адзін сярод пясчанай пусткі, вытаптанай ордамі магутнай жалезнай тэхнікі.

Больш як сорак тры гады праляцела з тае пары, калі прагучалі першыя выбухі атамных бомбаў над Хірасімай і Нагасакі. Першыя... і, на шчасце, пакуль апошнія! Але гэта «на шчасце» прыйшло не само па сабе. Колькі безразважных «дзяржаўных дзеячаў», «ястрабаў» рознай масці і проста вар'ятаў ірвалася да атамных кнопак! І пакуль што не змаглі да іх дацягнуцца. Няма ў гэтым дзіва. Дзіва ў іншым. У тым, што ўсе людзі вельмі стракатага і складанага свету змаглі зразумець небяспечнасць «атамных жартаў», змаглі з вечнай дылемы «быць альбо не быць?» адназначна і аднадушна выбраць для сябе яе першую частку. Змаглі аб'яднацца, адкінуўшы прэч усё, што іх раз'ядноўвала.

Часта дваццаты век называюць атамным векам. Так, гэта быў вялікі прарыў навукі, прызваны перавярнуць увесь наш свет. Але гістарычнай трагедыяй стала тое, што гэты «пераварот» зрабіў усіх нас заложнікамі атамнай істэрыі. На шчасце,— так, менавіта на шчасце,— свет здолеў своечасова зразумець выключную сур'ёзнасць небяспекі, што навалілася на яго. Вось адкуль заклікі «Атамнай бомбе — не!». У адрозненне ад мноства іншых заклікаў і лозунгаў, якія прайшлі праз наша жыццё, гэты не застаўся незаўважаным, а падштурхнуў усё чалавецтва да актыўных дзеянняў.

У чырванаватых водбліках, якія нагадваюць водсветы буйнога полымя, усё ярчэй праглядваюцца і абрысы таго самага саркафага, што прыкрыў сабою зарыва красавіка 1986 года. На пярэднім плане фота зямны шар, а правей, далей — строгія абрысы саркафага, з гэтай сусветна вядомай паласатаю трубою.

Атамная бомба, што так і засталася неўзарванаю, і атамны рэактар, які ўзарваўся замест яе! Ёсць тут над чым задумацца. Таму што атамныя бомбы, прызначаныя спецыяльна для таго, каб забіваць, паліць, травіць, пакуль што маўчаць. Хоць даць ім магчымасць сказаць сваё слова зусім не складана. Дзеля гэтага нават не трэба праводзіць складаных або бязглуздых эксперыментаў. Дастаткова некаму недзе проста націснуць на кнопку. Канечне ж, ёсць там і свае блакіроўкі, і абарона «ад дурняў». Але ж і гэтыя разумныя сістэмы могуць некаму замінаць і іх нехта проста адключыць. Але яна ўсё ж да гэтай пары маўчыць. Ён (рэактар) не пажадаў застацца невядомым і загаварыў. Загаварыў моцна, на ўвесь сусвет.

Мне здаецца, не, у гэтым я ўпэўнены, што не па сваёй ініцыятыве загаварыў ён. Мы яго літаральна прымусілі сказаць пра сябе, у яго проста сілы не хапіла трываць тую няўвагу, з якой мы да яго ставіліся, тую здзеклівую пагарду да яго жыццёвых прынцыпаў і нормаў.

Дзесьці ў тыя далёкія часы, калі ў нашай свядомасці яшчэ не паспеў размыцца злавесны грыб першых

ядзерных выбухаў, то там, то тут пачалі з'яўляцца сціплыя парасткі мірнага, нарэшце-такі, атама. Мірнага — насуперак атамнаму грыбу, добрага — насуперак забойцу Хірасімы і Нагасакі. І гэта так замілавала нас, што ўсе мы кінуліся ў адзін голас нахвальваць нованароджанага. Як ва ўсякім доўгачаканым дзіцяці, мы бачылі ў ім толькі добрыя якасці. Праўда, ён яшчэ не самы выгадны са сваіх суродзічаў, але ж гэта толькі пакуль. Падрасце і ўсіх абскача. Галоўнае ж у тым, што ён мірны, вельмі мірны. Відаць, так ужо хацелася нам што-небудзь супрацьпаставіць таму Злому і жорсткаму атаму, што мы гэты адразу ж назвалі Мірным.

Так вось і жылі Злы і Мірны сярод нас — людзей, усё болей і болей запаланяючы планету. Мы ўжо і забываць нават пачалі, што яны браты, родныя браты. Што ў іх жылах цячэ адна і тая ж кроў. Што іх сэрцы б'юцца па адных і тых жа законах. І што мірны застаецца добрым толькі да таго часу, пакуль мы з ім знаходзім агульную мову, пакуль мы адносімся да яго з належнай павагай, лічымся з яго няпростым характарам. На жаль, зусім забыліся мы на гэта. Як гаворыцца ў вядомай прымаўцы: «На добрым ваду возяць». Вось так атрымалася і ў нас з гэтымі роднымі братамі. Старэйшага, злога, мы баяліся, але і паважалі. Ведалі — з ім жартачкі дрэнныя. А на малодшым, добрым, вазілі ўсё. І не вельмі задумваліся аб тым, ці ўсё яму падабаецца, ці ўсё па характары.

Вось і той рэактар, што ўзарваўся ад крыўды на сваіх стваральнікаў і выхавацеляў, быў, напрыклад, пушчаны датэрмінова, на цэлыя тры месяцы! А як дарэчы былі б гэтыя тры месяцы ўсім — будаўнікам, мантажнікам і наладчыкам, каб недзе нешта крыху дагледзець, падладзіць! Але дзе там, не ў рэактары галоўнае, галоўнае ў датэрміновых пераможных рэаліях, у прэміях і іншых узнагародах. І на ўсіх узроўнях, канечне ж, з самага нізу і да міністраў.

А мірны ўзяў і падвёў: не вытрымалі яго сэрца, яго нервы. Ды і хто ў такіх умовах вытрымае?! Разгулялася ў ім «кроў продкаў», успомніў ён, што не з баязліўцаў і што не такі ўжо ён мірны. І паказаў свой нораў! Добра паказаў, годна.

Нават ашаламіў нас сваімі «непрыстойнымі» паводзінамі, зласлівасцю.

Перапужаліся! Доўгі час нават не ведалі, што ж з ім і з усім навокала рабіць? І на людзей нават забыліся: чакайце, маўляў, пакуль мы, нарэшце, што-небудзь вырашым. Але ж з тае пары і шанаваць сталі яго. Зразумелі, што і ён з характарам, моцны, значыць. Зразумелі, што і жартаваць з ім не варта, небяспечна. Зразумелі, што многае ў ім ад старэйшага брата, што страшны ён у гневе. Сведкі выбуху нават сцвярджаюць, што бачылі над рэактарам штосьці падобнае на той страшны грыб.

Вось і сталі думу думаць: як жыць далей з братамі гэтымі роднымі. Са старэйшым, відавочна, усё ясна. Надакучыў ён усім, ніхто не хоча жыць з ім разам. Ну, туды яму і дарога, не варты ён добрых да сябе адносін. А з малодшым як быць?

А вось як. Раз ён таксама не мірны, знішчыць яго, забараніць! Адна пазіцыя. Іншым усё ж шкада развітвацца з ім, служыў ён сваю службу і не дрэнна служыў. Але і паблізу з ім адчуваеш сябе неяк няўтульна. Давайце ж зберажом яму жыццё, але вышлем куды-небудзь у месцы аддаленыя. Хто ж мае рацыю?

Анатоль Пятровіч Аляксандраў, які мае непасрэдныя адносіны да нараджэння такога тыпу атамных рэактараў, зрабіў на сваёй кнізе, якую падарыў майму сябру Гарохаву Васілю Іванавічу, надпіс: «Болей за ўсё шкадую, што дажыў да гэтага дня».

Што ж, пасля таго, як нават у акіяне, не гаворачы ўжо аб нейкім Чорным моры, суднам удаецца сутыкацца, распрацоўшчыкам хуткаходных марскіх і акіянскіх гігантаў таксама варта пашкадаваць, што да гэтага дажылі? А да якой высновы павінны тады прыводзіць даволі частыя чыгуначныя катастрофы? А самалёты, якім нават трох вымярэнняў не заўсёды хапае, каб размінуцца?

Не, не людзям, што аддалі ўвесь свой талент і ўсе свае сілы справе стварэння самай сучаснай тэхнікі, варта шкадаваць аб тым, што дажылі да дзён панавання безадказнасці і безгаспадарчасці, некампэтэнтнасці і элементарнага невуцтва тых, хто прызваны працаваць на гэтай тэхніцы. Канечне ж, і гэты рэактар, і тыя караблі, цягнікі, касмічныя апараты, і ўсё тое, чым валодае сучаснае чалавецтва, не з'яўляецца гранічным. Ды інačай і быць не можа, у тым жа і сэнс прагрэсу: тэхніка сённяшняга дня павінна быць больш дасканалай за ўчарашнюю, а заўтрашняя — больш надзейнай за сённяшнюю. Не сакрэт жа, што сутыкнуцца двум караблям у вялізным акіяне ці нават у моры не так і проста. Але, аказваецца, можна, калі пастарацца. А як стараліся загнаць у тупік Чарнобыльскі рэактар! Здзіўляцца прыходзіцца не таму, што ён узарваўся, а таму, як ён доўга супраціўляўся.

Найвышэйшая кваліфікацыя, кампетэнтнасць, і, што, напэўна, важней за ўсё, адказнасць, гаспадарскія адносіны да сваёй справы павінны ў сваю чаргу стаць вызначальнымі меркамі нашага сённяшняга і заўтрашняга грамадства. І паняцце адказнасці павінна ўключаць у сябе найперш здольнасць прымаць на сябе ў складаных сітуацыях увесь цяжар гэтай адказнасці.

Як многа трагічнага звязана і ў Чарнобылі менавіта з тым, што ў патрэбны момант адпаведныя людзі не змаглі ці не пажадалі ўзяць на сябе адказнасць за рашэнні, якія належала прыняць тэрмінова. А яны старанна пазіралі ў рот начальству: што скажа тое. Тое таксама палічыла найлепшым заняць тую ж пазіцыю. Вось і калілася гэтая хваля безадказнасці знізу ўсё вышэй і вышэй, пакуль не разарваўся дзесьці гэты ланцужок. Хуткасць жа бюракратычнай хвалі куды ніжэй за ўсе вядомыя хвалі ў прыродзе. Некаторыя ланцужкі разарвала самім выбухам, а многія ўзніклі пасля яго, прыводзячы сваім доўгім раскручваннем да трагедый, не меншых за гэтую.

Вось, пэўна, у чым справа. Вось, відаць, тое, што патрэбна ламаць найперш, калі мы не хочам заўтра ці пазаўтра пачуць пра новыя трагедыі. Убітая ў нашы галовы за многія дзесяцігоддзі (а можа і стагоддзі) псіхалогія «вінцікаў» ці «шасцярэнек» зусім засланіла ў нас псіхалогію вольных людзей, якія нясуць на сабе бярэмя самастойнасці і адказнасці за ўсё, што мы робім, за ўсё, што навокала нас адбываецца. Калі мы не зразумеем гэтага і ў самыя сціслыя тэрміны не перабудуем сваю псіхалогію, не зоймем актыўную пазіцыю ў жыцці, падобныя катастрофы стануць непазбежнымі.

Ёсць над чым падумаць! І як найхутчэй дзейнічаць! Хто ведае, колькі часу адпушчана нам да наступнай трагедыі?

Георгій ЛЕПІН.

# АТАМНАЙ БОМБЕ — НЕ! А АТАМНАМУ РЭАКТАРУ?..





# на зямлі бацькоў

Вёска Гаўрылоўка нездарма славутая: яна ж самая ўсходняя і першай на Беларусі сустракае сонца. Але не гэта прынесла ёй вядомасць. На жаль, нават і не тое, што ў вайну была самым першым на нашай зямлі вызваленым ад ворагаў населеным пунктам. А славіць Гаўрылоўку... звычайны певень, бо спявае, як кажа дзед Віктар, ажно на тры губерні.

Дарэмна шукаў я на карце ўсходнюю вёску. Паехаў. Спачатку на Магілёў, потым на Хоцімск, затым на Ліпаўкі. А адтуль пайшоў. І ўбачыў маўклівую, асірацелую, бязлюдную вёску, хаты з забітымі вокнамі. І падумаў, што хоць ты і першая, Гаўрылоўка, ды ўсё ж крайняя, апошняя. Была ты, мусіць, вялікаю, а сталася — пяціхаткаю.

У першай хаце жыве ўдава.

У другой хаце — дзед з бабаю.

Гаспадар трэцяй — удавец.

У чацвёртай — дзед з бабаю.

А ў пятай...

Бегаў за пеўнікам дзед, ганялася баба. І я памагаў. Злавілі ўсё-ткі кукурэку, аддалі ў рукі старэйшага жыхара. Віктар Ігнатавіч Холалаў і яго кабета Аўдоцця, вядома, хваляваліся, бо мелі гонар сфатаграфавацца для гісторыі са славутым пеўнем, які штораніцы будзіць Магілёўскую, Смаленскую і Бранскую вобласці. Па шчаслівай ці нешчаслівай долі стаіць Гаўрылоўка якраз на стыку трох памежжаў.

А дзед Віктар, каб мне не забыцца, падказвае: «Запішыце, запішыце, што я — праўнук таго самага Гаўрылы, імем якога названа вёска».

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

свой магазінчык на вуліцы Клін'янкур, на Манмартры. Яна, мабыць, зможа расказаць вам больш за мяне. Пан Луі заходзіў і да яе. Неяк мы загаварылі з ім пра яе, і ён сказаў, што яна прадае розныя рэчы для новапароджаных. Смешна.

— Што смешна?

— Што яна, старая дзеўка, такое прадае.

— Ну, дзякую. Я яшчэ зайду да вас.

— У вас ёсць якая-небудзь здагадка наконт забойцы?

— Ніякай,— прызнаўся камісар.

— Кашалёк у яго ўкралі?

— Не. І гадзінніка не ўзялі.

— Ну, тады яго, мабыць, пераблыталі з кімсьці іншым.

Каб трапіць на вуліцу Клін'янкур, Мегрэ трэба было прайсці праз увесь горад. Ён зайшоў у бар і патэлефанаваў у камісарыят.

— Жанв'е слухае.

— Нічога новага?

— Хлопцы ўсе разышліся згодна з вашымі загадамі.

Уранку Мегрэ загадаў сваім пяці інспектарам размеркаваць між сабою кварталы Парыжа і абысці ўсе магазіны і лаўкі, каб высветліць, дзе забойца або ягоны памагаты мог купіць нож. Сантоні атрымаў заданне сабраць інфармацыю аб Моніцы Турэ.

Калі б у пані Турэ быў тэлефон, Мегрэ неадкладна пазваніў бы ёй, каб даведацца, ці браў нябожчык з сабою апошнія тры гады абед, загорнуты ў цырату.

— Жанв'е, прышлі па мяне машыну. Я на вуліцы Бондзі. Буду чакаць насупраць кінатэатра «Адраджэнне».

Потым камісар даручыў Жанв'е распытаць у магазінах на бульвары Сен-Мартэн, ці ведаюць там Луі Турэ. Праўда, такое заданне ўжо атрымаў інспектар Невэ, але ў такіх справах, дзе прыходзіцца спадзявацца на шчаслівы выпадак, лішняя праверка ніколі не зашкодзіць.

— І дай фота ў газеты. Няхай яны і далей паведамляюць аб справе Турэ як аб самым банальным забойстве.

— Зразумеў. Высылаю машыну.

Было холадна, і, згадаўшы, як кансьержка з нагоды візіту Турэ бегала ў краму па кальвадос, Мегрэ выпіў кілішак. Потым, засунуўшы рукі ў кішэні, перайшоў цераз бульвар і зазірнуў у тупік, дзе забілі Турэ.

Мабыць, ніхто не звярнуў асаблівай увагі на газетныя паведамленні аб забойстве: Мегрэ вельмі доўга стаяў ля вітрын ювелірнага магазіна, але ніводны чалавек так і не зазірнуў у тупічок пацікавіцца.

У магазіне працавалі пяць ці шэсць прадаўцоў. Надта дарагіх вырабаў не было. На большасці тавараў віселі этыкеткі «Рэкламная цана». Было багата брыльянтаў, пераважна фальшывых, сустракаліся, напэўна, і сапраўдныя. Заручальныя пярсцёнкі, будзільнікі, насценныя гадзіннікі, не вельмі густоўныя.

Звярнуўшы на камісара ўвагу, да дзвярэй з ветлівай усмешкаю падышоў прадавец, збіраючыся запрасіць нерашучага, як ён, напэўна, падумаў, пакупніка ў магазін, але Мегрэ рушыў далей.





— Будзьце ласкавы, гляньце, што там у кашальку.

Праверыўшы кашалёк, пані Турэ зноў нахмурыла бровы.

— У Луі не было столькі грошай уранку.

— Вы ўпэўнены?

— Я ж кожную раніцу правяраю, ці ёсць у яго грошы. Ён ніколі не бярэ з сабою больш як тысячу дзвесце, тысячу трыста.

— Можа, ён сёння атрымаў грошы?

— Ды не, цяпер жа канец месяца.

— Калі ён вяртаўся ўвечары, у яго заўсёды заставаліся грошы?

— За вылікам тых, што ён выдаткоўваў на метро і цыгарэты. А на цягнік у яго праязны.

Яна не рашалася пакласці кашалёк сабе ў сумку.

— Напэўна, ён вам яшчэ патрэбны?

— Пакуль што патрэбны.

— Я ніяк не магу зразумець, чаму ў яго гэтыя гальштук і чаравікі. І чаму, калі ўсё гэта здарылася, ён не быў у сябе ў магазіне?..

Нічога не адказаўшы, Мегрэ папрасіў яе распісацца на бланках.

— Вы паедзеце дамоў?

— Калі мы зможам забраць цела?

— Напэўна, праз дзень ці два.

— Яго будуць ускрываць?

— Магчыма. Але не абавязкова.

Пані Турэ паглядзела на гадзіннік.

— Праз дваццаць хвілін адыходзіць наш цягнік,— сказала яна сястры і звярнулася да Мегрэ: — Ці не маглі б вы давезці нас да вакзала?

— Ты не будзеш чакаць Моніку?— запыталася ў пані Турэ сястра.

— Яна можа вярнуцца сама.

Вяртаючыся з Ліёнскага вакзала ў паліцыю, Мегрэ і Сантоні яшчэ раз зірнулі з машыны сёстрам услед.

— Ведзьма!— прабурчэў Сантоні па дарозе з вакзала на набярэжную Арфэўр.— Нябозе, відаць, было не надта весела.

— Ва ўсякім разе, з ёю.

— Што вы думаеце пра гэтыя чаравікі? Калі б яны былі новыя, можна было б падумаць, што ён іх купіў сёння...

— Цікава, ці падобная на маці дачка?

Заехалі ў піўную перакусіць. Мегрэ патэлефанаваў жонцы і сказаў, што не ведае, калі вернецца.

Калі яны пад'ехалі да камісарыята, вартавы-паліцэйскі паведаміў

— Вас пыталася нейкая дзяўчына. Кажа, што вы яе выклікалі. Я адправіў яе ў вашае бюро.

— Даўно?

— Хвілін дваццаць назад.

Туман зноў змяніўся дажджом, і пыльныя прыступкі лесвіцы стракацелі мокрымі слядамі. Большасць пакояў ужо апусцела. Але





ніры з марскога ўзбярэжжа... Не было як прайсці праз залу... Часта адзін толькі пан Луі і мог знайсці патрэбны тавар...

— Ён быў кладаўшчыком?

— Кладаўшчыком. Ён заўсёды хадзіў у шэрым халаце. Справа, вось у гэтым куце, стаяў за шкляной перагародкаю стол пана Каплана, малодага, бо пасля першага ўдару стары ўжо больш не прыходзіў у магазін. З панам Максам сядзела сакратарка, панна Леон, а бухгалтар быў там, на першым паверсе. Ніхто тады і не думаў, што ўсяму гэтаму хутка настане канец. І вось аднаго дня, у кастрычніку ці ў лістападзе, не магу сказаць больш дакладна калі, памятаю адно, было ўжо холадна, пан Макс сабраў усіх і аб'явіў, што закрывае фірму і прадае тавар іншаму аптавіку. Усе тады думалі, што дом будзе знесены і тут пабудуюць кінатэатр. Усе жыльцы атрымалі паведамленне аб зносе. Многія выехалі. А іншыя не сталі спяшацца і не памыліліся: жывуць сабе тут спакойна дагэтуль.

— А вы знаёмы з пані Турэ?

— Ніколі не бачыла. Яна жыла ў прыгарадзе, у Жувізі...

— Яна там і цяпер жыве.

— Вы яе бачылі? Якая яна?

Мегрэ адно скрывіўся.

— Так я і думала. Пан Луі не меў дома шчасця. Толькі тут ён яго і знаходзіў. І ўдар ён перанёс цяжэй за іншых: ён ужо быў у такіх гадах, калі цяжка мяняць лад жыцця.

— Колькі яму было тады?

— Сорак пяць ці сорак шэсць.

— Вы не ведаеце, чым ён займаўся потым?

— Не. Ён ніколі мне пра гэта не казаў. Відаць, цяжка яму бывала. Доўгі час ён зусім не заходзіў. А аднойчы ўранку я ішла па бульвары — раптам бачу яго на лаўцы. Мяне ажно скаланула. Не такому ж чалавеку, як пан Луі, сядзець на лаўцы ў гэткую пару! Я ўжо хацела падысці да яго, але падумала, што яму будзе няёмка, і прайшла міма.

— Праз колькі часу пасля закрыцця фірмы гэта здарылася?

У павільёне было вельмі холадна і кансьержка прапанавала:

— Хочаце зайсці да мяне пагрэцца?.. А колькі часу прайшло, цяжка сказаць. Відаць, гэта было ў канцы зімы, бо бралася ўжо на цяпло, але дрэвы яшчэ не зазеляненлі.

— А калі вы яго зноў убачылі?

— О, прайшло шмат часу!.. У самы разгар лета. Найбольш мяне здзівіла тое, што на ім былі чаравікі... колеру дзіцячага паносу... Чаму вы так гледзіце на мяне?

— Так проста. Працягвайце.

— Гэта не ў ягонай звычцы. Я заўсёды бачыла на ім толькі чорныя чаравікі. Ён зайшоў да мяне і паклаў на стол маленькую скрыначку, белую, з залатой стужкаю — у ёй былі шакаладныя цукеркі. Сеў на гэтае крэсла. Я згатавала каву, потым збегала ў краму, купіла пляшку кальвадосу, а ён застаўся пасядзець за мяне ля ўвахода.

— Што ён расказваў вам?



вы маглі калі-нікалі разам абедаць.

— Здаралася.

— Часта?

— Не. Рэдка.

— Вы заходзілі да яго ў магазін?

Дзяўчына вагалася.

— Мы сустракаліся ў рэстаране.

— Вы званілі яму?

— Ніколі.

— Калі вы абедалі з ім апошні раз?

— Некалькі месяцаў назад. Да адпачынку.

— Дзе?

— У «Эльзасе». Гэта рэстаранчык на Севастопальскім бульвары.

— Ваша маці ведала пра гэта?

— Не памятаю. Думаю, я ёй казала.

— Ваш бацька быў вясёлы чалавек?

— Вясёлы. Ва ўсякім разе, на маю думку.

— А здароўе ў яго было добрае?

— Ён ніколі не хварэў.

— Сябры ў яго былі?

— Мы бывалі пераважна ў маіх цётак і дзядзькоў.

— Яны жывуць у Жувізі?

— Так, непадалёк ад нас. Дзядзька Альбэр, муж цёткі Жанны, і сказаў мне, што бацьку забілі. Цётка Селіна жыве трохі далей.

— Панна Моніка, а вы сустракаецеся з якім-небудзь маладым чалавекам?

Дзяўчына сумелася.

— Не будзем зараз пра гэта. Мне трэба паглядзець на бацьку?

— Вы што маеце на ўвазе?

— Як я зразумела з дзядзькавых слоў, мне трэба будзе апазнаць цела.

— Вашы маці і цётка зрабілі ўжо гэта. Але, калі вы хочаце...

— Не. Я ўбачу яго дома.

— Пачакайце яшчэ трохі, панна Моніка. Вам прыходзілася сустракаць вашага бацьку ў Парыжы ў жоўтых чаравіках?

— У жоўтых чаравіках?— паўтарыла яна задуменна.

— Не зусім жоўтых, хутчэй бэжавых. У мой час, даруйце за выраз, такі колер называлі «дзіцячым паносам».

— Нешта не памятаю.

— А чырвонага гальштука на ім не заўважалі?

— Не.

— Вы даўно хадзілі ў кіно?

— Учора пасля абеду.

— У Парыжы?

— У Жувізі.

— Не буду вас больш затрымліваць. Думаю, вы зможаце сесці на цягнік...

ў некаторых яшчэ гарэла святло.

— Мне застацца з вамі? — спытаўся Сантоні.

Мегрэ кіўнуў. Раз ужо пачаў расследаванне з ім — будзе з ім і працягваць.

У чакальні сядзела дзяўчына ў блакітным капялюшыку. Твар з-за слабага святла разгледзець было цяжка. Дзяжурны, які чытаў вячэрнюю газету, далажыў:

— Гэта да вас, шэф.

— Я ведаю.

Звяртаючыся да дзяўчыны, Мегрэ запытаўся:

— Панна Моніка? Хадземце, калі ласка, у мой кабінет.

Мегрэ запаліў настольную лямпу. Святло ўпала на крэсла, і калі камісар прапанаваў дзяўчыне сесці, то адразу заўважыў сляды слёз на яе твары.

— Дзядзька ўсё мне сказаў.

Мегрэ загаварыў не адразу, прыглядзеўся да дзяўчыны. Яна, як і маці, трымала ў руцэ насоўку, але сціскала яе неяк па-дзіцячы, усё роўна як мяла камяк пластыліну.

— Я думала, што заспею маму ў вас.

— Яна паехала дадому.

— Як яна?..

Ён не ведаў, што адказаць.

— Ваша маці — мужная жанчына.

Моніка здалася камісару абаяльнай: не падобная да маці, праўда, таксама ў целе. На ёй быў вельмі элегантны касцюм, што здзівіла Мегрэ: пакупка, відавочна, была зроблена ў дарагім магазіне.

— Каму ж спатрэбілася ягонае жыццё?— Слёзы зноў з'явіліся ў яе на вачах.

Камісару чамусьці здавалася, што яна не зусім шчырая. Маці таксама трымалася насцярожана, аднак, калі ўлічыць характар, у якім Мегрэ паспеў сёе-тое ўгледзець, то яе можна было зразумець. Пані Турэ здавалася ганебным, што яе мужа зарэзалі ў нейкім цёмным тупіку. Яна заціснула жыццё, і сваё, і сваёй сям'і, у строгія рамкі, і гэтая смерць выходзіла з іх. Ды яшчэ гэтыя жоўтыя чаравікі і амаль што чырвоны гальштук!

А дачка нібыта баялася пытанняў.

— Вы добра ведалі бацьку?

— Ну... вядома...

— Вы, пэўна, ведалі яго так, як дзеці ведаюць сваіх бацькоў. А я пытаюся ў вас, ці давяраўся ён вам, ці гаварыў з вамі пра сваё асабістае жыццё...

— Ён быў добрым бацькам.

— Ён быў шчаслівы?

— Напэўна.

— Вы калі-небудзь сустракаліся ў Парыжы?

— Не разумею. Вы маеце на ўвазе, на вуліцы?

— Я ведаю, што вы вярталіся дамоў рознымі цягнікамі. Але



— Нічога асаблівага. Адчувалася, што яму прыемна дыхаць паветрам нашага дома.

— Так нічога і не сказаў пра сваё новае жыццё?

— Я запыталася, ці задаволены ён сваім цяперашнім жыццём, ён сказаў, што задаволены. Ва ўсякім разе, ён больш не сядзеў ва ўстанове, бо была раніца, дзесяць—адзінаццаць гадзін. Другі раз ён прыйшоў пасля абеду, і на ім быў вельмі яркі гальштук. Я трохі пасмяялася з яго, што ён стараецца маладзіцца, але ён зусім не пакрыўдзіўся — пан Луі мала калі сердаваў. Потым я загаварыла пра ягоную дачку — я яе ніколі не бачыла, але ён паказваў мне яе здымак, калі ёй было ўсяго некалькі месяцаў. Нячаста сустракаеш чалавека, які так ганарыцца сваім дзіцём. Ён усім расказваў пра дачку і заўсёды насіў з сабою яе картку.

Мегрэ згадаў: у кішэні ў Турэ ніякіх іншых фатаграфій Монікі, апроч здымка зусім маленькай дзяўчынкі, не знайшлі.

— Як гэта здарылася? — спыталася кансьержка.— Ён мучыўся?

Ні пані Турэ, ні Моніка не спыталіся пра гэта.

— Доктар кажа, што не, памёр імгненна.

— І дзе ж яго забілі, нябогу?..

— Ды зусім побач. У тупічку на бульвары Сен-Мартэн.

— Каля ювелірнага?

— Так. Нехта падлавіў яго там і ўсадзіў нож у спіну.

Наконт нажа Мегрэ тэлефанаваў у экспертызу, і яму сказалі, што нож самы звычайны, шырока распаўсюджаныай маркі, які можна купіць практычна ў любой краме. Ён быў новы, адбіткаў пальцаў на ім не выявілі.

— Бедны пан Луі! Ён так любіў жыццё!

— Ён быў вясёлым чалавекам?

— Ва ўсякім разе, сумным яго назваць было нельга. Не ведаю, як вам растлумачыць. Ён з усімі быў ветлівы і ўважлівы, кожнаму стараўся сказаць што-небудзь прыемнае. І ніколі не імкнуўся набіць сабе цану.

— А жанчынамі ён цікавіўся?

— О не, што вы! Хоць мог іх мець колькі хацеў бы. За вылікам пана Макса і старога бухгалтара ён быў адзіны мужчына ў магазіне, а нашыя ўпакоўшчыцы дужа цнатлівымі не выдавалі.

— Ён піў?

— Шклянку віна ў дзень, як і ўсе мы. Зрэдку кілішак лікёру.

— А дзе ён абедаў у час перапынку?

— Ён заўсёды палуднаваў на працы. Пакладзе на край стала свой «тармазок»,— ён яго ў кавалачак цыраты загортваў, я гэтую цырату як цяпер памятаю,— і есць стоячы. А потым ішоў на двор выкурыць люльку. І зноў за працу. Праўда, іншы раз некуды выходзіў, казаў тады, што ў яго спатканне з дачкою. Але гэта было вельмі рэдка, у самым канцы, калі дачка стала ўжо паненкаю і працавала ў Парыжы. Я пыталася ў яго: «Чаму вы яе ніколі нам не пакажаце? Я б так хацела зірнуць на яе!» Ён усё абяцаў, што неяк на днях пакажа. Але так і не паказаў. Не ведаю, чаму.

— А вы ведаеце, дзе цяпер сакратарка, панна Леон?

— А як жа! У мяне ёсць яе адрас. Яна жыве са сваёй маці, у яе цяпер



— Праз трыццаць пяць хвілін.

Яна паглядзела на гадзіннік, узнялася, але не пайшла адразу, а затрымалася на імгненне.

— Да пабачэння,— сказала яна нарэшце.

— Да пабачэння, панна. Дзякую вам.

Мегрэ праводзіў дзяўчыну і зачыніў за ёю дзверы.

## 2. ТАЎСТАНОСАЯ ПАННА

Мегрэ, сам не ведаючы чаму, заўсёды вылучаў участак Вялікіх бульвараў паміж плошчаю Рэспублікі і Манмартрам. Уласна кажучы, гэта быў ягоны квартал. Сюды, у кінатэатр на бульвары Бон-Нувэль, непадалёк ад тупічка, дзе забілі Луі Турэ, ён пешшу, пад руку са сваёй жонкаю, заходзіў амаль кожны тыдзень. Побач, якраз насупраць кінатэатра, была піўная, дзе ён любіў перакусіць сасіскамі з капустаю.

Далей, у накірунку да Оперы, бульвары рабіліся свабаднейшыя, але тут, паміж Сен-Мартэн і плошчаю Рэспублікі, яны хутчэй нагадвалі нейкія змрочныя траншэі, у якіх, бы ў мурашніку, віруе жыццё — часам ажно галава кружылася ад усёй гэтай мітусні.

Раніца была шэрая і халодная, але не такая сырая, як напярэдадні. Мегрэ выйшаў з дому а палове дзевятай і за чвэрць гадзіны, не спяшаючы, дайшоў да вуліцы Бондзі. Недзе тут, у фірме «Каплан і Занэн», і працаваў Луі Турэ ўсё сваё жыццё, у тым ліку, мабыць, і ў дзень сваёй гібелі.

Пошукі патрэбнага нумара прывялі Мегрэ да старой, занядбанай будыніны. Уваходныя дзверы былі адчынены насцеж, па абодвух баках віселі розныя шыльдачкі: «Урокі машынапісу», «Продаж пёраў», «Набіўка матрацаў», «Юрыдычны кансультант», «Дыпламаваная масажыстка».

Кансьержка раскладвала пошту па скрынях.

— Дзе тут фірма «Каплан і Занэн»? — спытаўся Мегрэ.

— Шаноўны пан, праз месяц будзе ўжо тры гады, як фірма перастала існаваць.

— І вы ўвесь гэты час жылі тут?

— Я жыву тут ужо дваццаць шэсць гадоў.

— А ці ведалі вы Луі Турэ?

— Яшчэ як! А што з ім здарылася, вы не скажаце? Ён не заходзіў да мяне ўжо некалькі месяцаў.

— Ён памёр.

— Божа літасцівы... Такі здаровы мужчына! Што з ім здарылася? Сэрца, мабыць?..

— Яго забілі ўчора пад вечар ударам нажа ў спіну.

Кансьержка ажно здрыганулася.

— Я яшчэ не чытала сёння газет...

Пра гібель Луі Турэ ў газетах было згадана ўсяго ў некалькіх радках, як пра банальнае здарэнне.



— І хто гэта мог забіць такога добрага чалавека?.. Дваццаць тры гады ён хадзіў міма майго пакоя пад лесвіцай, праходзіў па чатыры разы на дзень і кожны раз казаў мне што-небудзь прыемнае. Калі пан Каплан закрыў фірму, пана Луі нібыта падкасіла...

Кансьержка выцерла слёзы і высмаркалася.

— Пан Каплан яшчэ жывы?

— Я вам магу даць яго адрас. Ён жыве на плошчы Ма... Выдатны чалавек, але зусім іншы. Яго бацька, напэўна, такса... яшчэ жывы.

— Чым яны гандлявалі?

— Як, вы не ведаеце гэтай фірмы?!

Яна так здзівілася, што можна было падумаць, увесь свет павінен ведаць фірму «Каплан і Занэн».

— Я з паліцыі,— растлумачыў Мегрэ.— Мне трэба ведаць усё, што датычыць пана Турэ.

— Для нас ён быў проста панам Луі. Усе яго так і звалі, многія нават не ведалі ягонага прозвішча. Пачакайце, калі ласка, хвілінку...

Яна таропка рассовала астатнія лісты па скрынях, прычыніла дзверцы ў грубцы і накінула на плечы шаль.

— Пан Луі забіты! Хто б мог падумаць! Такі чалавек... Хадземце. Я пакажу вам дом. Яго павінны былі знесці яшчэ тры гады назад і пабудаваць на гэтым месцы кінатэатр. Жыхароў загадзя папярэдзілі, я нават з'язджала да сваёй дачкі ў Ньеўр. Таму пан Каплан і закрыў сваю фірму. А можа, яшчэ і таму, што апошнія гады справы ў яго былі няважныя: ягоны сын, пан Макс, глядзеў на жыццё зусім не так, як бацька... Хадземце сюды...

Яны прайшлі ў вялікі ўнутраны двор, і камісар убачыў павільён са шкляным дахам, падобны на вакзальнае памяшканне. Над уваходам можна было яшчэ прачытаць колькі літар на аблезлай шыльдзе «Каплан і Занэн».

— Калі я пасялілася тут, Занэнаў ужо не было. Справы вёў стары Каплан. Ён быў такі падобны на Дзеда Мароза, што дзеці на вуліцы спыняліся і глядзелі яму ўслед.

Замок на дзвярах у павільён быў вырваны. Усярэдзіне — розрух. Які быў гэты свет, дзе яшчэ тры гады назад жыў Луі Турэ, уявіць было цяжка.

Велізарная зала з паўразбітым шкляным дахам, уздоўж сцен, як у фешэнебельным магазіне, адна над адной — галерэі; прылаўкі і паліцы былі зняты, але на сценах яшчэ заставаліся сляды ад іх.

— Кожны раз, калі пан Луі заходзіў да мяне...

— А ён часта гэта рабіў?

— Раз у два—тры месяцы. І заўсёды прыносіў што-небудзь смачнае... Я адчувала, што на душы ў яго цяжка... Памятаю, у пана Каплана працавала да дваццаці ўкладчыц, а то і болей, у перадсвяточныя дні даводзілася працаваць і ўначы. Пан Каплан вёў аптовы гандаль, прадаваў тавар дробным гандлярам. Чаго толькі ў яго не было! Прыстаўныя бароды, кардонныя свістулькі, шары, карнавальны серпанцін, маскі, суве-

# СЛУЖБА



# ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**ДА ЧЫТАЧА.**

**Тым летам «Узаемадапамога» атрымала цікавы ліст з Адэскай вобласці. Яго аўтар, Ганна Мартыненка, з захапленнем пісала пра свой цудоўны край, пра апеты ў песнях горад «ля самага сіняга мора». Паведамляла, што жыве непадалёк ад узбярэжжа, мае даволі прыстойныя ўмовы і запрашала на лета ў госці беларускую сям'ю, пажадана з Чарнобыльскай зоны, на адпачынак. Прычым бясплатны. На вялікі жаль, мы не змаглі надрукаваць гэты ліст па тэхнічных, як гаворыцца, прычынах: у рэдакцыі ўжо планаваўся дзесяты, «асенні» нумар часопіса. Мы паведамілі пра гэта аўтару і папрасілі яе паўтарыць сваё запрашэнне, калі будзе такая магчымасць, налета.**

**Вось, уласна, і ўсё. А нагадалі мы пра гэты ліст таму, што ён класічна, калі можна так сказаць, адпавядае прызначэнню нашага клуба. Нашы сталыя падпісчыкі, якія памятаюць «Узаемадапамогу» з часу яе зараджэння, могуць прыгадаць, што асноватворным правілам нашага «статута» было: шчыры ўдзел у чужым лёсе, бескарыслівая дапамога аднаго чалавека другому.**

**«Служба ўзаемадапамогі», уласна, і нарадзілася з падборкі аналагічных пісьмаў, якія назапасіліся ў рэдакцыйнай пошце і, надрукаваныя асобна, самі па сабе, выглядалі б крыху выпадковымі на старонках літаратурна-мастацкага выдання. Звядзеныя ж разам, яны ўтваралі своеасаблівы клуб міласэрнасці, гарача падтрыманы чытачамі. І пайшлі лісты... Бацька, у якога дзеці павырасталі, прапаноўваў зацікаўленым сем'ям цацкі толькі за ўсмешку на вуснах малога, аўтаамататар гасцінна запрашаў у свой экіпаж спадарожніка, які добра ведае грыбныя мясціны, хатні майстар дзяліўся сваім нескладаным, але надзвычай дасціпным і карысным у хатняй гаспадарцы вынаходствам, калекцыянер шчодра аддаваў незнаёмаму калегу па захапленню рэшткі сабранага за многія гады скарбу...**

**Словам, з выхадам першых выпускаў «Узаемадапамогі» рэдакцыйная пошта ўзрасла больш чым утрая. Характэрна, што прапановы дапамагчы, у параўнанні з надзеямі атрымаць дапамогу, займалі ў гэтай пошце ўсё меншую і меншую ўдзельную вагу. Што ж, жыццё ёсць жыццё: «дай» чалавек пакуль часцей гаворыць, чым «на». Затое ніводзін «крык аб дапамозе» не застаўся без увагі нашых чытачоў, людзі не заставаліся раўнадушнымі да чужой бяды ці звычайнай неўладкаванасці ў жыцці.**

**Мусім таксама адзначыць, што з цягам часу тэматыка «Узаемадапамогі» пачала крыху звужвацца. Пад націскам чытацкіх пажаданняў, а часам і патрабаванняў, усё большае месца ў ёй сталі займаць лісты з просьбамі дапамагчы ўладкаваць асабісты лёс, уратаваць ад адзіноты. Ідучы насустрач такім пажаданням і добра разумеючы, што сёння праблема адзіноты людзей, іх усё нарастаючай узаемнай адчужанасці набывае небывалую вастрыню, мы нават надрыхтавалі некалькі спецыяльных, тэматычных выпускаў, прысвечаных гэтай праблеме. І наперад не маем намеру грэбаваць гэтай часткай пошты «Узаемадапамогі».**

**Але, тым не менш, будзем памятаць і пра нашы традыцыі, часцей вяртацца да ўласных вытокаў. Менавіта зыходзячы з гэтага, уносім НЕКАТОРЫЯ КАРЭКТЫВЫ ВА ЎМОВЫ РАБОТЫ «СЛУЖБЫ ЎЗАЕМАДАПАМОГІ» (поўнасцю друкуем іх перыядычна; апошняя публікацыя— у сёлетнім першым нумары).**

**УЛІЧВАЮЧЫ, ШТО ПЕРАВАЖНУЮ БОЛЬШАСЦЬ ПОШТЫ СКЛАДАЮЦЬ СЁННЯ ЛІСТЫ, У ЯКІХ ВЫКАЗВАЕЦЦА ЖАДАННЕ ЗНАЙСЦІ СЯБРА ЦІ СПАДАРОЖНІКА ЖЫЦЦЯ, МЫ БУДЗЕМ АДБІРАЦЬ ТОЛЬКІ ТЫЯ З ІХ, АЎТАРЫ ЯКІХ САМІ ПРАПАНУЮЦЬ ЧЫТАЧАМ ДАПАМОГУ, РАСПАВЯДАЮЦЬ ПРА НЕШТА КАРЫСНАЕ, ЦІКАВАЕ, СВАЁ. Гэта, дарэчы, дапаможа нам і селекцыраваць неяк нашу пошту, бо надрукаваць усе пісьмы, што паступаюць на адрас аддзела, пры ўсім нашым жаданні мы не зможам і за дзесяць гадоў.**

**Да таго ж, прапанаваная дапамога стане і своеасаблівай «аплатай» за публікацыю, бо, як вынікае з умоў работы «Службы ўзаемадапамогі», грошай за аб'явы рэдакцыя «Беларусі», у адрозненне ад усіх нашых выданняў, не бярэ — лічым, што грэх гандляваць людскім болем.**

**ВЕЛЬМІ СПАДЗЯЁМСЯ, ШТО НАША НОВАЯ ПРАПАНОВА БУДЗЕ ГОРАЧА ПАДТРЫМАНА ЧЫТАЧАМІ.**

**А цяпер — некалькі лістоў з нашай пошты.**

## АДРАСЫ — ПА ЎСЁЙ ПЛАНЕЦЕ

Міжнародны клуб па перапісцы прапануе Вам руку дапамогі і сяброўства. Мы наладзілі сяброўскія сувязі са 130 краінамі свету. Мэта клуба: знаёміць паміж сабой людзей з розных краін у імя міру і дружбы на ўсёй Зямлі. Пры рабоце з карэспандэнцыяй мы ўлічваем узрост, захапленні, веданне замежных моў, жаданне перапісвацца з паплечнікамі з той ці іншай краіны.

Адна ўмова: звяртаючыся ў «Дружбу», дашліце разам з пісьмом адзін-два-тры чыстыя канверты. Савет клуба.

Наш адрас: 220131, г. Мінск, вул. Гамарніка, 35, МКП «Дружба».

## НЕ ШУКАЮ ЗОЛУШКУ

Я адзін з тых, хто шукае свой лёс. Спрабаваў знаёміцца сам, але ўсё праваліралася. Я не шукаю Золушку, мару сустрэць звычайную дзяўчыну, пажадана, каб рост яе быў 170—175 см, адукацыя і нацыянальнасць значэння не маюць. Галоўнае, каб яна была душэўнай, пяшчотнай і марыла жыць у вёсцы.

Пра сябе: сімпатычны вясковы хлопец, 22 гады, працую інжынерам-электрыкам у калгасе, маю асобную кватэру. **Уладзімір.** (306).

## ПЕСНЯ ЗАСТАЕЦЦА З ЧАЛАВЕКАМ

Шмат гадоў чытаю ваш часопіс, і ён мне вельмі падабаецца. Сябрую з «Узаемадапамогай». Каб гэта сяброўства было двухбаковым, вырашыла сама звярнуцца да вас з просьбай. Справа ў тым, што я вельмі люблю музыку. І не толькі сучасную, але і запісы мінулых гадоў. Да прыкладу, у маёй душы заўсёды гучыць голас спевака Валерыя Абадзінскага. Слухаеш яго — і на сэрцы робіцца цяплей. Шкада, што ў мяне няма пласцінкі з яго запісамі. Толькі маю два магнітафонныя запісы. Дзве песні. Вось і звяртаюся да чытачоў «Узаемадапамогі»: можа ў каго захаваліся пласцінкі з запісамі Валерыя Абадзінскага? Паведаміце, і мы дамовімся, як я змагу іх перапісаць. Ці, можа, пагодзіцеся прадаць мне іх ці памяняць на патрэбныя вам?

Спадзяюся, што знайду аднадумцаў. Можаце пазваніць у Івянец па тэлефоне 53-9-30. Ці спісылайцеся на індэкс.

**Надзея.** (307).

## МАЕ ДЗВЕРЫ АДЧЫНЕНЫ ДЛЯ ДАБРЫНІ

Мая просьба не зусім звычайная. Але найперш крыху пра сябе. Адна выхоўваю чатырох дзяцей. Жывецца вельмі цяжка. Старэйшая дачка, 13 гадоў, хворая, астатнія — зусім малыя: 5, 3 гадоў і 9 месяцаў. Адной і цяжка, і адзінока, і страшна, бо вельмі многа ў нас крыўдзіцеляў.

Мне 36 гадоў, выглядаю маладзейшай, хударлявая, невысокая, не дужа моцная на здароўе.

А шукаю я жанчыну ці мужчыну пенсійнага ўзросту для сумеснага пражывання, у якіх няма родных і жылля. Толькі прашу не пісаць асоб з месц пазбаўлення волі. Я не п'ю, не куру, веру ў Бога, цікаўлюся ўсім на свеце. Дзеці разумныя, добрыя, спакойныя. Сама крыху вяжу, шыю, займаюся гародам. Буду добрай дачкой таму, хто адгукнецца. Маці мая памерла даўно, а з бацькам адносіны не скляліся. Не жыву, а мучуся на белым свеце. Апроч гора і слёз, нічога не бачу.

Дапамажыце, людзі добрыя, дзверы для вас адчынены.

**Людміла.** (308).

## ЗІРНЕШ НАВОКАЛ — МАСКІ...

Да вас звяртаецца ваш пастаянны чытач, студэнт сельскагаспадарчага інстытута. Першы раз у жыцці пішу ў часопіс.

Жадаю адзначыць, што клуб «Служба ўзаемадапамогі» вельмі патрэбны, таму што ёсць такія людзі, якія з-за сваіх сарамяжлівых рыс характару не могуць знайсці спадарожніка жыцця. Асабліва цяжка сустрэць свой ідэал на дыскатэцы ці ў іншых падобных месцах, калі на ўсіх тварах маскі, а павадзіны артыстычныя, і ўсе не такія, якія ёсць на самай справе.

Раней да такіх рубрык, як ваша, я ставіўся з усмешкай, але жыццё балюча даказала сваё...

**Сяргей.** (309).

## ДВА ЛІСТЫ Ў АДНЫМ КАНВЕРЦЕ

Пішуць вам дзве сяброўкі, якія жывуць па суседству ў адным горадзе. Надрукуйце, калі ласка, нашы аб'явы, можа, гэта дапаможа нам у пошуку надзейных спадарожнікаў жыцця.

**ПЕРШАЯ.** Хацела б пазнаёміцца з маладым чалавекам 24—28 гадоў. Мне 22 гады, рост 164 см, руская. Адукацыя хутка будзе вышэйшая. Цікавая, вясёлая маладая асоба. Шкодных звычак не маю, вяду здаровы лад жыцця, інтарэсы разнастайныя. 227760, Гомельская вобласць, г. Мазыр, бульвар Юнацтва, д. 16, кв. 42, Пашковай Ларысе Аляксееўне.

**ДРУГАЯ.** Інтарэсы ў мяне таксама самыя разнастайныя. Як кажуць, «ад» і «да». Хачу сустрэць надзейнага мужчыну 24—30 гадоў. Беларуска. Рост 172 см. Люблю гатаваць. Працую ў гандлі. Мару аб сямейным жыцці, заснаваным на ўзаемаразуменні, адданасці, дабрыні. Адкажу на пісьмо з фатаграфіяй. 247760, Гомельская вобласць, г. Мазыр, бульвар Юнацтва, д. 16, кв. 72, Жураўскай Наталлі Мікалаеўне.

## ДАВЕРЦЕ МНЕ СВАІХ ДЗЯЦЕЙ!

Па стану здароўя я не магу мець дзяцей. Але я іх вельмі люблю. Жыву цяпер з бацькамі. Ведаю, што яны не вечныя. Памруць — хто мяне дагледзіць у старасці?

Напэўна, недзе ёсць жанчына з дзецьмі, якім вельмі патрэбен бацька. Дарагія жанчыны! Даверце мне сваіх дзяцей, чырванець вам за мяне не давядзецца. Маю 29 гадоў. Без шкодных звычак. Рост 182 см.

**Саша.** (310).

**Падрыхтавала Алена ШАБАЛІНА.**

**Фота Алены АДАМЧЫК.**





Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.

# «ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ АД «а» ДА «h»

Адразу зраблю паясненне: гаворка пойдзе пра энцыклапедычны слоўнік, прысвечаны шахматам, таму і алфавітны пералік пойдзе зусім іншы — ад «а» да «h». Слоўнік пад рэдакцыяй экс-чэмпіёна свету міжнароднага гросмайстра Анатоля Карпава ўбачыў свет увосень мінулага года, і прызначаецца ён кваліфікаваным шахматыстам, трэнерам, суддзям, педагогам, увогуле шырокаму колу аматараў старажытнай гульні. Галоўная задача слоўніка — сістэматызаваць і абагульніць асноўныя звесткі па розных выданнях шахмат і прадставіць іх у папулярнай форме масаваму чытачу.

Ці вырашылі аўтары гэтай працы сваю задачу? Мяркую, што так. У слоўніку каля трох (!) тысяч артыкулаў. Тут і цікавыя даведкі пра гісторыю шахмат, тэорыю, спаборніцтвы з дадаткам выніковых табліц чэмпіянатаў СССР, Еўропы, свету, шахматных Алімпіяд і г. д.

Значнае месца ў слоўніку адводзіцца біяграфіям вядучых шахматыстаў мінулага і сучасных дзён, шахматным кампазітарам, вядомым дзеячам савецкага і міжнароднага шахматнага руху, шахматным гісторыкам, літаратарам, журналістам.

Хто прымаў удзел у падрыхтоўцы гэтага унікальнага выдання? Усіх пералічыць проста немагчыма, і я прыгадаю толькі некалькі найбольш вядомых аматарам шахмат аўтараў: Р. Бірн (ЗША), Б. Кажыч (Югаславія), Р. Кін (Англія), Г. Фларыян (Венгрыя) і іншыя.

І яшчэ. Энцыклапедычны слоўнік ставіць на мэце навучыць чытачоў... гуляць у шахматы. Ні болей, ні меней...

Ну, а цяпер некалькі фрагментаў.

Знаёмцеся, калі ласка: М. М. Бацвіннік. Нарадзіўся 17.8.1911 г. у Ленінградскай вобласці. 6-ты ў гісторыі шахмат чэмпіён свету і 1-шы савецкі чэмпіён свету (1948—57, 1958—1960, 1961—1963), міжнародны гросмайстар, заслужаны майстар спорту СССР, 7-разовы чэмпіён СССР, заслужаны работнік культуры РСФСР, доктар тэхнічных навук, прафесар.

А цяпер — давайце гуляць, як Бацвіннік.



**М. Бацвіннік — Р. Капабланка (1938 г.).**

30. Ca3 Ф : a3 31. Kh5gh 32. Фg5+ Kpf8 33. Ф : f6+ Kpg8 34. e7 Фc1+ 35. Kpf2 Фc2+ 36. Kpg3 Фd3+ 37. Kph4 Фe4 38. Kp : h5 Фe2+ 39. Kph4 Фe4+ 40. g4 Фe1+ 41. Kph5,1 : 0.

Гартаю слоўнік і... знаходжу сваю партыю. Як даўно гэта было...



**Г. Агзамаў — В. Купрэйчык (чэмпіянат СССР, 1981 г.).**

24. ...Фb8 25. Фe2 b3 26. Cd Фb4 27. Лd2 e4 28. Kf4 Лa1 29. Лh3 Cc3 30. C : b3 C : d2+ 31. Ф : d2 Л : b1+ 32. Kp : b1 Ф : d2 33. Ke6 Лb8 34. d8Ф+ Л : d8 35. K : d8 e3 36. Ke6 e2 37. Лh1f4, 0 : 1.

Як даўно гэта партыя гулялася. І — зусім нядаўна.

Энцыклапедычны слоўнік памятае ўсё...

# КРАСВОРД



1. Караткаствольная артылерыйская гармата. 2. Пяцігуцільны выступ вала або крапаснай сцяны для вядзення бакавога агню. 3. Барс. 4. Умоўная назва аперацыі беларускіх партызан па разгрому чыгуначных камунікацый ворага ў гады Вялікай Айчыннай вайны. 5. Аўтар партрэта Цёткі. 6. Літаратурны твор у форме ўспамінаў аўтара аб падзеях мінулага. 7. Беларус, першы Герой Савецкага Саюза. 8. Група караблёў, якія ідуць адзін за адным. 9. Асоба, узнагароджаная ордэнам. 10. Прыстасаванне ў выглядзе вялікага парасона для спуску з самалёта. 11. Ваеннае форменнае адзенне. 12. Савецкі авіяканструктар. 13. Карціна М. Грэкава. 14. Караткаствольная вінтоўка. 15. Аптычны прыбор. 16. Савецкі пісьменнік, аўтар трылогіі «Жывыя і мёртвыя». 17. Генерал арміі, Герой Савецкага Саюза. 18. Невялікі ўзброены вайсковы атрад для нагляду за парадкам і бяспекай у пэўным раёне, месцы. 19. Гармата. 20. Савецкі канструктар авіяцыйных рухавікоў. 21. Адзін з кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці. 22. Момант узлёту ракеты. 23. Рашучая атака ўмацаванай пазіцыі. 24. Ваенны з часцей лёгкай кавалерыі ў царскай арміі. 25. Маршал Савецкага Саюза, чатыры разы Герой Савецкага Саюза. 26. Станок, на якім замацоўваецца ствол гарматы. 27. Ізаляванае аддзяленне карабля, самалёта. 28. Урачысты агляд войск. 29. Горад на Магілёўшчыне. 30. Сукупнасць узброеных сіл дзяржавы.

Склаў Валерый ПІНЧУК.

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД «АНАГРАМЫ», ЗМЕШЧАНЫ Ў № 1.

**П а г а р ы з а н т а л і.** 5. Рэктар. 6. Апломб. 10. Карат. 11. Арган. 12. Заранка. 15. Секта. 16. Аванс. 18.Варта. 19. Патрон. 20. Карнет. 24. Мазут. 25. Траса. 26. Цукар. 28. Капітан. 32. Бурак. 33. Казка. 34. Клопат. 35. Дракон.

**П а в е р т ы к а л і:** 1. Тэнар. 2. Казна. 3. Аплік. 4. Змора. 7. Паркет. 8. Уладар. 9. Саната. 13. Кантата. 14. Званіца. 16. Апорт. 17. Слава. 21. Барсук. 22. Цаліна. 23. Частка. 27. Сапло. 29. Анчар. 30. Акорд. 31. Народ.



# СНЕЖНЫ ЧАЛАВЕК

(ГУМАРЭСКА)

— Вось паглядзі,— ткнуў пальцам у газету Алесь, звяртаючыся да суседа Міхася, які зайшоў да яго на пасядзелкі,— пра што піша Вітаўт Мартыненка.

— Пра што?

— Пра снежнага чалавека.

— А ўсё-такі дзіўна. Хоць і пішуць, а ніхто толкам сказаць не можа, дзе ён жыве, як у снягах начуе,— задумлена прамовіў Міхась.

— І нічога дзіўнага,— спакойна вымавіў Алесь.— Загартуецца чалавек — ніякі мароз яго не возьме. Вось, скажам, наш загадчык гаспадаркі: колькі разоў яго з снежных гурбаў выцягвалі? Безліч. Але ён пасля гэтага нават не чыхне.

— Ха, прыраўняў,— хмыкнуў Міхась.— Загадчык гаспадаркі дзе загартоўваецца? У буфеце! А ў снежнага чалавека ня тыя магчымасці. Яму, мабыць, і ў галаву не прыйдзе выпісаць хамуты, а атаварыцца «Белавежскай»...

— Магчыма, муміё смокча? — робіць меркаванне Алесь.

— А гэта што яшчэ такое? Мацней за «Белавежскую»? — узнімае бровы ўгару Міхась.

— Смала такая. Кажуць, у гарах вядзецца і вельмі карысная. Насмокчацца яе снегавік, і самы моцны мароз яго не пройме, ніякая балячка не прычэпіцца.

— Няхай сабе так. Але мяне яшчэ вось што дзівіць,— вядзе далей рэй Міхась.— Сляды бачаць, а гаспадара іх знайсці не могуць. Дык жа зараз такая тэхніка: і верталёты, і спадарожнікі. Нарэшце, можна пусціць па слядах пошукавых сабак.

— Ды што той сабака зробіць?! Вось, напрыклад, наш аднавясковец Зміtрок Людчык тройчы жаніўся, ва ўсіх жонак ёсць дзеці, а аліментаў на іх не плаціць аніводнай. Ніяк выканаўчы ліст яго не дагоніць. І жыве не дзесьці ў гарах, на якія трэба ўзбірацца немаведама як, а ў месце ці вёсцы. А бач, слядоў не знаходзяць...

Міхась раскрывае рот, каб не[illegible]а запярэчыць суседу, але Алесь рашуча ўскідвае руку:

— Або іншы прыклад. Наш кладаўшчык Самусь Сідорчык. Слядоў ягонай шматграннай дзейнасці — хоць адбаўляй. Зяцю даміну выбудаваў — палац! Сыну «Ладу» купіў, сваё падвор'е так «аздобіў»-адбудаваў — сто тысяч дадуць! На «Масквічы» раз'язджае. А зарабак які месячны ў яго?! Палова, а то і меней нашага. І, як кажуць, ён і ў вус не дзьме. Ходзіць сабе, ключамі пабрынквае...

Не, што б там у газеце Вітаўт Мартыненка ні пісаў, а снежныя людзі так проста ў рукі не даюцца.

Пятрусь КАПЧЫК.

## НІШТО САБЕ ПРАПАГАНДА

Сёння ў клубе будуць дэманстравацца кіначасопісы на тэму: прапаганда медыцыны, спорту і алкагалізму.

(З аб'явы).

## БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

Ва універмаг паступілі дзіцячыя імпартныя калялскі. Іх продаж будзе ажыццяўляцца толькі ветэранам вайны.

(З аб'явы).

Уладзімір ШКАБРОЎ.

СТАРОНКА АСТРОЛАГА

# АКТЫЎНЫЯ ЗНАКІ

**ВЫПУСК ДРУГІ**

У адрозненне ад прадстаўнікоў актыўных **зямлі** і **паветра**, якіх з-за стройнай паставы, рухомасці, дынамічнасці характару звычайна ў асяроддзі астролагаў называюць «лёгкімі» або нават «лёгкай стралковай зброяй» Зямлі, людзей, якія нарадзіліся пад актыўнымі знакамі **агню** і **вады** нярэдка ці то жартам, ці то ўсур'ёз называюць «цяжкай артылерыяй» нашай планеты. Перш за ўсё, пэўна, таму што нават з выгляду яны больш важныя, нярэдка вышэйшыя ростам, а галоўнае — больш спажываюць, захоўваюць і аддаюць навакольным біялагічнай энергіі. Гэта акумулятары жыццёвых сіл у поўным сэнсе слова. Праўда, **агню** цяжэй знайсці крыніцу энергаспажывання, затое лягчэй аддаць асяроддзю і людзям яго лішкі, у той час як **вадзе** даводзіцца думаць не столькі аб спажыванні, колькі аб раўнамерным размеркаванні ў самой сабе лішняй энергіі і асабліва аб збаўленні ад яе. Гэта зусім не так проста, як здаецца: лішнія «зарады» прыносяць **агню** і **вадзе** мноства непрыемнасцей.

Такім чынам, **III квартал — ліпень, жнівень, верасень.**

Тут актыўнасць прыпадае на спякотны жнівень, гэта ў прамым і пераносным сэнсе час людзей уладарных, гарачых, здольных на дзёрзкія, неардынарныя ўчынкі, гатовых кіраваць светам. Гэта час **агню**, «гарачых» халерыкаў. Для мужчын перыяду з **20 ліпеня па 19 жніўня** ён самы спрыяльны. Яны смелыя, жорсткія, нарабістыя, дужыя духам і целам, гатовыя да барацьбы і пераадолення любых перашкод. Змагаючыся словам і справай супраць бюракратызму, несправядлівасці, яны імкліва ўзлятаюць угору па службовай лесвіцы, нібы заскокваюць удала ў падрыхтаваны да іх паслуг ліфт. Апранаюцца яны строга, любяць традыцыйныя касцюмы, гальштукі, дарагія пальчаткі(?)… ы. У грамадзе трымаюцца нязмушана, упэўнена, нібы адчуваючы сваю патэнцыяльную перавагу над усімі.

Галоўная мэта халерыка — улада, калі не ў калектыве, то над блізкімі людзьмі, каханай жанчынай. Яны грубаватыя ў інтымных адносінах, але фізічна вынослівыя, стабільныя, часам маўклівыя, упартыя. Як правіла, з такіх людзей атрымліваюцца ўдалыя палкаводцы, палітычныя дзеячы, буйныя кіраўнікі. Адчуваючы іх аўтарытэт, фізічную моц, вялікія рэзервы волі, іх паважаюць і крыху пабойваюцца.

Аднак ёсць ахілесава пята і ў «гарачых» — яны надзвычай адчувальныя да адносін блізкай жанчыны да іх. Нярэдка нестабільнасць у гэтых адносінах становіцца каменем сутыкнення, ломіць звыклы ўклад жыцця актыўнага халерыка. Уласцівае яму жаданне ўлады падштурхоўвае да валодання нечым або некім. Калі гэта ўдаецца (што бывае амаль заўсёды), ён становіцца сапраўдным гладыятарам (у лепшым сэнсе слова) у сям'і, на рабоце, сярод сяброў. Калі ж каханая жанчына не хоча падпарадкоўвацца, адхіляе дыктат над сабой, «гарачы» пачынае нервавацца, нярэдка выкарыстоўвае фізічную сілу. Супраціўленне раздражняе яго, парушае жыццёвую стабільнасць, у выніку можа нават прывесці да п'янства, дэградацыі асобы.

Менавіта таму вы павінны супакойваць яго, хваліць, захапляцца яго дасягненнямі, па-мацярынску песціць і, нават не пагаджаючыся ў нечым, не падаваць выгляду (ніхто вам не перашкаджае зрабіць па-свойму). Раўнівы, запальчывы жнівеньскі халерык звычайна ў сям'і прытрымліваецца строгіх традыцыйных поглядаў. Лёгка паддаецца ўнушэнню, прыслухоўваецца да чутак і плётак. Вядома, ён не вышуквае падстаў да сямейнага скандалу, але ўсё ж упарта жадае ведаць усё, што звязана з яго сяброўкай. Даведаўшыся пра нешта непрыемнае, ён імгненна «ўскіпае», але гэтак жа хутка «астывае» і, як правіла, усё даруе. Тым не менш здольны папракаць яе ўсё жыццё, як толькі западозрыць нейкі холад да сябе. Ведаючы ўсё гэта, вы павінны не дапускаць канфліктных сітуацый, бо ў сям'і гэты чалавек — надзейная, амаль «каменная» сцяна і трывалая апора. Да таго ж, як правіла, гэтыя мужчыны любяць тэхніку, аўтасправу, цудоўныя работнікі, умеюць зарабіць і забяспечыць сям'ю.

А вось пра «гарачых» жанчын нельга сказаць, што ім пашанцавала з нараджэннем — яны не вельмі ўдачлівыя, калі не больш таго. Яны таксама імкнуцца да ўлады і нярэдка дасягаюць намечаных вышынь, але ім перашкаджае, што нават у сям'і яны патрабуюць большай увагі да сябе, чым заслугоўваюць, што выклікае пратэст блізкіх і непакорнасць мужчыны. А калі апошняга няма ў жыцці жнівеньскай жанчыны, яна пачынае «джаліць» сама сябе, псуючы настрой і нервовую сістэму. Лепшыя лекі ад гэтай «хваробы» — расшырэнне кола знаёмстваў. Зносіны з незнаёмымі людзьмі на танцах, вечарах, канцэртах, у тэатры дапамогуць вам знізіць шкалу ўласных патрабаванняў, дадуць магчымасць перанесці на многіх назапашаную энергію.

Назавём найбольш аптымальныя знакі для «гарачых»:

**для жанчын**

нядрэнна — **20 ліпеня — 19 жніўня (агонь),**

прымальна — **20 студзеня — 19 лютага (паветра),**
**20 мая — 19 чэрвеня (паветра),**
**20 верасня — 19 кастрычніка (паветра),**
**20 лістапада — 19 снежня (агонь),**
**20 сакавіка — 19 красавіка (агонь),**
**20 кастрычніка — 19 лістапада (вада);**

**для мужчын**

лепш за ўсё — **20 мая — 19 чэрвеня (паветра),**
**20 верасня — 19 кастрычніка (паветра),**

крыху горш — **20 студзеня — 19 лютага (паветра),**
**20 лістапада — 19 снежня (агонь),**
**20 кастрычніка — 19 лістапада (вада).**

## IV КВАРТАЛ — КАСТРЫЧНІК, ЛІСТАПАД, СНЕЖАНЬ.

У гэтым квартале самым актыўным з'яўляецца знак **вады** (з 20 кастрычніка па 19 лістапада), у якім засяроджана сіла флегматыкаў лістападаўскага перыяду. Тут няма асаблівых адрозненняў у характарах мужчын і жанчын, хіба што апошнія больш разважлівыя, вастрэйшыя розумам, увасабляюць спакойную мяккасць, плаўнасць і глыбіню асенніх вод.

Для асенніх флегматыкаў наогул характэрна глыбіня асэнсавання навакольнага жыцця, сваёго прызначэння ў ім, імкненне актыўна ўплываць на ход падзей у грамадстве, дапамагаючы разумнымі, абдуманымі парадамі. Мужчыны гэтага перыяду надзвычай інтэлігентныя, у манерах заўважаецца традыцыйнасць, кансерватызм, мноства нацыянальных рыс. Яны ветлівыя, нешматслоўныя, задуменныя. Любімы занятак — лагічнае асэнсаванне і ацэнка палітычных падзей. Сярод іх шмат вучоных, вынаходнікаў, рацыяналізатараў, творчых людзей. Апранаюцца строга і сціпла: англійскі касцюм, традыцыйны гальштук, а з гадамі і палачка — звычайнае ўбранне «лістападаўца».

З выгляду флегматыкі нярэдка здаюцца «таўстаскурымі» — яны найчасцей назапашваюць інфармацыю, не выказваючы сваіх да яе адносін, і толькі затым «усярэдзіне» пачынаюць яе перапрацоўваць. (Такіх людзей яшчэ называюць «генератарамі ідэй», бо яны, як правіла, многа ведаюць, але не спяшаюцца адкрываць навакольным сваіх магчымасцей.) На самай справе «лістападаўцы» могуць быць прыкладам у сямейных адносінах, яны цудоўныя мужы. Праблемы блізкіх маюць для іх першаступеннае значэнне, яны заўсёды клапатлівыя бацькі і ўважлівыя сваякі. Разам з тым яны схільныя да паўнаты, некалькі марудлівыя, не лепшыя партнёры ў любоўнай гульні. Надзвычай цэняць спакой і хатнюю ўтульнасць, таму, відаць, рэдка бываюць падарожнікамі.

Мужчынам гэтага знака раім варыянты:

найлепшы: — **20 кастрычніка — 19 лістапада (вада),**
**20 красавіка — 19 мая (зямля),**
**20 чэрвеня — 19 ліпеня (вада),**

нядрэнны — **1 студзеня — 19 студзеня (зямля),**
**20 жніўня — 19 верасня (зямля),**
**20 снежня — 31 снежня (зямля),**
**20 лютага — 19 сакавіка (вада).**

Жанчын-флегматыкаў можна лічыць увасабленнем лепшых рыс жонак, маці, клапатлівых сясцёр. Сям'і яны прысвячаюць большую частку свайго жыцця, хоць часта жывецца ім нялёгка — даводзіцца прытрымлівацца дыеты, займацца фізкультурай, вучыцца актыўнасці. Лепшы варыянт сябра для іх — усё той жа, што мы раілі мужчынам, уключаючы знакі **паветра** (20 мая — 19 чэрвеня) і **агню** (20 ліпеня — 19 жніўня).

Шчырая парада гэтым жанчынам: часцей бывайце «на людзях», старайцеся быць вясёлай, рухомай, вучыцеся рашучасці, смялей кіруйце абставінамі. І ўдача прыйдзе да вас!

Сяргей АНУПРЫЕНКА,
кандыдат філасофскіх навук.


БЕЛАРУСЬ

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

2 (626)
ЛЮТЫ
1991 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку. Мінск.




НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: **сустрэча ў Ватыкане — Папа Рымскі Ян Павел II і пісьменнік Адам Мальдзіс.** (Гл. стар. 14—15.)


Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.12.90.
Падпісана да друку 15.01.91.
Фармат 70×108¹/₈.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11,3.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 13 300 экз.
Зак. 1099.

Адрас рэдакцыі:
220600, Мінск, ГСП,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы
памерам не больш
як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

# «ВЫ ПРА ЗОРАК — ЗОРКІ ДЛЯ ВАС»

ФОТАВІКТАРЫНА

- Назавіце імя гэтай маладой прыгожай жанчыны.
- Якая падзея і ў якім годзе прынесла ёй вядомасць?
- Як склаўся яе далейшы лёс?

- Па ўмовах віктарыны той, хто правільна адкажа на ўсе пытанні, атрымае фотапартрэт «зоркі» з аўтографам.



Фота Івана БЯЛЯЕВА.



| САКАВІК | П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | ○1 | 2 | 3 | 4 | 5 | ☾6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | 11 | 12 | ●13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | ☽20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | 25 | 26 | 27 | ○28 | 29 | 30 | 31 | | | | | | | |

Фазы Месяца: ○ — 1—5 — поўня, ☾ — 6—12 — ветах, ● — 13—19 — маладзік, ☽ — 20—27 — сход, ○ — 28—3 красавіка — поўня.